Рэдактар Леанід Дранько-Майсюк

“Жалезная заслона з арнаментам” напісана ў Гродне. Прафесар А.Пяткевіч зазначае, што ў творы пераважае іранічна-сатырычная інтанацыя. Адметнасць у наступным, піша ён: “Трапны загаловак аб’ядноўвае сцэны пасяджэнняў высокіх чыноўнікаў, якія вырашаюць розныя дзяржаўныя пытанні. Сам выбар такіх пытанняў і ўзровень абмеркавання — самахарактарыстыка “міністраў”. Даюцца толькі галасы-дыялогі персанажаў. Але і такімі сродкамі ствараецца пераканаўчая сатырычная выява жыцця”.

А.Пяткевіч звяртае ўвагу на наступнае: “Жанравыя рысы фельетона, памфлета, літаратурнай карыкатуры спалучаюцца тут з народнымі жартоўна-анекдатычнымі прыёмамі. І сатырычная палітра пісьменніка выглядае даволі багатай. Праўда, аўтар, трымаючыся гратэску, злоўжывае і вульгарнай лексікай, якая хоць і ўкладзеная ў вусны несімпатычных персанажаў, далёка не ўсімі чытачамі будзе прынята”.

Аўтар улічыў заўвагі, зменшыў лічбу грубых слоў, хаця самыя нялатвыя пазначаліся шматкроп’ем.

Калісьці рыцары за круглым каменным сталом успаміналі крыжовыя паходы, а перад небяспекай памерці ад чумы, балюючы за драўляным, апавядалі неверагодныя байкі героі італійскага паэта. У пэўным сэнсе можна меркаваць, што С.Астравец падсвядома натхняўся падобнымі творамі.

Стэнаграфічная сага можа адбывацца на тэатральнай сцэне. Удзельнікі могуць уставаць, папраўляць перад люстэркам каўтуны, часова сыходзіць і вяртацца. Ім могуць прыносіць тэлеграмы, самавар, свежыя газеты. Часам можна ўключаць радыёнавіны. Яны могуць гуляць у крыжыкі-нулікі, марскі бой, у шахматы. Раздумваць над крыжаванкамі — таксама было б дарэчы.

Калісьці ў апавяданні “Дзверы” С.Астравец перадаў спрэчкі ў парламенцкім амфітэатры наконт паўстання і змагання за незалежнасць. Тэкст заканчваўся заўвагай: “Аўтар скарыстаў дакументы з архіваў фонду Ю.Пілсудскага за 1918 год, што знаходзяцца ў сховах бібліятэкі Ягелонскага універсітэта ў Кракаве”. Апавяданне было змешчана ў кнізе “Яньгчары”, Мінск, 1993.

У “Дзвярах” сярод дэпутатаў прысутнічала дама, стэнаграфістка. У “Жалезнай заслоне...” збоку на сцэне нядрэнна было б пасадзіць машыністку, стракаценнем машынкі часа-часам гукарэжысёр мог бы дадаваць дзеянню трывожнасці, рытму, напругі.

Не выключана, што дзея магла б зацягнуцца. Але тэатральная сцэна ведае такія прыклады. Оперная трагедыя ў пяці актах “Рыенцы, апошні трыбун” Рыхарда Вагнера працягвалася каля пяці гадзінаў. Прэм’ера адбылася 170 гадоў назад , у 1842 годзе ў Дрэздэнскай прыдворнай оперы. Спектакль пасля гэтага вырашана было падзяліць на два вечары, але публіцы хацелася ўсё адразу.

“Жалезная заслона з арнаментам” узнікала паступова, паасобныя часткі ў бягучым парадку друкаваліся: “Каўтун” у часопісе “Дзеяслоў”, “Яечнае пытанне”, “Рукі прэч ад Лукіча!” і “Царская гарэлка” — у газеце “Наша Ніва”. Стэнаграфічную сагу склалі сямнаццаць апавяданняў-пасяджэнняў.

## Змест

# ЖАЛЕЗНАЯ ЗАСЛОНА З АРНАМЕНТАМ

## КАЎТУН

### Пасяджэнне першае, пра галовы і знешні выгляд

Каўтун — наш крыж,
Каўтун — наш гонар,
Каўтун — наш сцяг,
які вядзе ўпярод.
Мы ўсе нашчадкі
Князя Каўтуна,
якога ворагі баялісь
як агня.
Ён быў з агнёва-рыжай
барадой —
з зарослым тварам,
як у зубра мыса.
Пісаў лацінаю паэт
пра пушчы ўладара:
ты не чапай яго,
і ён цябе не скрыўдзіць.
Такім і князь наш быў —
пагрозным,
але міралюбным,
паколькі дбаў не толькі
аб жніве крывавым —
сяўба была наўперад
клопатам яго.
Сявенькі бралі ўсе,
калі ўздыхала ніва —
ад ратая да ваяра.
Сам князь не грэбаваў —
сыпнуўшы першым
шчодру жменю
зярнятак сонных,
у якіх драмала да пары
адвечна прага сонца,
неба, вады і цёплай глебы.
Так — з каўтунамі іх
адлюстраваў

першадрукар наш
з Полацку
Францішак Скарына,
надрукаваўшы кнігі нам
з малюнкамі гравюр,
каб цікавей чыталісь.
Каўтун наш сцяг,
Каўтун наш гонар,
Каўтун — наш Крыж.

Кожная краіна мае адметнасці. У адной мужчыны носяць чалму, а жанчыны паранджу, у іншых любяць самбрэра або цюбецейкі. Галовы аздабляюць шыньёнамі, парыкамі, пучкамі пер'я, робяць процьму косак, заплятаюць у іх стужкі, пацеркі. А ў нас ёсць каўтуны. З летапісу вядома, што першы наш князь меў гэтую рэч у сябе на галаве. Жыццё было цяжкае, вакол дрыгва, багна, твань і гэтым усё тлумачыцца. Мыла не было зусім. Княская дружына з каўтунамі выглядала накшталт, як індзейцы з пер'ем у галовах. Наводзіла жах дружына княская. Адбіваючыся ў галовах ворагаў менавіта сваімі каўтунамі, якіх не мела ніякае іншае войска.

Вядомы гравюры кніжныя з тутэйшымі жыхарамі, у кожнага каўтун, і подпіс лацінскі kovtuns abyknaveny. Князь сцінаў каўтуны ваярам, якія збаяліся або не здолелі выканаць баёвы загад. Найвышэйшая ганьба, некаторыя сканчалі самагубствам, як самураі. Шляхетны звычай. Сёння пачалося адраджэнне традыцый, вяртанне да першакрыніц, да падставовых вартасцяў. Культываванне нацыянальных асаблівасцяў летапісных. Усё таму, што нашыя папярэднікі развучыліся весці за сабой слушнай дарогай, самі страцілі перакананасць, згубілі аргументы.

— Што гэта ў вас каўтун змяўся, не выспаліся, ці што? — цікавіўся на ранішнім пасяджэнні старшыня ўрада Кабяк. — Трэба сачыць за сабой, за сваім выглядам, народ па гэтым мяркуе аб стане ўлады. Калі мы ўсе з памятымі або з кудлатымі каўтунамі будзем сядзець у тэлевізары, што аб нас падумаюць у цывілізаваным свеце? Прачынайцеся, таварышы міністры, пара. Пачынаем наша пасяджэнне.

Каўтун, як ні дзіўна, падабаўся не ўсім. Былі ворагі нават, якія змагаліся супраць каўтуна, за еўрапейскі выгляд і гігіену. Нарфронт абвясціў здрадніцкі лозунг — “Без каўтуна — у Еўропу!” На дэманстрацыях трымалі галоўным чынам транспаранты “Каўтун — гэта ганьба”.

Усё гэта адбывалася шмат у чым праз неразуменне народных патрэбаў. Народу падабалася з каўтунамі. Апазіцыя прапагандавала мыла і шампунь заходніх рэкламных гатункаў. Народ жа ненавідзеў тэлерэкламу, якая перашкаджала глядзець кіно. Афіцыйная прапаганда папулярна тлумачыла: часта мыцца — чужая, заходніцкая звычка.

Народу падабалася ўпарадкаваная іерархічнасць. Агульнадзяржаўным каўтуном узнагароджваў старшыня ўрада. Ніжэйшыя ўлады мелі свае ганаровыя граматы і каўтуны — меншыя памерамі — адпаведна чым меншай была ўлада: выканкам губернскі, павятовы, сельвыканкам. Залатая фарба на граматах таксама выкарыстоўвалася гэтак жа.

Каб нікому не рабілася крыўдна, у краіне амаль штодня адзначалі прафесійныя святы. Вельмі часта з такой нагоды ўзнагароджвалі. Было і асобнае свята — Дзень каўтуна, асабліва любімае народам. У траўні, адразу пасьля Дня перамогі над ворагамі. На дзяржаўных дажынках каўтуны выдавалі героям жніва — камбайнёрам. Ганаровыя каўтуны даставаліся замежным гасцям і палітыкам, зрэшты нешматлікім, якія яшчэ сябравалі з Краінай Каўтуноў. Пуцяцін, Жырноў, Суцін, Баймурадаў, Манонаў, Аман-баша, Чумак Башкіравіч.

Апазіцыя і ўсе нядобранадзейныя — валацугі, паэты, мастакі засталіся без каўтуноў. Шум усчаўся. Аб правах чалавека. Людзі двух гатункаў! Прадуктовыя карткі горшыя і гэтак далей. Забыліся, што каўтун яшчэ трэба заслужыць. Звычайным грамадзянам таксама не ўсім давалі. У войску — адно элітным аддзелам. Амонаўцы атрымлівалі. Для якіх прыдумалі жалезныя будзёнаўкі, каб захоўваліся каўтуны. Крыху нагадвалі ку-клукс-клан. Дзяржбяспецы выдавалі каўтуны пагалоўна. Мусіла хадзіць заўжды ў шапках, нават у спёку, каб не вылучацца.

У кабінеце міністраў наяўнасць каўтуноў таксама была ўсеагульнай. Урадавая рэспубліка — такая існавала форма кіравання, як завяшчаў яшчэ пан Твардоўскі. Згодна адрэдагаванай зноўку канстытуцыі. Без парламента, як па сутнасці лішняга органа. Накшталт рудыментарнага, ад якога ніякай карысці, як ад копчыка, які з'яўляецца рэшткамі нашага хваста. Каўтун таксама некалі веча разагнаў, і адразу настаў парадак. Пра гэта пісалася ў Турэйскім летапісе, які, на жаль, не захаваўся.

Затое можна пачытаць Сагу аб дружыне княскай. — На Нямізе адбываецца крывавае жніво. Каўтуны сцінаюць, як калоссе — жмутамі, быццам снапы дажынкавыя. Сам Каўтун на той час ужо памёр. Вось такая гісторыя сівая.

Уся сталіца ўсцяж завешана аб’яўкамі: купім валасы, не карацейшыя за трыццаць два сантыметры. Каўтуны, згодна дзяржстандарту, павінны быць натуральныя. Першы выдаецца бясплатна. Але можа змокнуць, злямчыцца, таму запасныя — у продажы. Купіць можна толькі па дакументах. Спыніць патруль і спраўдзіць пасведчанне. Падробленыя трапляюцца. Тады — пятнаццаць сутак або штраф сто мінімалак.

Ды што просты народ, модніцы пачалі штучныя рабіць у падпольных цырульнях, заплятаць валасы ў каўтуны, шапкі на іх заказваць у Модным доме Салмана Салманава. Пра каўтун марылі ўсе, нават апазіцыя, толькі не прызнавалася. Цэлая індустрыя ўзнікла — спецшампуні, лакі, хімчыстка: “Каўтуны, старэйшыя за дзесяць год і неразабруджаныя — не прымаюцца”. Каўтун рабіўся ладам жыцця.

— Таварышы міністры, — распачынаў урадавае пасяджэнне прэм’ер, — штосьці мне не падабаецца ваш знешні выгляд. Чаму ў вас не стаяць, каўтуны вашы ў сэнсе? Павесілі, прабачце, як насы. Весялей трэба, больш аптымізму! Вось пагляньце, які ў мяне каўтун. Як агурок. Мне ж не жонка яго натапырвае, сам. А то гальштук жонка завяжы, кашулю папрасуй, чаравікі каб блішчэлі таксама. Сорамна, гаспада міністры! Так справа не пойдзе.

Ну вось вы, Раздрай Раздраевіч.

— Раздракавіч.

— Ну, прабачце. Чаму ваш каўтун нейкі млявы?

— Пад дождж трапіў, калі з машыны выходзіў.

— Пад дождж. А для чаго я ўсім членам кабінета футраныя цыліндры пашыў? З бабра. Насіць трэба, а то моль паб’е.

— Жарка цяпер у ім.

— Жарка! Не жарка, а — горача. Колькі разоў трэба паўтараць: каўтуны — нашыя візітныя карткі. Наша нацыянальная адметнасць. Як у народнай мудрасці: па каўтунах сустракаюць, па розуму праважаюць.

— Мы пра гэта не забываем, таварыш прэм’ер.

— Жарка яму! Я ў цыліндры прама заляцеў у Эміраты. Вось там сапраўды. І нічога, не сапрэў. А як узбекі ходзяць у папахах, вачэй не відно? Казбек Узбекавіч, раскажы яму, каб не баяўся цяпла і сонца. Ад пары касцей не ломіць. Яшчэ і чай гарачы з піялаў п’юць у папахах сваіх, у кучмах. Сярэднеазіяты. У Кушцы сваёй. Чай, дарэчы, тлусты, з тлушчам авечым. Але вас ніхто не прымушае. У нас чай “Бяседа” — “бяседуйце на здароўе!” Можа нам увогуле на пасяджэннях чай піць? Каб больш па-дамашняму было.

— Можна, чаму ж не.

— Як жа не, калі так?!

— Мы са сваімі кубкамі гатовы.

— А які хочаце — байхавы там, зялёны або кітайскі? Кітайцы малойцы, захавалі ўсё па-старому.

— Розны, канечне, бывае: і кітайска-мандарынскі, і "камасутра" ад індусаў.

— Ну, добра. Закончым дыскусіі. Паставім самавар і кропка. Электрычны. Двухвядзёрны. Нас тут многа. Вернемся да нашых каўтуноў, пачнем. Таварышы міністры, прашу праверыць свае каўтуны і заправіцца, як у войску гавораць. Неахайнасці я не пацярплю. Калі не ўмееш свой каўтун у парадку трымаць, які з цябе міністр? Калі ў цябе на галаве гармідар. Не каўтун, а капа.

Калі на галаве абы-што, дык што ў галаве тады? Якая форма, такі і змест. Толькі не крыўдуй, Рамзэс Шыракавіч. Крытыку і самакрытыку трэба развіваць.

Трэба заўжды трымаць сябе у форме. Быццам рыхтуешся на прыём да брытанскай каралевы. Там этыкет — будзь здароў. А то параспушчалі сябе, сядзіце за сталом з жыватамі, з пучкамі на галаве — як чыпаліны нейкія. Падзівіцеся на сябе! Часцей трэба перад люстэркам затрымлівацца. А то пагаліўся — і хутчэй за стол. Боршч сёрбаць.

— Няёмка перад жонкай. Мужчыны ўсё-такі.

— Не, ну так ніяк не гадзіцца, мужыкі. Каўтуны зусім не трымаюцца. І гэта ў членаў кабінета. Сорамна!

— Дождж кожны дзень.

— А хто прасіў у мяне дождж? Засуха-засуха! Парасоны купіце!

— Надта паветра вільготнае, парасоны не дапамагаюць.

— Нашы вучоныя мне далажылі. Новы сродак вынайшлі. Для замацавання каўтуноў. Як наладзім прамысловую вытворчасць — каб усе прыдбалі, а то несалідна перад рабочымі, калі міністрам — усё забясплатна. Насіць каўтун — гэта ўжо гонар, ужо прывілей.

Давайце паслухаем справаздачу сёння з каўтуннай фабрыкі. Што там з планам, гарыць? Кінь ты гэтыя парыкі, Хазбулат Уралавіч, пачакаюць. Каўтуны трэба. Больш і лепшай якасці. Зашмат яшчэ выпускаецца не вышэйшы гатунак. Для сучасных запатрабаванняў гэта нікуды не варта. Запомніце. А тое, што горшае — камбайнёрам. Ім, маўляў, не фарсіць па сталіцах. І што атрымліваецца? Наадварот! Такія ўмовы працы, што хутка псуецца. Ад пылу, ад поту, спёка, дажджы. Часцей трэба мяняць. Марнатраўства нейкае. У сталіцы мы маем лепшую якасць, можам ашчаджаць. Калі забрудзіўся — у

хімчыстку ці жонцы. Зноў просты народ пакрыўджаны, хоць і з каўтунамі.

— Не хапае валютных запасаў, каб усім лепшы гатунак.

— Трэба выкручвацца. Напрыклад, спартсмены зарабляюць медалі, прызы. Мы для іх нічога не шкадуем. Нашы спартсмены самыя высокія на Алімпіядах, апроч мурынаў. Там у іх племя цэлае ў Афрыцы ёсць. Адны кароткія зусім, другія наадварот. Такая катавасія. Бананы з дрэва зрываюць. Як жырафы. Але нашы з каўтунамі ўсё роўна сімпатычней глядзяцца. З паходнямі ў руках, са сцягамі. Люба-дорага паглядзець.

— У мяне, таварыш прэм'ер, будзе зараз паведамленне. У калгасе імя Парамон Парамоныча прыцягнулі народных умельцаў каўтуны рабіць з ільну.

— Гэта штосьці новенькае.

— Цікава атрымліваецца. Можна дрот хаваць унутр, і не падае тады. Увесь час тырчма.

— Каб толькі галаву, чаго добрага, не падрапаць.

— Ды не падрапаюць.

— Гэта ўсё ж-такі небяспечна. Я б такі, бадай не начапіў.

— Ну, гэта толькі эксперымент пакуль што.

Пасяджэнне транслявалася праз радыёкропку дзеля пашырэння публічнасці і дэмакратызацыі жыцця ў краіне.

— Што вы каўтунамі варушыце? Мазгамі трэба варушыць.

— Каўтуны добра не стаяць, радыяцыя сказваецца.

— Усё вам перашкаджае, як кепскаму танцору. Трэба даглядаць, пудрыць. Запасныя каўтуны трэба мець — дождж там ці яшчэ што здарыцца. Футаралы існуюць. Не эканомце! Несалідна, зарплаты ва ўсіх міністэрскія.

— Народ незадаволены. Як раней, гавораць, шчэць і шкуру кабаноў забіралі ў калгаснікаў, цяпер валасы ў цырульнях — каб абавязкова.

— Хай яны не выдумляюць, усё гэта ідзе на памыйку, у смецце.

— А на шыньёны?

— Гэта камерсанты-спекулянты толькі могуць абурацца, што ім перашкаджаюць нячэсныя грошы нажываць. Ніхто з іх не мае каўтуна свайго, дык хоць нажыцца, рукі свярбяць. Тут манаполія павінна быць дзяржаўная, як на гарэлку. Стратэгічны тавар. Каўтун яшчэ трэба зарабіць. Гэта не проста так, гэта не прывілей перш за ўсё, перш за ўсё гэта — абавязак. Трэба апраўдваць давер. А не проста начапіў і фарсіць толькі. Фарсуны нам тут не патрэбны. Тут у

нас кабінет міністраў, хачу гэта напомніць, хто забыўся. Ніхто, мабыць, міністрам без партфеля не хоча? Таму трэба працаваць і дбаць пра свой знешні выгляд.

Успомніце парыкі прыдворных. Што гэта у вас кепска завіты? Аляксандр Васілевіч, га? Нейкі зусім злямчаны. Перад слугамі непрыгожа. У нас наадварот, мы — слугі народа, але ўсё адно: паголеныя, прычасаныя і каб у парадку каўтун быў. З каўтуном сваім трэба любоўна. Абыходзіцца трэба, як з дарагой рэччу. Трэба несці свой каўтун з гонарам праз жыццё, каб не стала потым пакутна, сорамна і балюча за бязмэтна пражытыя гады. За свой збэшчаны каўтун...

Раптам міністры паўскоквалі, з вуліцы пачуўся стукат, звон. Кінуліся да вокнаў, пачалі расчыняць. З высокай і вялікай статуі Парамон Парамоныча, якая стаяла перад Домам урада, зваліўся на брук бронзавы каўтун... Піянеры, піянеры! Дзякаваць Богу, варта піянерская якраз адсутнічала!

Праз расчыненыя вокны пачуліся досыць архаічныя для вуха гукі. Пошчак капытоў. Ці конны Амон у жалезных будзёнаўках. Ці княская дружына.

## РАГУ З ЗАЕЧЫНАЙ
### Пасяджэнне другое, паляўнічае

— Так, дык што рабіць з зайцамі будзем, еці іх маць?

— Можа, таварыству паляўнічых даручыць?

— Піф-паф, і рагу згатаваць, — сэнсоўная прапанова.

— Сэн-соў-на-я-я... Даслухаць спачатку трэба. Я пра аўтобусных гавару.

— Пра аўтобусных?

— Пра тралейбусных і пра ўсякіх.

— Ах, пра несумленных пасажыраў, пра безбілетнікаў.

— Знаеце, калі дубальтоўка на сцяне, яна абавязкова стрэліць. Як піць даць.

— Прашу увагі. Мы тут падлічылі, у якую капейчыну нам ператвараецца зайцоўства, валасы дыбарам.

— Зайцы, яны самі па сабе сціплыя. Успомніце, як зайцы пайшлі, ці заяц адзін — тапіцца, бо ніхто яго не баяўся, толькі ён сам ад усіх шугаўся.

— Ну й што там далей было?

— Так, сапраўды — што?

— Бачу, дзіцям вы сваім не чытаеце нанач.

— Выраслі са штонікаў кароткіх.

— Калега, скончце і паставім кропку, вялікую і тлустую.

— Ну што-што? Пайшоў тапіцца, паглядзеўся ў ваду і спалохаўся яшчэ раз. А тут хтось — шусь, плясь у ваду. Жаба яго спалохалася. Ну, ён і передумаў тапіцца. Хто прыдумаў, што ў аўтобусах зайцы? Несумленныя, нахабныя, якія нічога не баяцца: ні Бога, ні чорта.

— А кантралёраў?

— Яны ўжо як тараканы нічога не баяцца — ніякай трасцы, ніякай атруты.

— “Зайцоўства”, як “зуброўства” — такі рух. Толькі ў гэтых маладыя, а ў зайцоў — розныя, усе ўзросты спатыкаюцца.

— Зайцы, у іх цэлая ідэалогія. Такі стары зацяты заяц гаворыць кантралёру нахабна: падыміце з магілы Мікіту і штрафуйце яго сабе на здароўе. Ён паабяцаў, што ў 80-м транспарт будзе поўнасцю бясплатны. А сёння які год?

— Ну, прыдумаў, Мікіту. Яго сто гадоў назад знялі.

— Знялі, але кодэкс маральны ніхто не адмяняў тады.

— Сам адмяніўся.

— Знаеце, зайцоў трэба ў тэатр. Дубальтоўка вісіць і пры канцы дзеі цынгель — лясь, і стрэліць.

— “Цынгель-цынгель, ой-ля-ля!”

— “Ішоў, ляснуўся, страціў прытомнасць, ачуняў: гіпс, закрыты пералом”.

— А мне показка ўзгадалася, пра Чапая. Злавілі байцы кенгуру, прывялі ў штаб. Меркавалі-меркавалі камандзіры: хто гэта? — ажно сам Чапай зрабіў нечаканую выснову — мяркуючы па яйцах, гэта стары-стары заяц. Праўда, смешна?

— Няпраўда. Мы тут не пахіхікаць сышліся, а што рабіць з зайцамі — вырашыць. Пытанне стаіць рубам: або яны, або мы. Або яны нас збанкрутуюць, альбо мы агораем, скруцім у бараноў рог, пераможам і прымусім іх купляць квіткі ці білеты — як каму больш падабаецца.

— Льготнікі таксама зайцы.

— Але згодна з законам.

— Але закон састарэў.

— Некаторыя лічаць, што закон як каньяк. Тая ж канстытуцыя амерыканская.

— Не адхіляйцеся. Гэта святыя рэчы. Зямля — сялянам, фабрыкі — рабочым, уладу — саўдэпам і камбедам.

— А бясплатны праезд — безбілетнікам.

— Інвалідам, ветэранам, ардэнаносцам!

— І ўсякім гэпэу, энкавэдэ, кэрэу, тфу!

— Ня плюйцеся ў нашай урадавай Думе, у храме думання.

— "Ты не лайся дзядзя пры радзімай народнай уладзе".

— А ці ведаеце, што зрабіў правадыр Вялікай Баварыі?

— Зрабіў бясплатны праезд?

— Жартуеце? Расстраляў зайцоў. Як той казаў, усё геніяльнае проста. Спынілі цягнік у чыстым полі, спраўдзілі квіткі. Выцягнулі ўсіх зайцоў за вушы, паставілі ланцугом і — тра-та-та! Навідавоку ўсяго цягніка. І зайцы зніклі як з'ява, за хвіліну.

— Хірургічны чын, апендыцыт зліквідаваны. Спрытнасць рукі са скальпелем. Жорстка, але дзейсна. Караючы меч рэвалюцыі, — гэта вы хочаце сказаць? Выняць з похваў?

— Прыехалі: што ж нам усім на зборы, зброю выдаць?

— А не шкодзіла б зрабіць атрад самаабароны, у свеце пахне смажаным. Зайцоў у свеце не любяць. Будзеш зайцом, трапіш у рагу, як певень у капусту варыцца.

— Чакайце, мы зараз есці захочам. А да абедзенага перапынку яшчэ не хутка.

— Але што ў нашым з вамі буфеце? Бутэрброды з шынкай, ніякай заечыны, ніякага рагу.

— "Косяць зайцы траву, трынь-траву на паляне". Ці памятаеце?

— "І пры гэтым напяваюць странныя слава: а нам усё раўно, а нам усё раўно, хоць баімся мы воўка і саву!"

— "Дзела ёсць у нас, у гэты позні час, мы валшэбную косім трынь-траву!"

— Вось бачыце: хоць баімся мы воўка і саву, а ўсё адно косім, робім сваю справу, прычым упоцемках, у цемры суцэльнай. Цямрэча егіпэцкая. Хіба баязлівец уначы стане гэтым займацца?

— "Федзя, дзіч!"

— "Дзіч жараная. Не сцы, не ўляціць".

— "Туалет ціпа сарцір з буквамі "мэ" і "жо", ха-ха-ха!" Класіку трэба ведаць, гэта залаты фонд кіна.

— Хаця ёсць яшчэ адна песенька: "Ты мая зайка, я твой, я твой..."

— "Ты мая банька, я твой тазік".

— Але гэта ўсё роўна не тое. Хаця мы не спяваць тут з вамі сабраліся, не дурэць, працаваць трэба. Зайцы — гэта сур'ёзна. А не проста там раман пана Зюзі ў кабачку на Пятніцкай.

— Зайцы — нават грошы такія былі раней.

— Зайчыкі.

— Сталі зайчыкамі, а спачатку былі зайцамі. Пойдзеш гарэлку купляць, а табе — з вас пяць зайцоў, ці дзесяць, ужо не памятаю.

— А потым гаварылі ўсе, што вы не людзі, а зайцы пагалоўна, бо нават грошы у вас зайчыкі. “Заечая капуста”, — ха-ха-ха!

— А што вы думаеце: трасемся як заечы хвост дагэтуль, не можам нават з зайцамі разабрацца па-мужчынску. А знаеце, як наш сход называюць за граніцай? “Дзед Карзай і зайцы”.

— Калі назваўся груздом, трэба з імі як з зайцамі — піф-паф і ў рагу! Якія могуць быць жарты? Яны рабуюць народную гаспадарку на мільёны. Трэба адказваць па закону!

— Так такога закону няма!

— Будзе!

— Што, напраўду есці іх будзем?..

— На тушонку, як тых кароў “свінцовых”, што атруціліся, і прадамо ў Молатаўскую губерню.

— Штосьці мне есці расхацелася.

— Так, нясмачна выглядае ўсё.

— Нам тут са слабымі нервамі не патрэбныя, мы тут дзяржаўнай важнасці пытаннямі займаемся. Назваўся груздом... А то абы расслабляцца: “кветкі жане, дзіцям марожанае”.

— “Паслізнуўся, упаў, гіпс, закрыты пералом”.

— “Руса турыста, публіка мараль!”

— “Сямён Сямёныч, ты чаго вусы збрыў?!”

— “Каму?”

— Зайцу, дурань!

— “Будзе вам кофа і какава з чаем! Казладоевы!” Знаеце, як трусоў — паміж вачэй лясь і мяса дыетычнае!

— Некаторыя зайцы вельмі нахабныя, палец у рот не кладзі, нічога не баяцца.

— А ты з ім раптоўна. Ён чакае ад цябе — штраф плаціце, грамадзянін! А ты яму — “у Вас вус адклеіўся”. Ён зніякавелы, прыгаломшаны. А ты яму: “Нашыя людзі на таксі ў булачную не ездзяць”. “Не ездзяць?” — адурэла адказвае ён рытарычным пытаннем. А ты яму: “Папаша, закурыць не найдзёцца?” Ён язык праглынуў. А ты яму: “Ты што, глуханямы?” Ён мычыць у адказ, а ты яго разам з дружыннікамі, з міліцыянерам — за каршэнь і ў варанок.

— І што, на мясакамбінат?..

— Паміж ва-а-чэй?

— Нам тут інтэлігенты слабанервовыя непатрэбны, “як сказаў шэф Міхал Іваныч”. Як гаворыцца, “ну, заяц, пачакай!” Усе любяць такое кіно?! “О, соля мія!”

— “Не вінаватая я!” А дамачка ніштаватая, згадзіцеся... Я тады ў яе, можна сказаць, закахаўся. Усё хадзіў у кіно запар.

— Можа, гэта не зусім гуманна? Правы чалавека і гэтак далей?

— Негуманна? Што вы хвасты падцялі, як зайцы?! Зімой-летам адным цветам. Праз іх колькі аўтобусаў не купілі новых ды ўсяго іншага. Душымся ў старых, на мулкіх сядушках... Колькі новых не купілі! Мультан Лукіч, назаві лічбы!

— Лічбы? Не ўзяў, здаецца. А ты яму, зайцу: у мяне тут у авосьцы пісталет, і “адзін баявы, на ўсякі выпадак”. Лягір Іваныч, стаў на галасаванне. Колькі можна цягнуць, пераліваць з пустога ў парожняе, буфет чакае. Я б ужо слана з’еў, а зайцоў можа і пару-тройку. Думаю, кожны ад зайца не адмовіўся б. А то колькі можна спяваць: “Кракадзіл не ловіцца, не расцёць какос”.

— “Плачуць, Богу моляцца, не жалея слёз!” — некалькі галасоў аднлачасова.

— “Відна ў панядзельнік іх мама радзіла! Што ані не дзелаюць, не ідуць дзяла!” — больш-менш хорам.

## ЯЕЧНАЕ ПЫТАННЕ
### Пасяджэнне трэцяе, геральдычнае

— У нашым гербе нам трэба спалучыць яйкі і зямны шар, так мінулым разам вырашылі і будзем думаць. У нас сёння эксперты — з паляўнічай гаспадаркі, аматары птушак усякія. Прашу не адседжвацца, хто першы?

— Проста два яйкі, як нехта казаў, будзе неэстэтычна. Могуць быць яйкі ў гняздзе, піраміда з яек. І голуб міру каб.

— Якія яйкі, чые? У крапінку, белыя, карычневатыя, калі міністэрства нетраў паведамляе пра экземпляры з Чырвонай кнігі...

— Апроч зямнога шара — пальмавыя альбо міртавыя галіны — каб накшталт вянка.

— Яловыя могуць быць таксама.

— Пахавальныя?

— Навагоднія! Вы ж на свята ўзімку не бярозу аздабляеце, елку.

— А можа чарапашыныя ўзяць? На чым зямля трымаецца, ці трымалася хай? У нашых продкаў, канечне.

— На чарапахах, на сланах...

— Ну, на сланах! Ведаеце, якія ў іх?! З іх афрыканцы далікатэсную страву гатуюць на цэлую сям'ю.

— Ну так: на сланах і на кітах.

— Ды што кіты!

— А я чуў, іхнюю ікру некаторыя яйкамі кітовымі называюць. І сапраўды, яна буйная. Як яйкі некаторыя дробныя.

— А наконт іх колькасці. Можа, згодна лічбы абласцей, ці — губерній, як па-моднаму?

— Яйка, яно павінна быць адное, каб як голка з кашчавым жыццём — сэнс, моц ці жыццяздольнасць краіны ці нас саміх — улады. Каб так высока яйка — у небе, каб ніхто не дастаў. Давайце разам успамінаць: яйка ў качцы, здаецца, качка ў куфры, куфар на ланцугах на дубе магутным...

— Ці пад дубам закапаны — розныя версіі існуюць.

— Існавалі.

— А як жа на самалёце альбо на паветраным шары?

— Шары мы збіваем без лішняй гаворкі! Ненадзейна будзе.

— Птушкі ёсць вадаплаўныя, малалятаючыя, зусім не лятаючыя — куры, напрыклад. Ёсць — якія адлятаюць у вырай і якія — не. Усіх аднолькава можна назваць умоўна патрыёткамі, бо гэтыя сядзяць поседам, што б не здарылася, а тыя, першыя — адлятаюць штораз, але абавязкова вяртаюцца, не могуць ужо без тутэйшага мікраклімату. Здаецца, і таго не хапае, і з гэтым дрэнь справы, а яны — усё роўна назад лятуць, тысячы кіламетраў намахваюць.

— Сымбаль краіны — бусел, а не качка ці кура, ці там гусь, якія Рым ураталі нібыта. Нам пляваць на Рым. Нам сваё трэба. Буслы дзяцей прыносяць у капусту, уласна кажучы, дэмаграфічную сітуацыю паляпшаюць.

— Гэта на вёсцы. Птушкі гарадскія — вароны, вераб'і, галубы і некаторыя іншыя — шпакі, сініцы. Гілі, гэтыя больш рэдкія.

— Вясковыя — тыя ж самыя вароны. Вось лясныя…

— Вароны-вароны, а буслянкі хто на вёсцы мае? У горадзе ты буслянку бачыў?

— Яйкі пажадана трывалыя — крэпкія, у сэнсе абалонкі, шкарлупіння, значыцца — моцная дзяржава. Гэта сымбалічна павінна быць. Бо калі проста дробнае галубовае, сцісні ў кулаку — абы-што.

— Але голуб — сымбаль міру і сацыялізму, як раней казалі.

— Сымбаль-то сымбаль, але абгадзіць яны ўсё майстры.

— Мастацтва вымагае ахвяр.

— Замаскаваныя ў гняздзе яйкі — на балоце хай, якое таксама наш сымбаль, — ад ворагаў, ад драпежнікаў, проста ад паляўнічых. А колькі нас цяпер хочуць упаляваць! Ворагі адусюль пішчом!

— Але ёсць гнёзды на зямлі пакідаюць, у траве робяць. Нават замаскаваныя, з мімікрыяй, так сказаць, гэта недапушчальна. Такія нам у гербе не трэба. Можна ботам наступіць і не заўважыць, і пад абцасам — мокрае месца.

— Можа пералётныя — не нашы людзі? Каб тудой-сюдой швэндаліся, па заграніцах. Нас ужо нікога амаль не пушчаюць, не даюць візаў, а яны ўсё лётаюць. Лепей каб дома сядзелі — гэта патрыятызм. І каб не набіраліся заграгнічных ідэй. А буслы — дзе хочуць бываюць, а мы й радыя, што ў нас гнёзды, на гарэлку іх адразу, радасці поўныя штаны. Тут яшчэ трэба разабрацца.

— Ну й чаму буслы, сапраўды? Свет на іх клінам сышоўся? Абыдземся. Лепей узяць мясцовую птушку, патрыётку, як я, я нікуды не езджу, адпачываю ў мясцовым санаторыі, мне іхніх гамбургераў не трэба.

— А эмблема нашай “беленькай”, гарэліцы? Бусел! Два буслы.

— А каньячок малдаўскі? Таксама!

— А яны на нас у суд не пададуць?

— Дык мы ж толькі яйкі возьмем. Хто праверыць?

— А можа ўсё ж з гняздом — каб бусел стаяў, ці ўдваіх — як гэта бывае, калі едзеш, праязджаеш. Або — малыя дзюбы цягнуць угору — дай жабку!

— А вось у газеце сёньняшняй пішуць... Баба на вёсцы скончыць самагубствам надумала, залезла на вежу воданапорную, бусла сагнала, а там месца толькі на гняздо. Села і сядзіць посьедам. Усёй вёскай умаўлялі не скакаць, а злезьці баіцца. Да вечара праседзела, пакуль пажарныя не знялі. Прыкольна...

— А можа яйкі велікодныя пакласці — пісанкі з арнаментам, наш нацыянальны каларыт? Святочныя яйкі лепей, чымсьці проста балотныя. У сэнсе аптымізму нават.

— Гняздо з сена з яйкамі ўверсе — гэта як у саломе ў яслях, калі дзіця нарадзілася, асвяціўшы шлях для чалавецтва.

— Вось у нас тут міністр культуры і рэлігіі фантазіруе зусім па-царкоўнаму. А штосьці ў гэтым ёсць, і яйкі царкоўныя распісваюць, пра якія ўспаміналі тут. Штосьці ёсць. У яйцэ таксама жыццё, выкалупліваецца кураня альбо хай варона, груган. Ёсць

рацыянальнае зерне. Цяпер царква нават у амонаўскіх войсках нашых шчупальцы свае пусціла, салдаты яйкі са сталоўкі асвячаюць ці як у нас казалі некаторыя — свенцяць. Гэта — прыкмета часу. Хай.

— Можа яйкі замест гнязда — у далонях салдацкіх? Каб паказаць крохкасць жыцця, якое абараняе армія? Як чысціню нашага неба, як спакой нашых гарадоў і вёсак, як стваральную працу нашых працаўнікоў, прабачце за каламбур.

— Як мы зразумеем, што гэта салдацкія рукі? Порахам жа не пахнуць, напрыклад.

— Можа гузікі на манжэтах жалезныя з сярпочкамі-малаточкамі? Ды аўтамат Калашнікава ў руцэ. Хай бачаць.

— Правільна, няхай інтэрнацыяналіст будзе. Ёсць некаторыя гербы з Калашнікавым, афрыканскія. Часам арол у гняздзе яшчэ. Або змяю дзяўбе, схапіў, у дзюбе трымае. Бо яна яйкі жарэ, заглынае, жыццё ў зародку. Як гідра антырэвалюцыі. Або рэвалюцыі аранжавай, няўрокам кажучы .

— Штосьці ў гэтым ёсць: воін-інтэрнацыяналіст трымае ў кулаку яйцо гадзюкі рэвалюцыйнай, па-старому гідры.

— Яшчэ такое існуе — яйцагаловыя, брытагаловыя, скінхэды там усякія. Як гэта на нашым гербе можа адбіцца?

— Ды ніяк. Зямны шар сам яйкападобны. Зямля сплюснутая ад таго што круціцца. Як разрэзка, разгортка глобуса бывае — нібы дыня ці мяч для рэгбі.

— А я бачу Зямлю, глобус у выглядзе яйка, размаляванага кантынентамі. З вянком, залатой зоркай зверху. Вянок, які ў гняздзе, а лепей — гняздо — колам накшталт вянка, вянок патрэбны абавязкова, без яго нельга. Вянок, глобус, у сэнсе яйка, і зорка. Зорачка накшталт в'етнамскай з бальзаму, у носе мазаць ад прастуды ці калі заказыча раптам.

— Вянок — прыкмета пераможцы. Вянкі шырока ўжываліся ў старажытнай Грэцыі і ў Рыме. Лаўравыя, дубовыя...

— Ці ўсё ж на глобус гняздо з яйкамі? — З гняздом на галаве — глобус з яйкамі, з гняздом, замест капелюша.

— А давайце паглядзім: ці будзе трымацца на галаве міса з яйкамі?

— З якімі лепш?

— Будзем запрашаць цыркача ці самі паспрабуем? Галоў хапае.

— Калі ёсць ахвотныя.

— Я не супраць, таму й прапанаваў.

— А дзе місу возьмем? І каго па яйкі пашлем?

— А калі зусім — мадэль у натуральную велічыню? З інтэрнацыяналістам, з Калашнікавым?

— Хто ў нас інтэрнацыяналіст? Дзе ён? Хай бярэ калаха.

— А потым зробім піф-паф па талерачках ды па яблычках. Ай эм Робін Гуд! А той, які спудлаваў, у галаву пацэліў. — Ай эм соры! Га-га-га!

— Ладна, разбярэмся да канца з яйкамі, а пастраляем наступным разам, у Вільгельмаў Тэляў пагуляем.

— Вось я й кажу: галубовыя ды іншыя — дробныя, як бульбачка — кабанам, больш нікуды. Чым большае яйка, тым значная птушка з яго вылузаецца: страус, раптам. Альбо пінгвін, ён амаль як птушка.

— Самыя моцныя дыназаўравыя яйкі, бо — скамянелі.

— Куча яец — хіба гэта прыгожа? Але куча ядраў гарматных, ці там шароў більярдных...

— Шароў... Шары не стаяць, не ляжаць кучай, рассыпаюцца.

— А яшчэ такі сюжэт, такое бывае: яйкі ў шапцы, у капелюшы саламяным, як у гняздзе. Прыгожа...

— Нашыя яйкі гербавыя, значыцца моцныя, асаблівыя, нават надзвычайныя, эталон можна зрабіць са сланавай косткі. А лепш залатыя, ці пазалочаныя, з сусальным золатам, як у царкве купалы.

— Усё, абед. Дамовіліся, будзем выносіць на рэферэндум, хай народ падтрымае, хай прагаласуе “за”.

## ПАДЛІК АПЕЛЬСІНАЎ
### Пасяджэнне чацвёртае, з італійскім прысмакам

— Хто апельсіны не любіць? — падыміце рукі!

— Гэта ў якім сэнсе?

— Лепей, канечне, скварка і чарка, хе-хе.

— А варыянты адказу можна?

— Якія яшчэ варыянты? Хочаш, каб я табе зараз апельсін даў?

— Апельсін? Ды навошта? Я й так магу пасядзець, магу абысціся.

— Ды што мы — дзеці, каб пра апельсіны думаць?

— У нас усё найлепшае — дзеткам, па традыцыі. Яшчэ Ілліч бульбу ім аддаваў, а сам лушпінні, праснакі з лушпіння...

— Ты яшчэ пра цара Гароха ўспомні. Што тут мудрагеліць? Каню павінна быць зразумела: хочаш апельсін зараз з'есці, падабаецца ці не?

— Ды мы не супраць, калі што. Мы ж не як тыя свінні ў апельсінах... Можам і пачаставацца, калі скажуць, калі прапануюць.

— Ламацца не будзем, хе-хе.

— Ну ладна, мужыкі, спадары міністры, зараз будзе дэгустацыя. А то ўсё працуем ды працуем, паабедаць няма калі, баршчу пасёрбаць. А часам трэба вітаміны, садавіна...

— Проста з гэтага і пачнем нашае пасяджэнне?

— Мы затрымалі гуманітарны груз, апельсіны, што італьяшкі не паспелі на вуліцах раскідаць, нам прыслалі. Без нашага з вамі дазволу, без згоды, дзіцям нашым прывезлі. Што ў нас улады ўжо няма, каб кожны вазіў што хоча, што ў галаву трапіць? Чаму ў нас не пытаюцца, спадары міністры? Не паважаюць? За людзей не лічаць?!

— Трэба разабрацца: што за апельсіны, можа кепскія?

— Можа паданка?

— А мо чарвівыя? Тады штраф ім! З канфіскацыяй!

— З канфіскацыяй усё ў парадку. Што ж вы думаеце — мы мышэй не ловім? Дарэмна заробак атрымліваем? Зараз міністр наш мытны дасць справаздачу, міністр мыта і канфіскату, так сказаць.

— Дзякуй за магчымасць. Мы ім кажам: вы парушылі наш загад і ўнутраную інструкцыю, каб прывезці вашыя апельсіны, трэба спачатку ад нас "дабро" атрымаць. Яны: мы не ведалі пра ўнутраную і пра знешні загад не ведалі. Мы ім: нязнанне закону не вызваляе ад яго выканання, сіньёры.

— Ха-ха! Правільна! Спрытна!

— Так ім! А то кожны павязе што заманецца! Усякую трасцу!

— Так-так, дзякуй за маральную падтрымку. Сіньёры напружыліся, пачырванелі: проста сіньёры-памідоры.

— Ну, а ты — як той Чыпаліна — з іх слёзы выціскаеш — чаго сіньёраў-апельсінаў прыцягнулі без папярэджання? Нечаканы госць — горш за татарына! Рацыя?!

— Ну, яны пачынаюць вылузвацца, на міжнародныя пагадненні спасылацца, на Кофі Анана іхняга. А мы ж таксама не лыкам шытыя, не проста на інструкцыі зважаем, мы з элементарнай арыфметыкай у руках: колькі ў вас апельсінаў у фуры? Яны: дзесяць тон. Мы: а калі больш канкрэтна? Яны: дзесяць тысяч кілаграмаў. За дурняў нас трымаюць!

— Паскудныя італьяшкі!

— Макароннікі!

— Дзякуй за падтрымку. Мы ім цярпліва: калі прапусціць вашыя цытрусавыя, колькі дзяцей атрымаюць, напрыклад, калі па адной штуцы даць? Колькі штук? How many? Ну, яны зусім замаркоціліся.

— Задачка з падручніка па арыфметыцы!

— І чым скончылася?

— Так, так, цікава!

— Яны пачалі блытацца: у кілаграме звычайна ў сярэднім шэсць штук, калькулятар вынялі. Карацей, налічылі, што шэсцьдзесят тысяч дзяцей могуць атрымаць па апельсіну, калі не сапсуюцца.

— Ну, заінтрыгаваў! Не цягні!

— Мы ім: добра, гэта вашая лічба, але ў нас кажуць — давярай, але правярай. Пачалі лічыць. Яны як на вуголлі, а нам чаго спяшацца, трэба каб усё дакладна! Тры дні лічылі. Лічбы не сышліся.

— Наколькі?

— Не на некалькі апельсінаў. Мы ім: бачыце, сіньёры, якая пятрушка? Вы абурацца за свае апельсіны, што не пушчаюць, а вас самы час за краты саджаць. Спалатнелі, спалохаліся.

— Перасталі да сіньёраў-памідораў падабенства мецць?!

— Перасталі. Але нам яны навошта: кармі потым у турме з дзяржбюджэту. Мы ім: улічваючы, што вашае злачынства не выклікала небяспечных наступстваў, канфіскуем апельсіны разам з транспартам, а вам — штраф і адпускаем на чатыры бакі.

— Правільна, каб не сунулі нос у чужыя справы, не лезлі пішчом куды не просяць.

— Годзе з эмоцыямі! Раскажы: не спрабавалі больш качаць свае правы, Кофі Анану не званілі, хе-хе?

— Такія шчаслівыя былі, што адпусцілі, дзякавалі, толькі што рукі не цалавалі.

— Так з імі! Каб не пхнуліся, не швэндаліся дабрачыннікі! Спонсары апельсінавай рэвалюцыі!

— Ціпун табе на язык!

— А што я такога сказаў?..

— Яны калі даведаюцца, дык наступным разам не апельсіны дадуць, грошы на апазіцыю — кеміш?

— Наступнага разу не будзе, яны ў чорным спісе, на мяжы фотаробаты.

— Ну няхай! Давай сюды свае апельсіны! Частуйцеся, спадары-таварышы міністры, і дзеткам-унукам набірайце, не саромцеся, бо сапсуюцца. Трэба ж і нам вітаміны, а то ўсё робім-

робім. Хто любіць — у мяне тут штучка-другчка — сок рабіць са свежых цытрусавых — па чарзе падыходзьце са сваімі шклянкамі…

— Ну што: троху асвяжыліся?

— Навітамініліся, дзякуй!

— Дзякуй нашай мытні за пільнасць.

— Я такім бадзёрым на пасяджэнні ніколі не быў, шчыра кажу!

— Бачыце: не толькі вітамінізацыя насельніцтва трэба, міністры таксама людзі, не машыны, не робаты. Адной чаркі ды скваркі замала, хе-хе. А нехта тут сёння казаў: нам абы выпіць і закусіць, нам ананасаў у шампанскім не трэба…

— Ды я што? Я таксама не супраць апельсінаў, я толькі супраць іхняй рэвалюцыі аранжавай.

— Я гляджу, спадары міністры, — што ў каго спачатку на вуме, потым на языцэ, ці як там народная мудрасць гаворыць? Карацей: не хацелася б, каб з апельсінавага соку рэзка пераходзіць на рэвалюцыйную пагрозу. Але калі так, дык няхай выступіць наш міністар ідэалогіі, ён хіба рыхтаваўся.

— Нас апошнім часам крытыкуюць каму не лянота, асабліва апазіцыя. За непаслядоўнасць, за падвойныя стандарты, ледзьве не за двурушніцтва. Не падабаецца, што мы рашуча супраць аранжавай рэвалюцыі. Што па-ранейшаму статуі правадыра нашай роднай даглядаем, што чырвоныя рэвалюцыйныя вывесілі. Але як у народзе трапна гавораць: не трэба блытаць, прабачце, хрэн з пальцам.

(У зале вясёлае ажыўленне, дробны смех, паасобнае пляксанне, ухвальнае перашэптванне).

— Дзякуй, дзякуй, што згодныя, што ацанілі. А вось у іх з пачуццём гумару, думаю, кепска, ім мядзведзь на вуха наступіў лапай, як трапна ў народзе гавораць. Яны кроў вырашылі апельсінавым сокам замяніць. Свяшчэнна пралітую кроў рабочых і сялянаў, парабкаў, бурлакоў, саматужнікаў і зусім жабракоў — усіх нашых даражэнькіх продкаў. Як уявіць, што ў іх замест цёмначырвонай крыві сок быў аранжавы? Гэта што — жарт, здзек?

— Херня нейкая!

— Трызненне п’янае!

— Гэта нейкая дэмшыза!

— Уявіце сабе, спадары міністры, што вам замест крыві соку налілі. Як, не вельмі ўтульнае адчуванне?! Не вельмі? Гэта ўжо нейкія не людзі, монстры якіясьці, Дракулы, ваўкалакі.

— Ты ў донарскую пайшоў, а з цябе сок бяруць замест крыві, смех дый годзе! Выціскаюць, як апельсін.

— Ды які смех? Плакаць трэба.
— Слязамі не пасобіш.
— Ты паможаш тут каню — як хваробе кашаль.
— Спадары міністры, што тут смешнага: калі ты страціш кроў, цябе пакладуць у рэанімацыю і пачнуць апельсінавым сокам напампоўваць? Давай скончай свой даклад.
— Вось у чым адрозненне, чым тлумачыцца нашае стаўленне. Рэвалюцыя — гэта кроў, нават крывішча, як у народзе гавораць, мора крыві ці рэкі, калі няма мора. Гэта не жартачкі, гэта не ў цацкі гуляць. Але ім нашая кроў заўжды не падабалася, пралятарскае паходжанне нашае. Яны ўсё блакітную прапагандавалі і самі сабе на галаву ператварыліся ў блакітных, нават не заўважылі.
(Радаснае ажыўленне ў зале, адсоўванне крэслаў, сцішаная гамана, некалькі воплескаў).
— Я на воплескі не разлічваў. Як казаў паэт: у нас кроў, а не вадзіца, не абсэнт блакітна-бірузовы. Так, і што цяпер сёння сталіцы аранжавай рэвалюцыі? Брыда і хістанні. Плююцца ўсе ад аранжавага. Прэзідэнт Хвастэнка ўрад, усіх сваіх паплечнікаў нядаўніх разагнаў! Таму што эканомікай займацца — гэта не папулізм у аранжавых шаліках і шапках, гэта не сок апельсінавы жлукціць, калі палове краіны на гарэлку, прабачце, не хапае.
— На чарку і скварку!
— Менавіта.
— Так, і зараз няхай міністр абароны выкажа свае меркаванні наконт гэтай апельсінавай вайны, як яны марнуюць ураджай свой.
— Ну, тут у сэнсе манеўраў, стратэгіі і тактыкі ніякага дачынення да міністэрства абароны. Проста мы былі з жонкай на пляжы, на адпачынку, ездзілі на экскурсію і ўсё бачылі. Я, канечне, па-цывільнаму, па-пляжнаму быў, без знакаў адрознення, як усе. Там у іх, дарэчы, раптам забаранілі па-за пляжам хадзіць па-пляжнаму — у купальніках, але гэта да слова. Карацей, гісторыя такая: вельмі даўно варагавалі два роды шляхецкія — Капулецi, калі не памыляюся, і Мантэкі — у мяне дзесьці запісана. Аднойчы ворагі штурмавалі горад, а гэтыя бараніліся паасобку і на сутыку кепска ахоўвалі мур, і там залезлі жаўнеры і прарвалі абарону. І сталі наступаць вузкай вуліцай: на адным баку жылі Капулецi, на другім — гэтыя Мантэкі. А ў дамах толькі дзеці і жанчыны, старыя, слугі. І быў час апельсінавых дажынак. І вось яны пачалі закідваць працiўніка апельсінамі, у галовы цаляць, неўзабаве падаспелі Мантэкі з Капулецамі і ўсіх перабілі, ну й памірыліся. І поўная вуліца была душаных апельсінаў і

крыві, я б нават сказаў крывішчы. А цяпер яны гуляюць кожны год у гэны дзень ў апельсінавую вайну.

— Вось бачыце: а яны ў ААН ставяць пытанне, што мы забаранілі вазіць нашых дзяцей хворых да іх на аздараўленне! А чаму там у іх можна навучыцца? Цытрусавыя марнаваць, таптаць, знішчаць ураджай? Вунь шэйсят восем тонаў — кату пад хвост! Яшчэ навучацца бульбай кідацца, нашым другім золатам, яшчэ глядзіш апельсінавую прафанацыю прывязуць. Лепей хай дома сядзяць, бярозавік п'юць, як у папулярнай песні, дзе радзіма яго паіла бярозавым сокам... У нас кроў не аранжавая, а чырвоная, па-сапраўднаму рэвалюцыйнага колеру, але ім гэтага не зразумець.

## BIG FISH
### Пасяджэнне пятае, піўное

— Спадары-таварышы міністры, у нас хто ў лес, хто па дровы, трэба каб у адных руках рыба была, каб не атрымалася, што ўсе стаўрыду прывезлі, а скумбрыі нямашака, цэны падскочаць, спекулявацць пачнуць, рукі нагрэюць. Калі не ўзяць у свае рукі справу рыбную, так і будзе, што адзін цягне ў раку, адзін у неба, трэці — у лес, а рак — назад, прычым азадкам наперад. Карацей, цырк на дроце, а не рыба, апалонікі замест шчупака.

Разбярэмся з рыбай, а там рыбіны тлушч, косткі — на муку, для гадоўлі жывёлы ды птушкі. Носам круцяць, што рыбай пахне адбіўная. Разбэшчанасць. А яблык з прысмакам банана ці ананаса? Гэта што — кепска? Гэта — далікатэс сучасны. Яны адсталі, засталіся ў абозе, на задворках гісторыі і кулінарыі, можна сказаць.

— Гастранаміі.

— Няхай. Якія будуць прапановы, заяўкі? Хто якую рыбіну за хвост злавіць не супраць?

— А якія магчымасці ёсць?

— Як якія? Марожаная, свежая. Кансерва ў бляшанках.

— А яшчэ?

— Яшчэ салёная, вяленая. Селядцы, калі любіш. Іншаму тараньки, усялякую воблу. Марскую капусту ў іншыя рукі. Банку ці мытнаму камітэту. Проста гандлёваму міністэрству не варта, каб у рыбныя справы не блытацца, бо й так харчамі займаецца — поўны рот клопату.

— А мне здаецца, капусту марскую аддаць трэба аграпраму, бо ён садавінай-гароднінай заняты, а капуста — яна і ёсць капуста, нават марская.

— Трэба стварыць камісію, яна ўсё вырашыць. Яшчэ ж існуюць далікатэсы: кальмары, крабы, васьміногі — розныя шэвеляшчыеся, вустрыцы, падказвайце...

— Лангусты.

— Мідыі.

— Марскія грабеньчыкі, трэпангі. Хаця чорт іх знае — што гэта за трасца.

— А мне, нам, даручыце ўсю чырвоную рыбу, міністэрства абароны давер апраўдае.

— Міністэрству ідэалогіі з рэлігіяй таксама штосьці вартае, каштоўнае.

— А вам воблу і тараньку, да піва, ха-ха.

— Не трэба забывацца на біблейскія рыбіны, якімі, як добра вядома...

— Можна не працягваць, для нас гэта цёмны лес. Бярыце тады ўсю сушоную, бываюць жа і васьміногі і кальмары. Альбо вэнджаную, калі з півам не падабаецца.

— Ды з півам усякая, бы дзеці ў школу, пойдзе.

— Ясна, але воблу ўзяць, размяць крыху, ляснуць па стальніцы, луску здзерці, настальгія!

— Міністэрства аховы парадку згоднае, як паэт казаў, і на медаль, нам хопіць і кілек у тамаце, там цюлька, сняток, рапушка, бычкі асабліва. Як у той песні: “Шаланды, поўныя кефалі, у Адэсу Косця прывадзіў, і ўсе біндзюжнікі ўставалі, када ў піўную ён ўхадзі-і-іў!”

— Брава! Сціпласць аздабляе чалавека, чырвонай рыбай можа кожны дурань гандляваць, а ты паспрабуй спачатку цяфцелямі ў тамаце!

— А знаяце, бычкі ў тамаце, кількі, дробязь пузатая, яны добра пад гарэліцу. Пад піва ўсё ж лепей вэнджаную, разломіш, тлушч капае амаль, ці воблу, само сабой.

— А пад селядзец?

— Пад селядзец, згодны, і гарэлка добра, і піўко таксама. Універсальная закуска. Калісьці ў бочках была, як любілі! Мама родная! Але знікла зусім, дэфіцыт, потым івасі сталі прадаваць. А цяпер хочаш — што хочаш: фаршмак, рулецікі, у часнычным соусе, у гарчычным...

— Вось і трэба ўсё браць у свае рукі, каб нехта там не нажываўся на любові народу да смачнай закускі!

— У мяне яшчэ адная заўвага наконт піва: яны рагочуць з нас, што з соллю любім, што дзікунства, перажытак хома саветыкусаў ды ўсякае такое, дурня, карацей. Як яны ў сябе белым пасыпаюць, цукровай пудрай шклянку з кактэйлем — дык няхай, ніхто ж не забараняе, не абзывае крыўднымі мянушкамі. Мне пляваць што скажуць, я любіў, люблю і любіць буду — каб беражок куфля трыма пальцамі калівам солі прысыпаць, з драбочкамі. П'еш, а на зубах хрумсціць. Смаката!

— А вось я прапанаваў бы, каб цікавей, зрабіць конкурс: хто што ўмее з якой рыбы гатаваць, ды зрабіць дэгустацыю — якая самая смачная, незвычайная, ва ўрадавай сталоўцы нашай, напрыклад. Каб толькі жонкі не дапамагалі, каб самі — у кухарскім каўпаку, у фартуху ля пліты. Жончыну страву з'есці любы дурны "за", кожны лайдак. Я, вось, хлопцы, заліўную з хрэнам умею — пальчыкі абліжаш! Каб даказаць, што ты маеш поўнае на канкрэтную рыбу права. А то з якой-такое нагоды чырвоную аддаваць ваенным? За чырвоныя зоркі?!

— "Якая дрэнь гэтая вашая заліўная рыба!"

— Што?

— Не-не, так, успомнілася кіно: як яны ў лазні Новы год сустракалі — піва-гарэлка, піва-гарэлка, а потым не на той самалёт, прыляцеў, назваў таксісту адрас, і не ў сваю кватэру, не ў свой горад, а там —заліўная рыбка ў навагоднюю ноч, але не пайшла, косткамі пляваўся.

— У мяне пытанне: як размяркуем экзотыку, існуе ж рыба-піла, шабля, меч, молат, не ведаю толькі ці ёсць рыба-серп...

— Калі ёсць молат, павінна быць.

— Ды хто яе будзе есці — гэтую пілу?

— Была б рыба, ахвотныя знойдуцца.

— Я не ведаю, як наконт кулінарнага конкурсу: пад'есці ніхто не адмовіцца, а вось гатаваць, ды замест жонкі, ды ў службовым месцы... Давайце пачакаем да святаў, арандуем рэстаран.

— Пакуль чакаць, камерсанты — нажывацца! І будзе нам рыба як у даміно!

— У даміно не трэба, і ўвогуле кішкі марш зайгралі. Я сяджу успамінаю, як у мексіканскай рэстарацыі прынеслі кавалак ласося смажанага са скрылем лімона, вялікай бульбінай, запечанай у фользе, і салаткай: памідоры, перац, марынаваны гурок...

— А я еў аднойчы стронгу вялікую, запечаную цалкам. Ружовае прыгожае мяса, лімончык, бульбачка, салатка — усё на вялікай талерцы, якіх у нас не бывае.

— Думаю, што сушы з вас мала хто каштаваў: круглыя галкі з сырой вельмі салёнай здробненай рыбы, у дадатак крабавае мяса, рыбка можа быць загорнута ў рыбку таксама, у скрыль, спецыі там яшчэ. Цымус!

— А шчупак, фаршыраваны ікрой, брусніцамі, грыбамі, нашаткаванай шынкай, кукурузай...

— У мяне ўжо сліна цячэ, мне хоць бы кулёк камсы зараз.

— Дарэчы, наконт ікоркі: можна даручыць камітэту харчовай бяспекі, хай займаецца, яму і карты ў рукі. Там у нас самыя адмысловыя знаўцы. Ён і з браканьерамі змагацца стаў лепш: супраць электратоку, супраць дынаміту і падводнай лоўлі. А то яшчэ мода пайшла сярод рыбакоў, накшталт пацыфістаў яны: злавіў-выпусціў, злавіў-выпусціў... Так ніколі не наловіш, без рыбы застанешся. Мы так не дамо, у нас "груба рыба" з рук не вымкнецца, не выслізне.

— Мужык без піва з рыбай — не мужык. І настальгія моцная: бочка на колах, з кранам, чарга — хто са сваімі слоікамі, хто з цэлафанавымі пакетамі, куфляў не было — ці пабілі, ці пакралі. Канечне, былі праблемы, цяжкасці, але ўсё адно прыемна ўспомніць — бочка з півам была святам! А калі ў куфлі, каб трымаць — дык увогуле! Такі важкі, возьмеш за дзяржанне, з шапкай пены, як дзьмухнеш! Сама назва смачная — "жы-ыгулё-ў-скае"!

— А ракі? На ракі забыліся! Піва п'ем толькі с-ракамі! Ха-ха!

— Сапраўды, мужыкі, прызнавайцеся, хто любіць піва с-ракамі піць?!

— Так, так і было: а піва с-ракамі пілі ці не?!

— Піць піва с ракамі — гэта справа калектыўная! Бо адзін будзеш піць тады, выбачайце, с-ракам, таму што с-ракай — няма такога, так не гавораць!

— Піва с-ракай — але ж! Парвацца можна!

— Прашу не забывацца. Што ў нас кабінета міністраў пасяджэнне, а не праціранне с-ракамі нагавіц!

— Ха-ха-ха!

— "Жонка: ты дзе быў?" "Піва с-ракамі піў..." "А ў цябе што — срака не адна, некалькі?!" Ха-ха-ха!

— А ў нас якраз некалькі! Нам можна! Можна піва с-ракамі!

— Пі! Пі-ха-ха-ха-ць! С-ракамі піва — ха-ха-ха!

— С-ракамі шмат не вып'еш! Лепей ротам, ратамі!!

— Ну, канечне! Піва с-ракамі гэта не эстэтычна!

— Гэта абракадабра нейкая! С-ракамі піць!

— Уяўляю ўсіх на куфлях седзячы! Вой, не магу, ратуйце!

— С-ракамі, ды яшчэ з соллю! З соллю на беражку!

— Ды з буйной, як любіць Кузьміч!

— І пажадана ёдаванай! Каб мазгаўню палепшыць, прачысціць! Каб думкі геніяльныя! Мы ж праграму ўрадавую наконт ёдавання... Не магу, трэсну!

— І хвост ад воблы ззаду тырчыць! Такі — не русалка, а — русал!

— Мужыкі, кіньце! Абассымся са смеху!

— Так. Ды яшчэ без ніякага піва, без ракаў!

— Не паспеўшы выпіць с-ракамі!

— Памперсы ўсім выдаць! Коштам фірмы!

— Бочку піва і біятуалет ў залу!

— А дзе ракі?

— Навошта табе ракі? Гэта ж каламбур! Тут жа галоўнае не ракі. Тут жа, тут жа, ха-ха-ха!!

— Ладна, спадары міністры, на піва пойдзем пасля працы, пасля дэбатаў. Можна і с-ракамі, ха-ха. Я вам, каб закончыць, дыскусію, пра "актобэр-фэст" раскажу. Аднойчы трапіў: такія грудастыя немкі куфлі разносяць па сталах. Літровыя адразу. Адная прыціскае да жывата ажно пяць! А буферы калываюцца гэтак апетытна, калі нахілілася, каб паставіць, як пампушкі. Крамяная! Дарэчы, ансамбль "Біг цыц" — быў такі памятаю. Дык вось: у гаштэце картку даюць з фоткай бюргеркі: за кожны выпіты куфаль налепку — ззаду, і пяты куфаль — бясплатны. Нацюрліх!

## РУКІ ПРЭЧ АД ЛУКІЧА!
### Пасяджэнне шостае, гастранамічнае

— Я, спадары міністры, сплю і бачу, як лезуць з усіх бакоў — памятаеце да болю знаёмую карту са школьнага падручніка? Адусюль пішчом лезуць, пхнуцца, ашчэрыліся штыхамі, памятаеце? Знаеце, на мяне яна зрабіла незабыўнае ўражанне. Вочы прыплюшчу і бачу як цяпер: адзін з японскім прыжмурам, касавокі, другі пілсудчык, пшэк у сваёй канфедэратцы, яшчэ белафін, румынская пыса. Не твары, лычы, здаецца, як заплюшчыш вочы, з рогамі, з капытамі, з хвастамі, адным словам — нечысць, пошасць, інтэрвенты. Як у той песні, не забыліся: пагон англійскі, мундзір французскі, табак японскі, правіцель скоцкі!

— Спадары міністры, я колькі слоў скажу за нашага палкоўніка, увяду у курс справы. Наш Камхарчбес прапануе антыінтэрвенцкія захады, каб не чакаць, пакуль палезуць самі, пачаць змаганне не адкладаючы ў шуфляду. А пачаць харчбес прапануе на ўнутраным фронце — разабрацца з памагатымі, з панікёрамі, хто распаўсюджвае чуткі, дэзінфармацыю, супраць сабатажнікаў, супраць агентаў уплыву і апорных пунктаў будучай інтэрвенцыі — кішэнных газетак і гурткоў па інтарэсах.

— Так-так, як казаў адзін шахматыст: найлепшая абарона, хлопцы, — напад.

— Гэта будуць захады супраць нават не ворагаў народу, а непрыхільнікаў, дробных паскуднікаў — калі казаць агульна. Слушна я кажу, палкоўнік?

— Так точна! Хто пнецца на поўныя засекі нашай радзімы, як поўчышчы мышэй і пацукоў, грызуноў розных. Хто зубы вострыць! Мы знайшлі ў апалай лістоце гранатамёт, стары, іржавы, але ж гэта зброя! Гітлер’югенд паліў нашыя танкі ў Трэптаў-парку імі. Гэта не жартачкі! Мы адшукалі склад кухонных нажоў. Памятаеце: “ноч доўгіх нажоў”, памятаеце?

Іхняя мара — каб хлеба не хапіла аднойчы, каб голад пачаўся, галодныя бунты. Іхнія галадоўкі — чыстай вады правакацыя. Зірніце: як кабаны некаторыя, ім лячэбнае галадаванне не пашкодзіла б насамрэч. Масавыя галадоўкі падбухторваюць, дэстабілізуюць, ліюць ваду на млын спецслужбаў. Карацей, не мне вам казаць — чым гэта чрэвата.

— На наш пірог, на наш каравай і хлеб-соль квапяцца! Рот разяваюць, пашчу сваю. Мы хлеб-соль ад чыстай душы, ад шчырага, як гаворыць нашая крывадушная апазіцыя, сэрца — кожнаму замежніку, а ў некаторых камень за пазухай. Усіх абшукваць не будзеш: галас узнімецца!

— Наплявацъ у нашую студню прагнуць, нахаркаць!

— Дулі ў кішэнях трымаюць!

— Хлеб наш надзённы даваўся нам потам і крывёй. Цялегі з хлебам, што кулакі хавалі, эшалоны з хлебам, наш хлеб пах порахам.

— Народ гаварыў: даруй, бацюхна, калі акраец падаў са стала раптам.

— З мякінай наш мужык еў калісьці, як напісала паэтэса: “Цяжка жыць-трудзіцца, калі няма долі, жыта не радзіцца на мужыцкім поле...”

— “...І мусіш есці за работу чорны хлеб з мякіны!” Хлеб усяму галава! Няма хлеба, як без галавы будзеш, з пустым чэрапам. Хлеб

мазгаўню нагадвае, у галаве павінна быць цеста, на ім як на дражджах усё павінна расці — смелыя задумы, ідэі, планаў грамаддзе.

— Так, спадары міністры, з гэтым не паспрачаешся, дзякуй за разуменне. Але хлеб, які ў народзе даўно й любоўна называюць “цаглінкай”, гэта падмурак дзяржавы, яе харчовай бяспекі. З цаглін будуюць сцяну — хоць нямецкую, хоць кітайскую, але не толькі. З цэглы можна пабудаваць дом, крэпасць, калгасны клуб, казарму, збожжасклад, ферму жывёлагадоўчую, плот высозны вакол турмы, каб не ўцяклі. Так што харчовая бяспека — не марны гук.

— Ды нікому не хочацца, каб сала адбіралі, бохан, як фрыцы калісьці: матка, курка, яйка, млека — шнэль!

— А потым карты з’явіліся — памятаеце? — з базамі натаўскімі навокал нашай свабодалюбнай краіны з ракетамі — “паларысамі”, “тамагаўкамі”, “пасейдонамі”...

— Мы ведаем цану хлебу, цану жыццю. Калі была вайна, яны там другім фронтам абжыраліся, тушонкай, бананамі... А ў нас мерцвякоў елі. Праўда, гэта была ваенная тайна, было забаронена гаварыць, за гэта расстрэльвалі, за размовы... Самае цяжкае было з музеем правадыроў, цэлы полк НКВД сцярог, яны ж там у вітрынах ляжаць безабаронныя.

— Гэта, між іншым, адно са сведчаньняў перавагі нашай навукі над іхняй. У іх там толькі муміі егіпецкія — высахлыя, перабінтаваныя, есці няма чаго. Нашыя правадыры — як жывыя, кроў з малаком, выглядаюць цалкам ядома, апетытна, можна сказаць. Ляжаць і не псуюцца нібы святыя, свежыя шчокі ружовыя — як тыя галандскія яблыкі, якія чарвяку не даспадобы. А яны, дарэчы, фараоны ў сэнсе, і катоў сваіх гэтак жа хавалі — цэлыя могілкі кашэчых мумій спятрэлых, на зуб не возьмеш. Вось так. Цяпер, між іншым, рассакрэцілі, што не толькі трупы елі, а таксама ўсіх катоў і сабак за месяц зжэрлі нашыя аблNone.

— Гэта трыумф нашых дактароў, нашых навуковых сіл — правадыроў захоўваць нягорш за жывых нават пасля заўчаснага канчатку, можна сказаць вылечыць ад смерці. І вось яны хочуць замахнуцца на нашыя святыні, на наш хлеб духоўны! Я скаланаюся пры думцы, што яны ўжо вострацць нажы на дарагога Лукіча: хто сцягно, хто лытку, хто, прабачце, шчакавіну. У навінах паказвалі: “дзермакраты”, бізнесмены і алігархі — вялізны торт для кнігі рэкордаў — у выглядзе “Лукіч у труне”. Ляжыць нібы на далоні. Гэта, праўда, не ў нас, мы б іх усіх — у клетку без лішняй гаворкі, на хлеб і ваду, на хлеб і ваду! Яны Лукіча — па кавалках на талерцы, ды з шампанскім, ды з гарэліцай, — шведскі стол, фуршэт!

— Мы таксама бачылі, таксама целік глядзім. Як шакалы вакол стала — штурхаюцца, каб кавалак паболей схапіць, кожны спяшаецца жарэ і назад — локцямі сюды-туды, спрабуе самую смачную частку — не проста чорна-шакаладны кавал нагі, калашыны ці чаравік са шнуркамі, а далонь Лукіча або нават чырвоны бант рэвалюцыйны ці ўвогуле — з галавы чагось адхапіць, адцяць, атрымаць у талерку — нос, вока, рот альбо свісток, як цяпер гавораць, — вусны, зубы. Іншаму карціць кус геніяльнага лба нашага дарагога Лукіча! А сэрца, сэрца правадыра! Чорная шакаладная чырва!

—А я калі целік глядзеў, чамусьці ўсё думаў пра ныркі спачатку, расольнічак з ныркамі. Кавалак мазгоў таксама уяўляў — жах! А яшчэ — страшна падумаць, кашчуннае блюзнерства — адцяць кавалак, які ў нагавіцах! Гэта нечувана, спадары міністры! Садызм, злачынства супраць усяго прагрэсіўнага чалавецтва!

— А што яны ў сваіх газетках пішуць пра Лукіча? Ганьба! Што Лукіч іхняга дучэ хваліў! Галоўная справа — за што? Ідыёты! Ды мне брыдка уявіць — каб адрэзаць сабе кавалак Лукіча і з’есьці, салодкага торта апрыклага.

— Трупнае мяса саладжавае, гавораць, нібы бульба падмарожаная —медыцынскі факт!

— Ну што вы, Іван Казіміравіч, мы ж не абложнікі з вамі!

— А ці ведаеце: пісалі заўсёды, што напалеонаўская гвардыя пажырала сваіх коней, маўляў — ледзь не здыхляціну. А як на мяне, каніна — вельмі смачнае мяса. Мы нашых скакуноў прадаем нашчадкам дучэ на каўбасу і радуемся!

— Ну прычым тут каніна! Яны, інтэрвенты, на нашыя прыпасы іклы вострацъ, на нашыя святыя мошчы!

— Кавалак мазгоў — гэта агідна!

— Чаму ж, у нас у кулінарыі пастаянна — мазгі смажаныя, жонка бярэ, смачна.

— Дык гэта ж свінячыя мазгі, сві-ня-чы-я!

— Свінячыя, ясна. Раней каровіны прадавалі, гавораць цяпер — шкодныя.

— Правільна! А мы ж пра Лукіча гамонку вядзем! Пра Лукіча! Пра нашыя святыні, пра ідэалы, пра скарб!

— А дарэчы, яны, ну — алігархі ці там іхнія кухары з рэстарана “Пекін”, яны не проста цеста спяклі, а — каньяком прамачылі дзе сэрца, без крадзяжу, у іншых месцах — лікворы, брэндзі “Напалеон”, а ў галаве — гарэхі: мускат, фундук, арахіс, кэш’ю.

— Гарэхі?

— Ну вы ж разумееце: дактары пісалі, калі яму трэпанацыю зрабілі, мазгі былі ці палова — з валоскі гарэх. А ён сам, гарэх, нагадвае мазгі.

— Не, штосьці мне больш не хочацца смажаных...

— А я чытаў: торцік атрымаўся далікатэсны — у калашынах труфелі, у пінжаку марцыпаны... Жанчынкі ажно вішчэлі! Аматаркі цукровай пудры і салодкай ваты.

— Аматаркі клубнічкі!

— Смажаных фактаў, салёных сенсацый!

— А я чытаў, крэм быў выкарыстаны не такі заўсёдны з маргарыну, а — суфле, птушынае малако, такі не прыядаецца.

— Выбіраць з тулава разынкі — немаральна!

— Вы падумайце, вы уявіце: каб нам паставілі пасярэдзіне Лукіча ў выглядзе торта. Мы тут сядзім абмяркоўваем, працуем, а потым — перапынак, кофэ-брэйк з торцікам.

— Так, ляжыць сабе склаўшы рукі, гузікі з цукерак... А рукі зрабілі чырвоныя: маўляў, па локці ў крыві. Ганебна!

— Ужо лепей бы з'есці не Сярпова-Молатава, а...

— Урупіна? Наркама харчоў?

— Ды прычым тут наркам? З'есці якога-небудзь Чэмберлена ці Керзана ці ўвогуле графа Дракулу.

— Дракулу? Ды ў ім крывішчы будзе, — насмактаўся як камар!

— Апазіцыя хоча прадаць наш музей правадыроў міжнароднаму трыбуналу з усімі вантробамі! Гэта абы што! Дзе іхняя мазгаўня?! Нейкі халадзец, студзень!

— Геніяльны мысліцель, светлая галава, калектыўныя мазгі пралетарыяту! А яны з яго торт. Каб хоць бы што больш людскае ў сэнсе закускі — сальцісону ці пячоначны рулет, я ўжо не кажу пра каўбасіну, пальцам пханую. Зусім без мазгоў — зрабіць з чалавека крэм-бруле якоесьці!

— А ведаеце — чым зэльц ад сальцісону адрозніваецца? Мне прадаўшчыца ў краме сказала: зэльц горшы, там амаль рогі-капыты, толькі чарніла закусваць альбо самагон не лепшай якасці.

— Мы незалежныя пакуль у нас свая бульба, сваё сала і хлеб. Гаспадыня, якая вечна пазычае соль і запалкі, — яна паступова робіцца залежнай. Яна залежыць ад ласкі розных дабрадзеяў. Яна мусіць прасіць, прыніжацца. А бясплатны сыр толькі ў мышалоўцы — запомніце!

— Лепей не спаць, каб не бачыць: вузкавокая плойма, як саранча на нашыя зялёныя палеткі і сківіцамі варушыць, як жорнамі...

— А мы іх з максіма, на тачанцы: тра-та-та!

— “На граніцы тучы ходзяць хмура, край суровы цішынёй аб’ят, ля высокіх берагоў Амура вартавыя родзіны стаяць!”

— “У гэту ноч рашылі самураі перайсці граніцу ля ракі”.

— “Тры танкіста, тры вясёлых друга, экіпаж машыны баявой!”

— “Тры танкіста выпілі па трыста, а вадзіцель выпіў дзвесце грам!”

— Не! “А кіроўца выпіў цэлы літр!” Гэх!

— Налівай хлопцы! Усе ў буфет!

## ЦАРСКАЯ ГАРЭЛКА
### Пасяджэнне сёмае, у панядзелак

— Ну што, кабінет міністраў? Прызнавайцеся: што, дзе, колькі і з кім! “Ах, дзе быў я ўчара, не знайсці днём з агнём, толькі помню, што сцены з абоямі...” Чыстасардэчнае прызнанне палегчыць вашую віну, давайце.

— Ды што там успамінаць, таварыш прэм’ер, у роце брыдка.

— Давайце расказвайце, не ламайцеся. Бачу, усе адзначылі свята як мае быць, пераўзышлі норму. Ты, Іван Іваныч, нагадваеш мне парсюка — вачэй не відно. Толькі не крыўдуй, я сам шклянку расолу выпіў, але ў роце памыйка, антыпаліцай не памагае. А ў цябе, таварыш міністр унутраных органаў, твар колеру перамарожанай ялавічыны, прабач.

— Гэта ён у мяне такі не назаўжды, гэта часовая з’ява. За што святы не люблю, што жонка не дае палячыцца потым. Яна ў мяне, як старшына. Так і жыве згодна антыпітной кампаніі.

— А я проста не магу спыніцца, чарку за чаркай. Гэта страх застаўся пасля антыгарэлачнага ўказа, што не хопіць. Сіндром такі, мне доктар гаварыў.

— Тады заўжды не хапала, змрочныя часы. П’еш і страх бярэ. З закускай таксама быў асартымент: капуста марская ды груца салдацкая ў слоіках, хлеб, праўда, прадаваўся, цаглінка. Але які толк ад закускі, калі няма чаго выпіць? Прафанацыя.

— Так, цяжкія часы, ліхалецце. “Учора газавая камора, сёння...” Перажылі нейк,ператрывалі. Памятаю: крамы дзверы не

адчыняюцца пасля перапынку, такі натоўп сабраўся, усім трэба бутэльку. Адгулы бралі, выхадныя, каб дастаяцца. А калі ты на службе — проста бяда бядушчая. Сам не сунешся, дый затопчуць калі што. Прасіць — не папросіш, бутэльку — на нос, у адныя рукі. А з чорнага хода таксама не выйсце, вельмі праверкі лютавалі, народны кантроль у дзеянні. Знаёмага застукалі — праз заднія дзверы ўзяў пляшку — карупцыя! Гадкоў пяць адбарабаніў. А ў яго нехта памёр ці нарадзіўся, бутэлька патрэбна была — пытанне жыцця і смерці!

— Слухайце, а як успомню жаніцьбу без гарэлкі, таварыства барацьбы супраць выпіўкі, жах бярэ! Што мы — хворыя?!

— Страшна ўспомніць, як у жудасным сне ўсё. А такі быў выпадак: адзін запісаўся туды, прабіўся наверх, а потым заспелі на гарачым: самадзейнасцю займаўся — на аналіз гарэлку браў і так у кожнай краме. Карацей, таксама карупцыя, трасца яе.

— Вось я прызвычаіўся ўсё рабіць як ударнік на барабанах: працаваць дык працаваць, баляваць дык баляваць, не сачкаваць ніколі. Не люблю халяўшчыкаў, мужык ты ці не? Не сядай за стол, калі не можаш па-людску выпіць. Правільна я гавару?

— У нас у арміі казалі: не хочаш — навучым, не можаш — прымусім. Ці наадварот. Карацей, школа жыцця, паскораны курс, два ўрокі.

— А тосты на вяселлі без гарэлкі — ганьба, пародыя! Вакханалія, як казаў наш маёр Клішч.

— Гэта праўда. Жадаю маладым доўгіх год жыцця і за моцнае здароўе выпіваю шклянку чаю. Адкуль яно будзе моцным? Вар'яцкі дом, Навінкі дый годзе!

— Альбо бярозавага сочку, бярозкі плакалі па такой жаніцьбе!

— А я аднойчы трапіў — квас кулялі, але кіслы, што мазгі працінала.

— Па-усякаму здаралася: у нашай пярвічцы адным дазволілі з півам адзначыць, замест, так сказаць, шампанскага налівалі, праўда, таксама кісляціна. Як раней: не паспелі піва давезці, яно ўжо ніякае. Асабліва ў спёку. Пабоўтаеш: каламутны асадак ўзнімаецца. Ды яшчэ дрэнь якая-небудзь плавае. Аднойчы муху бачыў, такую ліловую.

— Колькі муха выжлукціць? Не шкадуй!

— Ды што мухі, часам гамолкі якіясьці ў гэным піве знойдзеш. Адно слова: “жыгулёўскае”.

— А цяпер для некаторых выпускаюць з такой назвай. Настальгія!

— Ды я ж чуў, што на яго ліцэнзія патрэбна, забаранілі жыгулёўцы, лапу наклалі.

— Што там каламуць вашая, я аднойчы вачам сваім не веру: шматок газеты плавае, са здымкам. Прыгледзеўся: Леанід Ільіч у піве боўтаецца і глядзіць на мяне па-генсекаўску. А я: што глядзіш, цалавацца не буду, я табе не Карвалан!

— Вой, хлопцы: пры Сталіне за такое што было б! Сякір-башка!

— А я памятаю дужа любіў, як той спяваў: “Зін, а твой грузін зусім хлябаў бензін!”

— Бензіну яшчэ не хапала... Галава як булава, проста бухенвальдскі набат.

— У мяне таксама як чыгунная балванка, якой па танках. Ці гэтая куля, каторай сцены...

— А ў мяне гуд у галаве, як рэйкі гудуць, калі цягнік на падыходзе.

— Гэта што, у мяне нібы гэнай балванкай па вежы, а мы, а я ўнутры. Як цар-звон у галаве гудзе.

— А я ў авіяцыі служыў. Як запусцяць рухавік — галава як у гарматы ядро — вось-вось выбухне, лопне, разляціцца кавуном.

— Не трэба мяшаць, за сталом трэба быць адналюбам, не рабіць молатаўскі кактэйль. Ты сабе уяві: каб пасля п’янкі зліць з кілішкаў ды бутэлек рэшткі і выпіць? Вось ты тое ж самае добраахвотна робіш, а потым здзіўляешся вячэрняму звону на ранішнім пасяджэнні, калі пытанні трэба вырашаць дзяржаўнай важнасці. А ў цябе ў горле, як ва ўнітазе.

— Тэрмаядзерны напойчык! Як у тым кіне Віцын: перцу з імберцам туды, усякай трасцы, абрус прапаліў, а сусед кульнуў і анігадкі — далей закусваць!

— А я люблю, каб не толькі хлеб-соль, а каб чарка на падносе, па-царску.

— А ў нас ваксу на хлеб намазвалі, на салдацкую цаглінку, ён намочыцца, потым ваксу на боты і лусту жуюць.

— Не брашы.

— Дальбог. Хочацца ж кайф злавіць.

— Я таксама пра такое чуў, але за царом Гарохам.

— Казік, ды ты сам уяві — што за дрэнь гэта, рыгаць будзеш ад аднаго віду, ад панюху.

— Не, праўда, вось у нас сяржант Уласенка ва ўмывальніку на маіх вачах глынуў шыпру, і пена з рота як у вярблюда, быццам шампуню насёрбаўся.

— Вакса, адэкалон, ужо лепш накурыцца да адурэння. Дым з цябе выйшаў і ўсё, а гэта ператравіць трэба. Паскудства!

— Знаеш, як прыпрэ не такое з’ясі ці вып’еш, людзі муміё жуюць, какашкі птушыныя, экскрэменты. Горных арлоў ці кагосьці.

— Казлоў горных, я там служыў, ведаю, сам прывозіў бацькам лячыцца.

— Колькі гэнага гаўна ўсёй краінай зжавалі, а здароўе так і не палепшала.

— Сапраўды, маеш рацыю: жавалі-жавалі і што? І нічога. Колькі ні жуй гаўно, у роце салодка не зробіцца, я сам на зуб аднойчы ўзяў, няўрокам кажучы...

— Ведаеце: гэта праўда, што вып’еш халеру, калі прымусяць. Нават не канкрэтна хтосьці, абставіны.

— А я пра какашкі анекдот успомінў.

— Мы пра выпіўку, пра закуску, што ж імі — заядаць бакштанку будзеш, ха-ха?

— Успаміналі пра гэнае муміё, а я пра мядзведжыя.

— Што пра мядзведжыя: каштаваў іх ці што?

— Здурнеў? Я анекдот толькі.

— Добра, хай расказвае, а то мы толькі пра перапой. Ды пра што ў цябе там: пра круглячкі ад бурага мішкі? З акадэміі смаргонскай? Што ён там вывучаў? Заатэхніку? Як з кароў малако здабываць?

— Ды анекдот, можна сказаць, дзіцячы. Савецкі яшчэ, з барадой, нават няёмка.

— Савецкія мы любім, давай не цягні!

— Карацей, знайшоў заяц у лесе дубальтоўку і давай усіх сустрэчных прымушаць есці з кучы, лось пакінуў.

— А гаварыў — мядзведзь.

— Пераблытаў крыху. Карацей ідзе мядзведзь, заяц: еш мішка, мядзведзь — не буду. Заяц — лічу да трох: раз, два, тры, асечка! Зноў — асечка! Трэці раз асечка! Заяц дубальтоўку ўбок: ну, калі ты, мішанька, не хочаш, тады я сам з’ем.

— Смешна, але невясёла.

— Ну, я ж казаў, што савецкі, папярэджваў.

— Ды нармальны анекдот, дасціпны.

— Пасля першай не закусваюць! Памятаеце кіно? Пасля другой таксама і пасля трэцяй... Каб цаглінку ў барак прынесці галодным таварышам. Прыйшоў і вырубіўся. Герой. А той фрыц: рус зольдат отшэнь крэпкі! Патрыятычнае кіно.

— А памятаеце “Аперацыю “ы”? Разбіць, бутэльку? А ты ведаеш, колькі ў яе ўкладзена працы? Пасеяць трэба, зжаць, змалоць і гэтак далей…

— А як пшэкі нас хацелі на гарэлцы распрануць, раздзець, разбуць і тварам у гразь?! Хітрыя, халера! Пшэк-пшэк: патэнт іхні больш старажытны! З часоў Леха і Чэха. А мы — лапухі! Прыйшлося ў ААН звяртацца, каб даказаць, што гэта нашае спрадвеку слова, а па-іхняму будзе “гожалка”! Яны нашае слова скралі, мы так Бутрасу Галі і патлумачылі.

— Пся крэў! Войска польска Берлін брала, а радзецка памагала… Вот сукі!

— Не сукі, а курвы. Б… па-іхняму.

— Курвы! Але кінцо пра сабаку і танкістаў усе любілі.

— Танк наш!

— А кіно іхняе. Ты што не любіў Марысю, не падабалася яна табе? Не хацеў ляснуць?

— Скажаш, я яшчэ піянерам быў, у штоніках.

— А яны выпіць таксама малойцы, гулякі! Вудка-вудка!

— На халяву і ад рыцыны не адмовішся…

— Ды што там Марыся… Калі марыць, дык піць французскае шампанскае, выціскаць сок з каралевы!

— З брытанскай, з гэтай карготы?

— Бываюць і маднейшыя. Каралевы прыгажосці. Я быў у журы аднойчы: самы цымус дзяўчонкі!

— А я, браткі, у ГДР-ы служыў. Трымалі за плотам: ні гарэлкі, ні баб, як на зоне.

— Скажаш, а за Палярным пасам кішка танка? Па вяроўцы ў срачнік, каб не згубіцца, а там ломам экскрыменты… Каб месца сабе расчысціць. Такія Казбекі! Вечная мерзлата. Да першай крамы кіламетраў дзвесце, а можа цэлую тышчу. Да Амерыкі бліжэй. А гэныя тунгусы самі не п'юць і на продаж не гоняць. Проста жудасна! Затое “Голас Амерыкі” чысцюткі быў.

— А ў нас на К-150 пад вадой перш кожны павінен быў поўны слоік марской вады выпіць і каб не званітавала, а то на бераг спішуць. На сорак пяць сутак пагрузішся: сапраўды ні баб, ні звальненняў. Праўда вінцо давалі, не толькі афіцэрам.

— Ну, а я шнапс, допель-корн, вялікую бутэльку дахаты вёз, гэх! Не даехала, выпілі ў цягніку з якімсьці, не памятаю нават з кім, нехта выпадковы трапіўся пад руку. А я ёй ганарыўся, пляшкай, думаў усіх здзівіць. Захаваў для самагонкі. Такая — у форме тэлевышкі на Александэрпляц, прыгожая як Эйфелева вежа.

— Знаяце, я на падводнай лодцы, здаецца, русалку ляснуў бы, каб злавіў. Мы, дарэчы, стараліся на гаршок не хадзіць. Няголасная забарона існавала. Уяўляеце, калі там і так паветра не хапае, а трэба яшчэ баявую задачу выконваць.

— Так і трымалі ў сабе?

— А што зробіш.

— Але ж служба! Лепей ужо ў срачнік па вяроўцы…

## РАБОТА НАД ПАМЫЛКАМІ
### Пасяджэнне восьмае, пра слоўнікі

— У нас мудрагелістае пытанне сёння, філасофская задача: каб і козы сытыя, і сена цэлае. Або інакш: і сам п'яны, і гарэлка нявыпітая.

— Але ж так не бывае, манілаўшчына.

— Няма нічога немагчымага. Нават матка Марыя зацяжарыла без мужыка, уладыка Філафей можа прасвяціць, калі самі не чулі.

— Ну, гэта яшчэ, шаноўны Пятро Міндоўгавіч, патрабуе навуковых доказаў, пераканаўчых пацверджанняў, а ў іх з гэтым, здаецца, швах, ахілесава пята іхняя.

— Але ж ты Фама няверуючы, а як жа плашчаніца? Гэта медыцынскі факт. Уладыка!

— Ён авалодаў ёю, як ідэі авалодвалі масамі, гэта каб больш даходліва вам, каб папулярна растлумачыць. Хаця мы гаворым, што ён, у сэнсе святы дух, сышоў у яе, і яна зацяжарыла.

— Вось бачыш, а ты не вераў! Гучыць нават рэалістычна, можна сказаць: узяў і сышоў, і апладніў. Усё як у людзей.

— Мы гаворым — аплададтварыў, гэта па-боску.

— Як наш Пракоп Спартакавіч нядаўна жонку, ха-ха.

— Не багахульствуйце, спадары міністры. Толькі не ў маёй прысутнасці.

— А штосьці мне пачулася нешта іншае быццам, я што — памыліўся?

— Епітым'ю атрымаеш, не выкаблучвайся!

— Спадары ўрадоўцы, папрашу без дурных жартаў. Папрашу лепей агучыць парадак дня.

— Гэта ў нас замест размінкі, выбачайце ўладыка дзеля бога. Дык вось: будзем прымаць загад пра адзіную мову, каб не было ў дзяржаве дзве, каб не блытацца, каб усё было як двойчы два —

чатыры. Каб не дурыць сабе галавы болей, каб не йсці на паваду ў нацыяналістаў. Якія будуць прапановы?

— Адзіная — у сэнсе адна асноўная, другая ўспамагаўчая, каб статус вызначыць, каб зацвердзіць?

— Прачысціце вушы спярша. Адзіная — значыцца з дзвюх адную зрабіць.

— З дзвюх адную? А так бывае?

— Нават рэкі можна завярнуць назад! Калі вельмі захацець.

— Турэцкі паша сказаў: Ізмаіл здасца — калі Сонца ўпадзе на Зямлю, ці штосьці падобнае.

— Дык ён і не здаўся, яго штурмам узялі.

— Якая розніца? Ён жа меў на ўвазе, што не ляснецца, што ніякага капуту янычарам!

— Тут у нас доктар філалогіі зробіць гістарычны экскурс для Фамей няверуючых ці Фамоў. Як правільна?

— Фама няверуючы быў адзін, гэта канкрэтны біблейскі персанаж.

— Дзякуй, уладыка, прасвяцілі. А зараз карты ў рукі прафесару. Фама Фаміч, калі ласка!

— У нас ёсць падставы, усё гістарычна абгрунтавана: папросту вернемся, так сказаць, да першакрыніцаў. Некалі славянская мова, што не сакрэт, была адна-адзіная, потым пасварыліся, разышліся па нацыянальных кватэрах, сталі самі з вусамі, рэзультат наліцо!

— Дзякуй, прафесар: ні прыбавіць, ні ўбавіць. А зараз — ваша слова, таварыш маўзер! У сэнсе дамо слова нашаму шаноўнаму Філафею, выбачайце, уладыка!

— Кхе-кхе, нечаканы такі зварот, дальбог, але мы ў паэзіі рэвалюцыйнай таксама разбіраемся. Што датычыць царкоўнаславянскай мовы, яна сапраўды жыве і здраўствуе. Гэта — мова літургіі, казань мы чытаем па-руску, такая традыцыя.

— А раскажы пра нацыяналістаў, чаго ім не хапае? Чаго не спіцца па начах? Што свярбіць?

— Крытыкавалі, што мову, гавораць, дзяржаўную ў богаслужэннях не хочам. А што я?

— Што, з нажом да горла? Ультыматум, гаворыш? Вы чаму, уладыка, нашай роднай мовай грэбуеце? Ха-ха!

— Дык я й кажу: гэта не я, не ад мяне залежыць. Гэта было пастаноўлена яшчэ на царкоўным саборы ў самім Канстанцінопалі, гэта не ў маёй кампетэнцыі. Не мы прымалі рашэнне, не нам адмяняць.

— Во-во, звяртайцеся ў Канстанцінопаль! Ха-ха-ха! Пахвацку!

— А там, а там! "Турэцкі паша нож зламаў напалам, калі я сказаў яму: Паша, салам!" Гэх, абрагочашся з імі!

— Давайце сур'ёзней, уладыка яшчэ не скончыў, хай скончыць спачатку.

— Жрацы, першасвяшчэннікі заўсёды гаварылі асаблівай, не такой як на вуліцы, на плошчы, у натоўпе і на кірмашы, а боскай моваю, на якой размаўляюць у храме.

— Так, вось іменна. Нельга ж, каб адной мовай і ў піўбары, і з амбона, і ў турме, напрыклад. Гэта ж неэстэтычна, гэта ж прафанацыя. А ў казарме, у курылцы там, ці ў капцёрцы — тры словы ці пяць у розных, так сказаць, варыяцыях-інтэрпрэтацыях, знаем!

— У мяне самы свежы прыклад: як агульную мову пачалі касабочыць, знявечваць, каб было некалькі, і чым скончылася? Гаагскім трыбуналам! Карлай, выбачайце, дэль Понтай!

— Пераробка завяршылася перастрэлкай?

— Во-во, можна й так сказаць. Размаўлялі, лічы, аднолькава, а потым — кожны з акцэнтам: мая твая не панімай…

— Маладзец, зрыш у корань! Не ў брыво, а ў вока! Яны кажух разрывалі: хто каўнер, хто крысо, а мы назад сшываем, каб насіць можна было і маразоў не баяцца. Вось, дарэчы, мароз — і так, і так мароз — аднолькава. Добрае слова, мы яго бярэм. Гэта будзе рэформа мовы, можна сказаць. Уніфікацыя. У іх, у еўрапеоідных структурах — даўно адна мова асноўная, яны нават разеткі аднолькавыя зрабілі паўсюль, кучу бабак угробілі. А мы наадварот сэканомім, не будзем на гэтак званую родную мову марнаваць народную капейчыну, якую з потам і крывёю простыя людзі здабываюць ля станкоў і даільных апаратаў.

— Знаяце, што мне адзін польскі прафесар сказаў? Што гэтая ваша родная мова — fifty-fifty: палова рускіх слоў, палова нашых, у сэнсе іхніх. Так і сказаў, і паспрабуй плюнь яму у вочы. А гэта ж прафесар, гэта вам не фунт ізюму, ці як гэныя — "разынкі" — выдумалі. Абы не па-руску.

— Так-так, а што там наш першапячатнік, даруйце, першадрукар напісаў? Напісана пяром — не вырубіш тапаром! Што мова нашая — руская. Ру-у-ская! Так і напісаў. Ён што — прафесар кіслых шчэй хіба? Што ён, не разбіраўся, га? Кепікі строіў, жарты жартаваў?

— А хто яго ведае, ён жа за граніцай друкаваў свае рэлігійныя трактаты. Даўно дома не быў, адарваўся ад народнай глебы, ад курной хаты, даўно скарынкі бацькоўскай не каштаваў!

— Ды што яму скарынка! Ён бабкі меў, кніга тады як карова каштавала. Надрукаваў сто штук — цэлы статак калгасны лічы.

— Прашу слова ў шаноўнага старшыні! Ён друкаваў не трактаты, а святую Біблію, якую, прабачце, гэтыя нацыяналісты-эмігранты, яшчэ раз прабачце, празвалі “бібляй”.

— Бібляй?

— Бі-бля?

— Ганебна!

— Так і надрукавана на вокладцы, у мяне ў сейфе ляжыць. Нікому не паказваю. Сорамна!

— А можа, памылка друку?

— Ніякай памылкі, разгорнеш — таксама: бля, бля, бля, бля. Дрыжыкі па скуры!

— Неверагодна!

— Херня нейкая...

— Пачакайце! Вось бачыце — да чаго дакаціліся — Біблію ў рукі ўзяць немагчыма! Няхай скажа наш прафесар зараз, Фама Фаміч!

— Наш першадрукар правільна зразумеў сваю задачу нумар адзін — даць кнігу ўсім славянам адразу, каб усе зразумелі. І ў гэтым нашая задача сёння — каб вярнуцца да яго ідэі — не дзяліць, а аб’ядноўваць — моваю. Агульнаславянскай. Якая ў чыстым выглядзе захавалася ў царкве.

— Правільна-правільна. Але ў царкве архаічная, якой Адам з Евай гутарылі, ха-ха. Дзякуй, прафесар. Добра падвёў да тэмы, сядай. А мы будзем зараз рабіць мову сучасную, каб кожны зразумеў, бо цяпер кампʼютары паўсюль, нават у дзіцячым садзе. У такім разе забіваем двух зайцоў: самі перастанем вечна блытацца і заклікаем астатніх — “Усе славяне, яднайцеся!”, і любы дурны зразумее, што — самае галоўнае.

— Без талмачоў і слоўнікаў!

— Слушна, малойца. Я тут на працу ехаў, праглядаў газеты. І што пішуць? “Сяльхозпраізводства найболей уязвіма ад капрызаў прыроды...” Зусім беляны аб’еліся! Знаю-знаю, што “блёкатам” будзе на гэнай нашай роднай мове, але ж мяне ўсе тут зразумелі, а гэта — галоўнае! Карацей, мы тут вырашылі, што трэба пакінуць толькі аднолькавыя словы, каб з дзвюх моў скляпаць адну, але каб усе разумелі. Фама Фаміч, скажы!

— Мне тут адзін польскі прафесар сказаў аднойчы, што ў іхняй галоўнай газеце карыстаюцца мінімумам слоў, па-мойму, усяго трыста. І ўсе разумеюць! Для таго й зроблена, каб пабольш чытачоў. Гэта называецца, здаецца, “інфамова”, але пішуць пра ўсё.

— Вось бачыце! Нам жа не “Рамэу з Джульетай” сачыняць, нам абшчацца галоўнае, каб усе разумелі на ўсе сто. А то — што выходзіць: гэтыя нашы органы друкаваныя вырашылі пераплюнуць Валагду і Кастраму...

— І Сызрань!

— І яе, самі там не бываўшы. І што атрымліваецца: “са-бла-га-ва-ліце здаць аружжа” — абракадабра. І гэта цэнтральная газета! Калі табе мядзведзь на вуха наступіў, не пніся ў хор Пятніцкага, не лезь пішчом, з цябе можа атрымаецца проста добры баяніст. А што — гэта, хіба, кепска?

— А як быць з адыёзным спектаклем, я глядзеў нядаўна — пра ўсходняга і заходняга вучоных? Адзін гавораць: “ваш язык ісціна рускі, толькі сапсаваны пшэкамі”, а той, наадварот, — “ензык ісціна панскі, проста сапсуты маскалямі”. Што рабіць тады?

— Што рабіць-што рабіць? Хай не плявузгаюць! Мы для таго і дбаем, каб усе разумелі, каб ўсім лёгка было, каб не было ніякай завумі. А то паглядзі: ніхто толкам не ўмее размаўляць, ніхто мовы не ведае — ні адной, ні гэнай, толькі прафесар. Астатнія блытаюцца на кожным кроку. Да чаго дайшло: дзяржаўнай мовай сталі называць трасянку! Пазорышча! Што ў нас ва ўсіх языкі — мулкія? Слова сказаць не можам, каб не зьначыць, не перараблытаць? Ганьба джунглям!

— Карацей, я штосьці не да канца зразумеў — што будзем зараз рабіць?

— Бяры слоўнік, — ляжыць, і закрэслівай словы, якія адрозніваюцца. Вось, напрыклад, “квас” — што ў лоб, што по лбу... Хлеб, соль, масла, — таксама добрыя словы, аднолькава гучаць. Зразумеў?

— Здаецца.

— А то ў газеце блытаюцца з гэтым: “Нябесная канцылярыя не слішкам благаваліла труженікам сяла”, а па “яшчыку”, уключыў, не ведаюць, што такое “скляпенні”, а што — “сутарэнні”, лепей проста “падвал”, бо каму патрэбна такое кіно?! Вось, дарэчы, слова добрае — кіно, пішацца аднолькава, футбол зноў-такі, хакей. Я ўжо за вас пачаў працаваць, а вы сядзіцё, раты разявіўшы.

— Ты маеш рацыю. А то скорасць у іх “хуткасць”, замест праспект сталі пісаць “прашпэкт”. Пачнуць яшчэ гаварыць на замежны капыл “хлэб” чаго добрага, у сэнсе — дрэннага. Ад іх усякай

падлянкі можна чакаць. Трэба выбіць у іх глебу з-пад ног альбо, як той казаў, табурэтку, ха-ха!

— Перакасабочыць можна любое слова. А пра “сіль-сол” знаяце анекдот? Не? Расказаць? Добра, слухайце, гэта армейскі. Карацей: хахол просіць аднапалчан за сталом у сталоўцы перадаць “сіль”. А яму з другога канца чурка адказвае абурана: ні сіль, а сол, білят німруская… Ха-ха-ха! Навучыў, дзякуй! Ха-ха-ха! Люблю гэта анекдот, вельмі трапны. Нашыя нацыяналісты такія ж самыя, абое рабое.

— Сапраўды, гэта лагічна, каб мова была адзіная, што мы — не славяне, не браты па розуму? А то дакаціліся — хацелі, каб замест “Полацк” пісалі нейкі “Плоцк”. Проста суцэльная прафанацыя. Гэта ўсё гестапаўцы прыдумалі, паліцаі. Я глядзеў калісьці “Падзем’е страляе ўшчэнт”, дык яны памянялі нашу савецкую шыльду на іхні “Плоцк”. А бургамістрам зрабілі фон Плоцке. Чорт знае што!

— А Сараева Караван-Сараем у іх стала. Быў Карл-Маркс-Штадт, Каўтунград якісьці зваліўся на галаву. Усё перафарбавалі, што толькі магчыма. Паўсюль нагадзілі!

— Херня нейкая.

— Карацей, бярыцеся мужыкі за слоўнікі. І слова “яйцы” не забудзьце. Нашто нам гэныя “яйкі” — нешта дробнае, непераканаўчае, а вось “яйцы” гучыць як мае быць, салідна — возьмеш у руку — маеш рэч.

## ПРАДАВЕЦ ІНДУЛЬГЕНЦЫЙ
### Пасяджэнне дзявятае, пра жыццё і смерць

— Нельга ж, каб аднолькава плацілі — хто сякерай па галаве, а хто быў схоплены са сцягам, хто размахваў, напрыклад.

— Са сцягам! Не трэба блытаць, тут трэба разумець — хто на што здольны! Сякерай па галаве… Галава такая значыцца. З нармальнымі галовамі такім не займаюцца.

— Лячыцца трэба!

— Тут справа не ў леках, тут іншае. Тут трэба ацаніць ступень грамадскай і дзяржаўнай таксама, небяспекі, згодныя?

— …

— Маўчанка — знак згоды — ці не? Слухайце сюды, спадары міністры. Сякера — зброя народнага бунту, стыхійнага, лютага, з пенай ля рота, можна сказаць. Але класавыя спрэчкі даўно вырашаны: усё, баста! Сёння гэта толькі прылада для нарыхтоўкі

дроў. Запомніце, зарубіце сабе на носе! Гэта вам не аўтамат Калашнікава Фёдара Канстанцінавіча, не шпіёнскія розныя гузікі, запалкі, парасоны і шарыкавыя пісалкі.

— Можна пытанне? А калі ён са сваёй сякерай, прыкладам, на аўтобусным прыпынку з'явіцца, у краме або зусім на дэманстрацыі ці мітынгу?

— На прыпынку, на вакзале? А колькі ён здолее парубаць, колькі паспее? Аднаго максімум. Тое ж самае, што ў хаце сваёй роднай — без сведак, дзе ні міліцыі, ні хуткай дапамогі. Уразумеў?

— А калі на мітынгу?

— А што на мітынгу? Ты паспрабуй падыдзі толькі, калі са злачынным намерам. Што, не спрабаваў? І не раю табе. Я мог бы агучыць лічбы — колькі ў нас аховы ў цывільным і гэтак далей, колькі ў грузавіках чакаюць напагатове, але не буду.

— Ну, але раптам ён прабярэцца туды, з невялікай сякеркай за пазухай, каб не кідацца ў вочы? Каб не звяртаць увагі?

— Лухта.

— А раптам — хуткім рухам — як індзеец? Як Чынганчгук?

— Я табе гэтага не гаварыў, але ты сам павінен разумець — колькі навокал снайпераў — усё зверху праглядаюць, мышка не прабяжыць. Гэта іхняя работа, ім за гэта грошы плоцяць.

— Ну, снайпер — гэта ўжо занадта.

— Што ты са сваёй сякерай як з пісанай торбай? Ну, выпілі па бутэльцы, ну адзін другому па кумпалу! Непрыемна, ганебна, але гэта адзінкавыя факты. Начыталіся раманаў пра старушэнцыю-ліхвярку. Як там у яго: ці вош я звычайная, ці права маю?

— Там, здаецца, крыху інакш было.

— Ну, няважна, сутнасць тая ж. Права не права, а магчымасць мае. У нас сякеры без пашпарту прадаюць, брусок таксама. Гэта адзін час быў дэфіцыт, павывозілі ўсё пшэкі — пустыя паліцы... Але ж трэба разумець адрознасць: ён яе па "даху", а потым абавязкова раскайваецца, а мы яму — індульгенцыю ў зубы, руку дапамогі працягваем. Маўляў, ты яшчэ не да канца скончаны чалавек, шанц яшчэ маеш, дык выкарыстай яго, набудзь індульгенцыю, памажы дзяржаве нашай і сабе, каб не было згрызотаў сумлення.

— А можа сякеры лепей не прадаваць абы каму?

— А што ты прапануеш: на ўлік ставіць, як дубальтоўкі? Правы чалавека парушаць нельга.

— Ды я нічога не прапаную, я проста так.

— Запомні: кожны тата Карла павінен мець уласную сякеру, каб не пазычаць як соль ці запалкі. Кожны курэц павінен мець сваю люльку і тытунец — народная мудрасць!

— Ну, сапраўды, каб ужо дроў не нарыхтаваць старому дзеду, такога нават пры Сталіне не было, нават тады.

— Ты зразумей адрознасць — колькі сякерай за год засякаюць, столькі, можна сказаць, і відэльцам пратыкаюць. Што, відэльцы забараніць, забраць са свабоднага продажу? Што ты прапануеш — есці рукамі, ці лыжкай катлету — як у салдацкай сталоўцы? Ці як нашыя азіяцкія сябры — пруткамі — каб зашмат не з'есці? Ха-ха.

— Ды я што, я нічога.

— Ты ўцям адрознасць, Пал Палыч. Больш за аднаго ён не засячэ. Лясь па галаве п'яной — і раскаяўся, раз і назаўжды. А вось гэныя, гэныя, што сцяг з-за пазухі выцягваюць незарэгістраваны. Паздрадніцку, як злодзей, як дыверсант. Яму як аб сценку гарох, хоць кол на галаве чашы. Ты пацікаўся — колькі іх разоў за руку хапаюць, заспяваюць на гарачым. Не, не цікавіўся? Дык пайдзі пацікаўся! Валасы дыбарам устануць! Яго дубінай, яго ў каталажку, а ён выйдзе і зноў са сцягам! Сапраўдныя рэцыдывісты, хоць да сценкі стаў, але ў нас дэмакратыя, індульгенцыі збіраемся рэалізоўваць насельніцтву. Дык трэба з іх сем шкур у такім разе злупіць, хай расплочваюцца з роднай уладай! Паразіты!

— Ды калі яго дубасяць, а ён зноў са сцягам — яму як мёртваму прыпаркі, ніякая індульгенцыя не дапаможа. Ён жа не раскаяўся, як той з сякерай…

— Калі бабкі скончацца, вуму-розуму навучыцца, калі зубы на паліцу. Каб сцяг выцягнуць, таксама жаваць трэба.

— Ладна, давайце ў канструктыўнае рэчышча, абмяркоўваць больш прадметна. Каб аплаціць гэты дарагушчы нафтагаз, нам трэба альбо надрукаваць грошай, што будзе не зусім правільна, альбо ўзяць іх аднекуль, і гэтаму трэба аддаваць перавагу. Прычым надрукаваць індульгенцыі — самае лепшае, самае хуткае… Ніхто не бязгрэшны, хай усе плоцяць.

— І мы?

— І мы таксама, падамо прыклад, заахвоцім. Святых у нас няма, з крыльцамі таксама. Першымі набудзем індульгенцыі, і хай тэлебачанне пакажа чым шырэй. Хай людзі бачаць, хай не баяцца, не саромеюцца.

— А якія будуць кошты?

— Кошты? Зараз усё падлічым, будзьма каваць жалеза, не адыходзячы ад касы, ха-ха. Хай грашовы міністр паведаміць свае разлікі, што ў яго там?

— Я тут, груба кажучы, прыкінуў, што кожны павінен будзе заплаціць па дзесяць баксаў.

— І дзеці?

— Яны таксама ўключаны, але трэба падумаць.

— А чаму “груба кажучы”?

— Таму што мы яшчэ не ведаем, як падаражэе і як будзем эканоміць.

— Але рыхтаваць сані, у сэнсе — зімовую гуму — ужо трэба, “прамаруджанне смерці падобна”! Слушна я кажу?

— Трэба з запасам тады, калі не ведаем дакладна. Запас бяды не чыніць!

— Не трэба гарачыцца. Вялікімі цэнамі можам напужаць. Трэба лепей, каб заахвочваць купляць па некалькі штук. Як акцыі. Чым больш купіў, тым больш бязгрэшны перад уладай, тым больш лаяльны. Можна хоць адразу ў рай, ха-ха. Але лепей пачакаць з раем, лепей яшчэ пару-тройку набыць. За нафтагаз плаціць трэба, на дурніцу ніхто даваць не будзе.

— У рай нават бацюшкі не спяшаюцца…

— А што ў нас з фінскай паперай, ці маем запас?

— Папера не праблема, дакупіць можна.

— А ў чым праблема?

— Ды ні ў чым. Возьмем ды надрукуем. Хто нам забароніць? Толькі цэны трэба. Можа як з грашыма намінал зрабіць — адна дзяньга, дзве, тры. Або лепей у баксах.

— У баксах? А што Джордж Дабл’ю тады скажа? Ён і так паглядае нібы Ленін на буржуазію. З ім жарты кепскія, заводзіцца з паўабароту.

— Сапраўды: ледзь што — у бутэльку лезе. Лепей ў тугрыках напісаць ці нават у дынарах…

— У дынарах? У якіх яшчэ дынарах? Ціпун табе на язык. Нацыяналісты пачуюць — лямант учыняць: мы ж гаварылі, мы ж гаварылі!

— Ды пляваць на нацыяналістаў, яны першыя кінуцца індульгенцыі скупляць. Іхні лямант — у лужыну пярдзець. Сабакі брэшуць, а караван рухаецца. Мы з вамі цягнем лямку.

— Можа, праўда, у тугрыках? Яны нічые, ніхто не прычэпіцца, загрудкі хапацца не будзе.

— Значыць так: трэба рухацца наперад, мы да ночы прасядзім, калі ля кожнага слупа спыняцца.

— Я прапаную, каб было ад чаго танчыць, узяць перш дзесяць забаронаў, шкада ўладыкі няма, за якія належыць караць: як там — не крадзі, не абжырайся, не забівай і гэтак далей.

— Знаеш Біблію, маладзец! Пяць балаў табе. Мы, каб простыя людзі падтрымалі, зробім як з падаткамі — хай бізнесмены больш плоцяць і розныя нячэсныя на руку, якія “купі-прадай”, самі нічога не выробляюць. Скідкі зробім: для ветэранаў, працоўных дынастый, для маць-гераіняў, для ангольцаў і амонаўцаў нашых.

— Можна спіс пашырыць, ёсць жа ў нас яшчэ героі жніва, пераможцы дажынак, ганаровыя донары, чыгуначнікі, добраахвотныя дружыннікі, напрыклад, байцы ідэалагічнага фронту. У іх таксама хлеб — не цукар.

— А дзе прадаваць будзем? Гэта таксама важна. Каб чэргаў не было.

— Можна банкаматы паставіць.

— Банкаматы! Тут патрэбны жывы кантакт, індывідуальны падыход. Бацюшка, напрыклад, пытаецца: а якія ў цябе, сын мой, грахі былі за апошні час? Выслухае ўважліва ўсё, не перабіваючы, паўшчувае і складзе прэйскурант. Як у храме з паслугамі: за маленькую свечку дзяньгу, за вялікую пяць, за пахаванне, за вянчанне. Усё — паводле нябеснай канцылярыі, цот у цот.

— Мне яшчэ незразумела, як будуць спалучацца, адпавядаць грахі —Крымінальнаму кодэксу? Пры Сталіне, напрыклад, за каласкі расстрэльвалі, нават дзяцей, у сэнсе падлеткаў.

— Ну, гэта ўжо яўны перабор, у нас больш, як той казаў, роўнасці і братэрства.

— Больш, але я ведаю, што за хамут скрадзены пасадзілі. Гэта з аднаго боку, з другога — за забойства могуць гадкоў пяць даць, а выйшаў са свечкай на вуліцу ці ў майцы з надпісам — у кутузку і тышчу баксаў штраф. Ці за кратамі можна на паўгода апынуцца.

— І што табе незразумела? Са свечкай у царкве стаяць трэба, грахі замольваць, а выйшаў у грамадскае месца — купляй індульгенцыі на кавалак баксаў — сам вінаваты, пажар учыніць мог! Я б яшчэ гэтых штрафаваў, што на акне запальваюць, каб іншыя бачылі. Паразіты!

— Што з нацыяналістаў узяць?

— Як што? Хай плоцяць! Выціснуць як лімон у чай!

— Давайце без эмоцый! Усе мы людзі, усе мы чалавекі. Для нас усе роўныя, усе павінны плаціць, без розніцы. Бязгрэшных у нас

няма. Пры Сталіне паспрабаваў бы хто адмовіцца ад аблігацый дзяржпазыкі, адразу б яго... Усе бралі за мілую душу. Людзі паўміралі даўно, а яны ў шуфлядах дагэтуль, шкада выкідаць: прыгожыя, гербавыя.

— Гэх, сапраўды быў парадак, піснуць баяліся.

— Ды ладна, чаго шкадаваць учорашні дзень. Жыць трэба, варушыць мазгамі, нафтагаз дарагушчы будзе, ніякай халявы, нічога на ім больш не заробіш, толькі страты. Хай насельніцтва раскашэльваецца. А грахі ва ўсіх без выключэння, ні для каго ні сакрэт.

— Мы тут накідалі рэкламу — лозунгі, плакаты, бігборды.

— Слухаем.

— Такія варыянты: "Індульгенцыі — у масы!", "Ты ўжо купіў сваю індульгенцыю?", "Ты набыў ЯЕ?" — крыху з інтрыгай, нават з адценнем інтымнасці. Далей — ""Купіў сабе, купі жонцы!"

— А палюбоўніцы — не прадугледжана? Ха-ха.

— Пачакайце, яшчэ варыянты: "Колькі ты ІХ набыў?", далей — "Купіў адну — купі яшчэ, не шкадуй!" А гэта наш хіт: "Заплаці за свае грахі і спі спакойна!" Можна каляндар нават зрабіць насценны.

— І гэта ўсё? Адна трасца, па-мойму. Не кіем, дык палкай, выбачайце.

— Ну, чаму ж, ёсць яшчэ варыянты — вулічны плакат "Радзіма-маці", якая строга пытаецца: "А дзе твая індульгеныя, га?" А вось знакаміты чырвонаармеец са стрэльбай, які паказвае на цябе пярстом з патрабаваннем "Пакажы тваю індульгенцыю!" — замест аўсвайса ў сэнсе.

— У нас прапанова: каб больш далікатна, без прымусу, каб заахвоціць, можна з розыгрышам прызоў, як цяпер модна.

— Гэта ты пра латарэю? А ты ведаеш, што купляюць не ўсе, далёка да ста працэнтаў, і прызы дарагушчыя — "мерсэдэсы" розныя... Трэба маральны стымул, штось сымбалічнае, але прыемнае, накшталт лістоў-трохкутнічкаў ветэранам. Набыў індульгенцыю, а табе паштоўку з роспісамі ўсіх членаў урада.

— Замучаешся распісвацца.

— А мы пад капірку, на ксераксе, карацей выкруцімся, не журыся.

— І апошняя прапанова. Пакуль гром не грымне, ну вы ведаеце прыказкі-прымаўкі... Карацей, калі пусціць на самацёк, будзем замест нафтагазам дровамі грэцца, як на вёсцы. Трэба нейкі загад ці дырэктыву, карацей урадавую пастанову. У прэамбуле: "Грамадзяне, Айчына ў небяспецы! Нам пагражае мароз-сіні нос", — штосьці ў такім духу. А затым — "Ратаванне тапельцаў — справа рук

саміх тапельцаў”, — народ гэты выраз крылаты любіць. І слязу яшчэ каб выціснуць — “Ад цябе, братка, залежыць, каб не лопнулі трубы, каб не замерзла вада, каб не стыгла ў жылах кроў”. Ну, і крыху лірыкі: “Скажы капітуляцыі — не! Новаму Сталінграду не быць!”

— Штосьці, па-мойму, сорак бочак арыштантаў атрымалася.

— Вы нам яшчэ “дзякуй” скажаце. Шапку мы таксама прыдумалі: “Індульгенізацыя ўсяго насельніцтва” ці, можа, лепей будзе “індульгенцыяцыя”? — з філалагічнага пункту гледжання…

## МЫЛЬНЫЯ БУРБАЛКІ
## Пасяджэнне дзясятае, пра флэш-мобы

— Флэш-мобы, еці іх маць, небяспечныя тым, што гэта незразумела што, абракадабра.

— А я не знаю што гэта і не лезу ў прыбамбасы.

— Не лезеш, а давядзецца. Ты думаеш: мы без дай прычыны пра іх успомнілі, што рукам нашым няма чым заняцца?

— Ну, я ў тым сэнсе, што херня гэта нейкая, башку дурацъ толькі.

— Э, не, гэта табе так толькі здаецца, міністр парадку нам зараз даложыць пра гэтых нягоднікаў, пся крэў, як лаяліся ў дэфензіве некалі.

— А пры чым тут дэфензіва? У нас свая заўжды не горш была.

— Гэта толькі да слова, мясцовы каларыт. Мы дзеці былі як дзеці: акцябрацкай зорцы радаваліся, затым — “кагда быў Ленін маленькі з кудравай галавой” — зусім як на зорцы — і гэтак далей — вершыкі вывучвалі.

— Так-так, а бурбалкі, памятаю, самі рабілі з мыла гаспадарчага — раствор такі каламутны. Самай праблемай было — чым выдзімаць.

— У нас трубкі рабілі з лапухоў, са сцябла.

— А ў нас кралі матчыну макарону, кароткая, праўда, была, якраз для макароны па-флоцку — цымус! Я матросам… марыў.

— Мяне матка за макарону сцябала, гэта ж прадукт харчовы! Былі яшчэ доўгія макароніны, дарэчы, я памятаю, імі найлепш бурбалкі рабіліся.

— Самым прэстыжным было дзесь выстарацца на саломіну для кактэйляў. Іх тады аднекуль з Рыгі прывозілі, дэфіцыт быў

страшэнны! Але такія прыгожыя, рознакаляровыя. Ужо перцам хадзіў, калі хто прывязе падаруе.

— Гэта вы ўсё гарадскія, у нас на вёсцы з прыроднага матэрыялу трубкі рабілі, заўжды хапала раслін.

— Не, самай салодкай марай было, калі прывозілі з-за мяжы спецыяльныя бутэлечкі з пахкім растворам для бурбалак.

— Вось і дапрывозіліся, мы зараз ніяк расхлябаць не можам. “Прэкланенне перад усім інастранным”, як вучыў таварыш Сталін, заўсёды кепска сканчаецца. Пачынаюць з мыльных бурбалак, а сканчаюць каляровай рэвалюцыяй.

— Ды кінь ты, Кузьміч. Бурбалкі — дзіцячая забава, глупства.

— А ты ведаеш, што таварыш Сталін гаварыў, не ведаеш? Што ён называў страту пільнасці і бесклапотнасць “ідыёцкай хваробай”? І ён, між іншым, падкрэсліў: калі мы пакончым з гэтай ідыёцкай хваробай, нам будуць нястрашныя ніякія ворагі, ні знешнія, ні ўнутраныя. Класіку трэба ведаць, даражэнькі Пракоп Спартакавіч!

— Ды я што? Я нічога, я проста так. Таварыш Сталін, канечне, быў тэарэтыкам, ніхто не спрачаецца.

— Але ж тады флэш-мобаў не было!

— А мыльныя бурбалкі існавалі.

— У рэшце рэшт, усе гэтыя бурбалкі, флэш — як іх там — мобы — гэта пытанне пільнасці. А пільным трэба быць заўсёды. Таварыш палкоўнік, што гаварыў Фрыдрых Эдмундавіч на гэты конт?

— Ён гаварыў, што па-сапраўднаму пільны не той, хто дэмагагічна разглагольствуе аб пільнасці і прымае траскучыя рэзалюцыі, а той, хто аналізуючы, здавалася б, нявінныя фразы, учынкі замаскаваных ворагаў, з’явы і факты, здолеў бы намацаць гэтых ворагаў і своечасова іх абясшкодзіць. Вух!

— Вось бачыш: нявінныя фразы й учынкі. А ён на гэтым сабаку з’еў!

— Ну, тут яшчэ можна паспрачацца — хто большы дока быў наконт пільнасці — “жалезны” ці “сталёвы”.

— Гавары лепей “стальны”, нашто нам “прэкланенне перад інастраншчынай”?

— Ну хай сабе.

— Таварыш Сталін болей развіў гэтую тэорыю, удасканаліў барацьбу за паўсямесную пільнасць.

— Проста Фрыдрых Жалезны памёр рана.

— Ён жа яго й укатрупіў, бо зашмат ведаў.

— Ціпун табе на язык.

— Ды пра гэта сёння ўсе знаюць.

— Занадта разумныя сталі, раней языкі ў дупе трымалі.

— Усё роўна варанкі кожную ноч ураджай збіралі. Во, як паэт загаварыў, сам здзівіўся.

— Штосьці ў нас небяспечная зачынаецца гаворка, нейкі апартунізм з нігілізмам. Не падабаецца гэта мне. Запомніце: як толькі ты пачынаеш сумнявацца, усё — ты прапаў, ты страчаны для Кабінета чалавек, тваё месца на флэш-мобе — мыльныя бурбалкі пускаць. А таварыш Сталін, між іншым, патрабаваў неаслабна сачыць за падкопамі з боку ворага, умець распазнаць яго, пад якой бы “лічынай” ён не хаваўся. Ён патрабаваў вучыцца своечасова разгадваць каварныя планы, каб спаралізаваць у самім зародку яго падрыўныя дзеянні. Так што мыльныя бурбалкі — гэта не проста так, гэта вельмі сур’ёзна. З гэтага ўсё пачынаецца.

— Не ведаю: у дзяцінстве таксама мыльныя бурбалкі пускалі, але ніякіх флэш-мобаў не было, і ніхто не забараняў. Паняцця такога не мелі, каб за мыльныя бурбалкі ў кутузку, кайданкі.

— Ты што: на ідыёцкую хваробу захварэў? Я ж толькі цытаваў, забыўся ўжо? Памяць дзіравая?

— Ды што мы зацыкліліся на бурбалках, мыла цяпер хапае, не пасля вайны. Існуюць іншыя флэш-мобы, калі ўжо на тое. Гэны, каторы тачку з гаўном прытарабаніў да помніка Жалезнаму, таксама ж.

— Ну, ты ўспомніў. Атрымаў па заслугах ён! Пад завязку.

— Між іншым, гэта, я чытаў, быў ніякі не “моб “, а інакш нейк, адразу не ўспомню.

— Жук-гнаявік! Што пра яго ўспамінаць!

— Але гэта флэш-моб таксама!

— Дык Пятровіч сказаў, што не “моб”, а інакш называецца.

— Усё гэта адна трасца: “прыколы нашага гарадка” па тыпу. Прыпёр тачку,ываліў пад нос помніку.

— Помніку ў нас пад вокнамі! Мы таксама нюхалі!

— І нічога не зрабілася, што мы — гною не бачылі? Як толькі вясна, кожны вылузваецца са скуры, каб грузавік друхла на дачу знайсці. Гэта ж дэфіцыт цяпер, не хапае вечна! Што, няпраўда хіба?

— Ты ж не блытай божы дар з яешняй! Адна справа ты на гаршок сходзіш, іншая — калі ў грамадскім месцы, навідавоку. А гэны ўвогуле — наваліў нашаму Кабінету кучу: нюхайце, хлопцы! Правільна старшыня гаворыць: гэта зусім не бяскрыўдна, гэта каварныя планы ў дзеянні!

— Гаўно ёсць гаўно, што на дачы пад капусту, што помніку пад кветкі. Трэба быць вышэй, а то Кабінет толькі й будзе каравякамі

ды конскімі яблыкамі займацца! Трэба аддзяліць мух ад катлет, каналізацыяй хай займаецца камунальная служба!

— Я вам скажу — што тут агульнага: “ліцэдзеі”, прытворшчыкі. Карацей, клоўны. У іх і шары на нітачцы, і бурбалкі, і насы — коркі ад віна ды іншая дурнота. Каб смяшыць. Гэта ж блазнота, маскарад, цырк на дроце!

— Правільна, а ў нас тут пасяджэнне кабінета міністраў, нам трэба займацца, каб мыла хапала, каб зноў па талонах не зрабілася.

— Але існуюць таксама ідэалы, прашу не забывацца! Так, калі пусціць на самацёк, калі ўсёдазволнасць, пад кожным дрэвам туалет зробяць, як сабакі. Што гэты лаўрэат напісаў? Што на нашых вуліцах днём з агнём не знойдзеш экскрэментаў, у сэнсе сабачых, а ў іх на кожным кроку — на іхніх хвалёных авеню, стрытах і штрасэ. Толькі дазволь, толькі расслабся, на галаву нагадзяць.

— Ты ведаеш: напраўду, паедзеш і часам кроку зрабіць няможна, каб не наступіць. Ходзіш як без галавы, вітрыны разглядаеш, рот разявіш, а потым не ведаеш як з падэшваў счысціць. Праблема!

— Вось іхняя дэмакратыя, іхняя ўсёможнасць, флэш-мобы і хэпі-энды!

— Пачакай-пачакай! А хэпі-энд — гэта не тое, што гэны з тачкай гаўна, не хэпі-эндам называецца?

— Які ж гэта хэпі-энд, калі яго ў суд ды ў клетку?

— Дык яму далі яшчэ нічога, без кратаў потым. Аддзелаўся лёгкім перапудам, гэта хіба не хэпі-энд? Што ж тады “хэпі”?

— Што вы завялі катрынку: флэш-мобы, хэпі-энды?! Трэба перастаць “прэкланяцца перад інастраншчынай”! Трэба выдушваць з сябе раба па кропельцы. Што, нельга проста сказаць: забароненае мерапрыемства з шарыкамі або — антыўрадавы выступ з мыльнымі бурбалкамі? Засмецілі мову хот-догамі, гамбургерамі, жыць немагчыма — ламай язык толькі, быццам няруські.

— Я таксама язык ламаць не люблю, адчуваеш сябе недарэкам — гэтага сказаць не можаш, ды тое не здольны вымавіць, яшчэ наблытаць штосьці баішся, амаль як не туды наступіць. Ходзіш як у гаўнішчы.

— Як у штаны наклаўшы! Не гані хвалю, ха-ха!

— Зноў ты са сваёй тачкай!

— А што, згадзіся, што прыкольна. Я тады рагатаў, думаў парвуся. Не, уяві сабе — Жалезны са сваім носам-круком і крывой бародкай з кучай ля ўзножжа — смех дый годзе! Нібы зморшчыўся: фэ!

— Хэпі-энд, хэндэ-хох, — колькі можна! Даліся ў знакі!

— Каб ты ведаў: у цэрэу цэлы аддзел гэтым займаецца, флэш-мобы прыдумвае, каб расхістаць нашыя падмуркі. Як раней быў аддзел, выдумляў анекдоты пра Васіль Іваныча.

— А мне падабаліся. Ды ўсе любілі, ты хіба не любіў, не рагатаў?

— Ты забыўся, што вораг хаваецца за “лічынай”, але ў яго каварныя планы, ты павінен спаралізаваць у самім зародку яго падрыўныя дзеянні! А ты — ха-ха! — Анка папаўзла да белых — не страляй! — мы вядзем бактэрыялагічную вайну!

— Ха-ха-ха!

— Антысаветчына! Як можна смяяцца?

— Ды кінь! Усе свае, ніхто не пачуе! У таварыша маёра абед!

— А мне падабаўся асабліва: паўзуць у разведку па ворыву Анка, за ёй Пецька, замыкае Васіль Іваныч. Перапаўзлі палову палетка, Чапай торгае за бот: Пецька, памяняемся месцамі, немагчыма за табою — баразну пакідаеш! Тут табе і флэш-моб, і хот-дог, і хэндэ-хох адначасова!

— Так, стары конь баразны не псуе.

— А ў маім варыянце другім Чапай поўз.

— Ды якая розніца?! Галоўнае: ён паўзе за ёй і баразну пакідае глыбокую. Як плугам арэ — ха-ха-ха!

— Не, з вамі кашы не зварыш, вам флэш-моб да аднога месца.

— Да сракі!

— Пачакайце, я не паспеў: тачка з гаўном — гэта флэш-моб ці хэпі-энд?

## ДЭКРЭТ-МАШЫНА

### Пасяджэнне адзінаццатае, пра скарачэнне штатаў

— Шаноўныя спадары міністры, паважаныя таварышы! У мяне для вас дзве навіны: кепская і добрая. З якой пачаць?

— Давай з добрай, і так на душы кошкі, з жонкай палаяўся з-за яешні.

— Мы таксама згодныя, няхай з лепшай.

— Карацей кажучы, у буфеце паставілі аўтамат: сам наліваe кофа і какаву з чаем, толькі дзяньгу давай, у шчыліну.

— А фіговая?

— Што, не радыя? Не хочацца кавы, каб не спаць на пасяджэннях? А там якая хочаш: з цукрам ці без, чорная ці белая.

— А з каньяком няма?

— Чаму ж, калі ласка: з каньячным водарам, з амарэта і гэтак далей, толькі дзяньгу давай, я ж кажу.

— А кепская якая?

— А кепская — што будзьма скарачаць штаты.

— Штаты?

— А ты як думаў? Не бойся, не Злучаныя, ха-ха-ха! Сядзімо тут, насамі клюем, каўтунамі трасем, і ўсё за народныя грошы, за потам і крывёю здабытую капейчыну. Ці не сорамна? Штаны праціраць? Вунь якія азадкі адгадавалі. Прыходзіць новы міністр без партфеля як чалавек — амаль спартсмен, а пасядзіць крыху, пазасядацельствуе і робіцца не раўнуючы кабан, хіба гэта нармальна? Зірніце на сябе ў люстэрка: азызлыя, шчакавіна, карак як у дзіка!

— Работа цяжкая, напружанне, можна сказаць, інтэлектуальнае, стрэсы.

— Стрэсы, інтэлектуалы! Ды некаторыя толькі азадкамі й працуюць. Што, не згодныя?

— Ды азадкамі, азадкамі, само сабой, але ж і мазгаўнёй таксама, не без таго.

— Ды ў цябе лоем зарасла мазгаўня, здорам. Я ў цябе пытаўся: колькі будзе каштаваць нафтагаз, Пятровіч? А ты мне што: не бойся, яны не наважацца так рэзка, дамовімся зноўку, як піць даць!

— Ну, гаварыў. А што — няпраўда?

— Ды мне чхаць на твае глыбакадумныя меркаванні, на твой ідыёцкі аптымізм. Мне лічбы патрэбны, лічбы! Аргументы і факты! А не тваё гаданне на кававай гушчы. Нам тут цыганшчыны не трэба, у нас тут кабінет міністраў, трасца вашай матары! Ну, хлопцы, давялі да ручкі! Не ўстрымаўся.

— Ды не кіпяціся ты, мы ж не адмаўляемся: азадкамі працуем, на дзікоў падобныя. Трэба ўзважыць усе “за” і “супраць”. Год дзіка наступае, дзве тышчы дваццаць пяты, можа праб’емся, у штыкавую, у рукапашную — ура! — галоўнае захапіць пярэднюю траншэю, замацавацца, а там паглядзім. Смяецца той па-сапраўднаму, хто смяецца апошнім, хіба не так?

— Можа ты й маеш рацыю, але рацыю на браняпоездзе, толькі браняпоезд гэты — апошні, глядзеў кіно?

— Глядзеў-глядзеў. Файна яны далі фрыцам перцу з імберцам. А здавалася ўжо ўсё — кранты — у мяшку апынуліся, у мышалоўцы. А нават у мышалоўцы ёсць дзверы, трэба толькі ключ падшукаць і замок змазаць, калі трэба.

— Ну, добра: вось я цябе звальняю, прыкладам, як замок будзеш змазваць, ключ шукаць?

— А я адмычкай, ха-ха.

— Сам жа казаў: лепей смяяцца апошнім.

— Ды што ты заладзіў: звальняю, звальняю. Можа якраз з мышалоўкі выпусціш, хто ведае?

— З мышалоўкі?

— А што? Як нафтагаз падскочыць зараз, прыйдуць пад вокны галодныя ды халодныя! Штурм Зімовага палаца — забыліся? Злазь, скончылася вашая ўласць!

— Дык там жа міністры-капіталісты былі, а мы з народа выйшлі, плоць ад плоці, я сам з мужыкоў. У нас паходжанне рабоча-сялянскае, пралетарская костка. Можа адзін які ўплішчыўся з праслойкі, з інтэлігенцыі гнілой, ха-ха.

— Але аддувацца ўсё роўна давядзецца перад насельніцтвам, хоць сабачаю май костку.

— Ха-ха-ха! Як я вас напужаў? Перапудзіліся, га?! Нібы авечкі. Але я не воўк, я — пастух, пастыр. Воўк — гэта зіма, маразы, калі нафтагаз раптам скончыцца.

— Ну ты ж сам сказаў: скарачаць будзем штаты. А каму хочацца скарачацца? Нікому.

— А вунь жа Пятро Кузьміч сам захацеў, дай ключы, кажа, хутчэй выпусці з мышалоўкі. Не магу маўчаць, маўляў, дайце сказаць апошняе слова, праўду-матку рэзнуць!

— Ды не казаў я такога. Сам жа ты: звальняю і ўсё, збірай транты. А што мне: смаркацца ў хустачку? Каўтун раскудлачыць?

— Ладна-ладна, расслабся пакуль, я ж яшчэ не ўсё сказаў, а ты адразу загрудкі, гарачая кроў, як у тым вершы: “У нас, крывічанаў, халодная кроў, пакуль не захопіць да Краю любоў…” Гэх, паэзія! Няма часу…

— А чаго гэта ты пра кроў ўспомніў раптам? П’явак нам падрыхтаваў?

— Дурны ты, я вас настройваю на адпаведны лад. Міністры, яны патрэбны, без іх як без рук, можа каторага без партфеля часова пакінем, але на мазгах эканоміць не будзем. Ператрымцелі? Можна разняволіцца. Эканоміць будзем на клерках, на дробнай сошцы, штаты расперла як аўтобус, калі на працу едуць. Сакратаркі, падавалкі, памочнікі, гэтыя, як іх, інструктары. Як сабак! Урад не гумовы! Пісакі, праціракі, толькі чаі ганяюць і дымяць у сарціры. Карысці — як з казла малака. Усё, баста!

— Ты чаго, павыганяеш усіх? А хто будзе гарбату заварваць, трубку падымаць, шрайбаваць даклады, ці мала што?

— Ты слухай сюды, не перабівай бацьку, не лезь наперад у пекла. Усё прадумана, усё пад кантролем! Мы закупілі “дэкрэт-машыну”, яна ўсё можа, супер-пупер, штатаўская ці японская.

— Ну, заінтрыгаваў. А я ўжо перахваляваўся, трэба валідол глынаць.

— Не спяшайся, потым у буфеце па кілішку перакулім, адзначым. Карацей так: разумная машына, “махіна-сапіенс”, навучана ствараць тэксты — хочаш вершы, хочаш любоўныя лісты, а можна песню заказаць, сачыненне пра “Вайну і мір”, пра Раскольнікава.

— У сэнсе пра “Злачынства і пакаранне”?

— Не забыўся ты яшчэ на школьную праграму. Яна, калі захочаш, можа табе перапісаць любы раман занудны, адаптаваць да патрэбаў сённяшняга дня, каб хатняя гаспадыня не пазяхала.

— А што яшчэ ўмее?

— Каву не заварвае і бутэрброды не выдае, ха-ха. Але для нас найважней, што любы дэкрэт, загад, пастанову ці дырэктыву зробіць — хутка і як мае быць, толькі тэму дай, лічбы і мазгі адпачываюць. Пячэ як піражкі з павідлам.

— Мне больш з капустай падабаюцца.

— З чым хочаш, хоць з перцам-імберцам! Зараз пакажу як працуе, здымайце прасціну!

— А я думаў — што за гаргара, першы раз бачу, так усё й апусцілася.

— У яе галава як Дом саветаў, памяць — цэлая ленінская бібліятэка, усе тэмы — ад Баха да Феербаха. Вось, напрыклад, націскаем, яна выдае твор, чытаем: “Чудзішча обла, азорна і алкае…” Ведаеце — хто гэта? Не ведаеце? Трэдзьякоўскі, вось.

— Яўрэй хіба што?

— Сам ты яўрэй, табе паўсюль адны яўрэі мрояцца.

— На Беразоўскага падобны, вось і ўсё.

— Мы што абяцалі народу? Дзяшовую дзяржаву, апарат дзяржаўны, штаты не раздзімаць, а ты зноў катрынку сваю пра яўрэяў. Пры чым тут Дастаеўскі, пры чым Пушкін? Машына ўсё ведае, вось і слухай, не перабівай, не лезь са сваімі дурацкімі яўрэямі.

— Ды я што, я нічога, трэба ж было нешта сказаць, ты ж сам запытаўся.

— Я запытаўся ўвогуле, ва ўсіх, рытарычна, можна сказаць, цябе за язык ніхто не цягнуў. Ён у цябе проста як памяло, мянціш абы што. Яўрэяў баяцца, у лес не хадзіць!

— Ды я больш не буду, патрэбны мне тыя яўрэі як леташні снег.

— Халера! Не ведаеш, дык маўчы лепей. У рэшце рэшт у кніжкі таксама трэба часам зазіраць, і ад Трэдзьякоўскага твой чыгун не трэснуў бы. Ты што ў інстытуце вывучаў? Трактар, даільны апарат?

— Як яго перарабіць у самагонны, ха-ха. На хуткасць — як зборка-разборка “калаха”.

— А ў цябе не пыталіся, сядзі і маўчы ў трапачку.

— Ёсць!

— Апарат павінен схуднець, перавядзем яго на “гербалайф”, і ў гэтым нам дапаможа цуд-машына. А гэта хто ведае — “Мы работаем, а вы наш хлеб ядзіце”? Хаця ладна, халера, сам забыўся. З вамі тут паабшчаешся, задурыце галаву яўрэямі, баршчамі, яешнямі.

— Не журыся, мы справімся, мы не такія безнадзейныя. Мы за табой хоць у агонь, хоць у ваду, хоць у трубу, не падвядзем, прарвемся!

— “Мы — пскапскія”!

— Слухай, а гэны Трэцькоўскі сапраўды не Абрам?

— Даўся ў знакі! Халера з табой, хай будзе Абрам, калі табе лягчэй стане! Даўся ў знакі. Лепей пра нафтагаз думай ці хаця б пра ўраджай будучы або — дзе дастаць шампанскае на Новы год.

— А я, шчыра сказаць, у школе бавіўся вершыкамі.

— Любоўнымі, значыцца?

— Усякімі.

— А ў нас у інстытуце нават спаборніцтвы былі: хто хутчэй прыдумае з ключавымі словамі, такі экспромт ці што…

— Давай, трахні старыной!

— Ды што трахаць? Забыўся ўжо. Ну вось: “Прыязджай ка мне на БАМ…” Не, гэта не маё, народнае. Ну, напрыклад: “вочы-скочуць”. “Я цябе пакахаў за вочы, гатовы нават скочыць з моста ў рэку ці са страхі — удол”. Вось, накшталт.

— Я таксама ведаю! “Жыруюць буржуі ў сваёй Еўропе, нагнаілісь як скула на жырнай ж…”!

— Не жырнай, а тлустай.

— Ды ладна табе, усё роўна прыкольна. У паэзіі галоўнае — рыфма. І нечаканасць!

— А я таксама знаю: “Я ляжу на чужой жане, адзяяла прыліпла к ж.., мы будзем кляпаць бальшавіцкіх дзяцей назло буржуазнай Еўропе”. Гэта класіка — з паэмы “Размова пра паэзію з падатковым інспектарам”.

— Раскачагарыліся не на жарты, Пушкіны-Кукушкіны. Пашкадуйце мазгі! Машына лепей зробіць. Карацей, як у войску кажуць, хлопцы: калі не ўмееш, самі разумееце што, дык не муч с... Вось так.

— Ды я не мучу.

— Не, я бачу: ты толькі пра гэта й можаш думаць. А ў жыцці існуюць шмат іншых вартых і прывабных рэчаў.

— Напрыклад?

— Бюст, ха-ха!

— Давайце які-небудзь рэскрыпт паспрабуем заказаць, хай прыдумае, надрукуе нам. Напрыклад, пра самавольныя мітынгі, пікеты, пра самадзейнасць вулічную.

— Ну, гэта ўжо канкрэтыка, а то — бюсты, с... Пішам: адказнасць за правядзенне вулічных шэсцяў, масавых маніфестацый, а таксама паасобных пікетаў без санкцый і дазволу ўладаў. Лепей напішам: мясцовых уладаў ці — выканаўчых органаў.

— Ну й што, што там?

— Думае…

— Што думаць — рабіць трэба!

— У яе ж таксама там мазгаўня: шарыкі-ролікі, шасцярэнькі…

— Во-во — паўзе штосьці! Аркуш!

— Бяры, чытай! Што там?!

— Кхе-кхе… Але ж хітрая машына, як шынкарка.

— Я ж казаў: яўрэйская! Чытай!

— Тут варыянты адказаў. У Папуасіі за такія справы смажаць на вогнішчы або вараць — па-рознаму.

— І што?

— Так, што далей?

— І робяць банкет, наколькі я разумею…

— Але ж, херня нейкая. А якія яшчэ варыянты?

— У Суворыі, прабачце, спакладаюць, а ў Барабаніі топяць у экскрэментах. Потым, вось тут: сякір-башка альбо вешаюць за ногі — ад ступені віны залежыць.

— Але ж гэта ўсё нашыя сябры!..

— Сябры.

— А што ў нас за гэта?

— У нас? У нас пятнаццаць сутак альбо штраф — штука баксаў. Гэта за пікет. За астатняе хімія і цюрага, як пашанцуе.

— Ну, гэта па-людску.

— Так, сапраўды, нічога мяняць не трэба.

— Дык на хера нам тады гэная дурацкая машына?

— Табе ж сказалі: для скарачэння штатаў, для эканоміі.

— Вось бачыце, бачыце: у нас усё нармальна, ніякай сякір-башкі, ніякага басейна з гаўном.

— А паглядзі там: што за палітыку ў іншых, як з дысідэнтамі змагаюцца сваімі, з нацыяналістамі, з пісакамі, з вечна незадаволенымі?

— Пачакай. Задаў ты задачу. Зараз лямпы згараць, мазгаўня абвугліцца.

— Дык жа гэта прасцей за параную рэпу.

— Машына японская, там незадаволеных няма.

— Жывуць жа людзі!

— Так, ну вось — штосьці гатова... Бярэм, чытаем. Так, значыцца: О! штосьць да болю знаёмае. А!.. Карацей: “Чалавекападобныя звяры, людажэры, пачвары, вылюдкі! Знаходзіліся на службе ў замежных разведак, прадалі ім душу й цела, стаўшы наёмнымі платнымі агентамі. Злачынная банда забойцаў, агідных наймітаў, прадаўшыхся за даляры, стэрлінгі і шэкелі... Знішчыць як шалёных сабак, раздавіць як агідную гадзіну!” Вух. Тут і спіс ёсць.

— Спіс? Які спіс? чытай!

— Спіс — каго знішчыць... як шалёную гадзіну.

— Чытай! Цікава!

— Ну, не ведаю. Увогуле тут... Карацей, чытаю, слухайце...

— Халера, дык гэта ж нашыя прозвішчы! Ты што, з глузду з’ехаў?!

— Самі ж казалі чытаць.

— Ну яе на хер гэту б... машыну! Ламай яе, курву!!

— Пачакайце, тут нешта не так, тут ініцыялы, здаецца, нейкія іншыя...

— Якія іншыя?

— Разнявольцеся, хлопцы. Дайшло да мяне: гэта ж стары дакумент. Хто ж вам вінаваты, што прозвішчы наркамаў, урадоўцаў паўтараюцца, халера? Як у тым вершыку было: “Гэх, мая старонка, куток цемнаты! Покі жывы Шыла, Грыб, Мамонька, будзеш жыць і ты...” Шыла ў мяху не схаваеш, ха-ха-ха! Так, Мікола?

— Смех-смехам, а маглі б самі сябе расстраляць, жартаў не пазнаўшы…

— За гэта не зашкодзіла б і выпіць зараз, тым больш перапынак.

## ЖУЙКА, БУГІ-ВУГІ, КОКА-КОЛА
### Пасяджэнне дванаццатае, пра каўбойскія джынсы

— Пара сканчаць з тлятворным уплывам, годзе ў бірулькі гуляць, нам іхняга мустанга бясплатна не трэба. Што ты хацеў сказаць, Пятро Міндоўгавіч?

— Ды нічога, пра доранага каня ўспомніў, што зубы не разглядаюць, непрыгожа.

— Іхняя каўбойская гэтак званая культура зусім бескультур'е поўнае. Жаваць, харкацца, ногі на стол — хамства!

— А якая тэма ў нас сёння? З чым змагацца будзьма?

— З тлятворным уплывам, я ж казаў! Для някемлівых паўтараю: рацыя на браняпоездзе. Як у анекдоце! Паняў?

— Поняў, зразумеў, не дурны.

— Коней не пераправе не мяняюць.

— Правільна, будзем далей цягнуць воз народнай гаспадаркі! Як вялізныя з доўгімі хвастамі, на якіх лес вазілі. З падковамі на шчасце. Нам не прывыкаць.

— Няўдзячная справа, крытыканы з кожнай шчыліны: закапалі, кажуць, у зямлю пяць мільярдаў, адкапалі на тры, адкуль тады пераможныя літаўры на дажынках?

— Не кажуць, плявузгаюць. Замест языка джала, сплываюць як атрутай Анчар.

— Злы чачэн паўзе каварна, вострыць свой кінжал.

— Яны заклікалі: валацугі усіх краін, яднайцеся! Адразу як на гной зляцеліся. Дзікі Захад, залатая ліхаманка, сміт энд вэсан, кольт, чалавек з ружжом кіруе!

— Каўбой, між іншым, гэта хлопчык пры каровах, пастух з пугай, а не супер-герой, як у кіне іхнім.

— Правільна змагалася палітбюро са жвачкай, з джынсамі. Аднаго да сценкі нават фарцоўшчыка, спекуляваў нагавіцамі, нідзе не працаваў. Такі хай узняўся! Правы чалавека хадзіць у якіх хочаш штанах! А самі Сако ды Ванцэці — памятаеце алоўкі? — на электрычнае крэсла — як Лізу Чайкіну голай часткай на печку.

— На пліту.

— Што?

— На пліту распаленую.

— Ну няхай. Я кажу: спачатку жуйку з кока-колай, бугі-вугі, штаны неданошаныя свае — сэканд-хэнд.

— З ж... мамы-Амерыкі, ха-ха!

— Не перашкаджай развіваць думку. Дык на чым я спыніўся?

— На ж...! Мамкі дзядзечкі Сэма!

— Не дуры.

— А што: у джынсах “Джордаш” гадавалася ўся Амэрыка. Рэкламу памятаеш?

— Рэкламу?

— Сам кажаш: спачатку жуйку, потым правы чалавека. Гэта іхняе права надурыць цэлы свет.

— Штосьці не ў курсе. Раскажы. Прасвяці старога.

— Не ў курсе? Усе ж пісалі: яны знялі там у Галівудзе, як на Месяцы высадзіліся, рэжысёр іхні — Кубрык.

— А што ён сам кажа — пыталіся?

— Дык жа на могілках. Пад заслону такое кінцо зрабіў — закачаешся: калектыўны сэкс, Гамора і Садом! “Амерыканская мара” у дзеянні. Па тыпу ў іх там такая ложа масонская. Я тут днямі фотку бачыў: акторачка перад люстэркам стаіць у чым мама нарадзіла. Фігурыстая! З канца кадр. Цымус! Ляснуў дзвярыма Кубрык, адыходзячы, на развітанне.

— Дык гаворыш: і тут падманулі, як з Мухамедам нахімічылі? Не ведаў, што такія баламуты. Халерныя янкі! Я таксама верыў, што яны там хадзілі, нават сам не супраць быў.

— Па Месяцу? На халеру табе?

— Школьнікам, ведаеш, быў, ламаў галаву — ці існуе жыццё на Марсе. Там жа каналы быццам, цэлая сетка.

— Ну, штосьці ў гэтым сэнсе. І песенька была: “На пыльных дарожках далёкіх планет застануцца нашы сляды...”

— Гэта наша песня, а ў іх адныя бугі-вугі. І цераз слова “фак, фак”! Самі знаеце — што гэта па-каўбойску.

— Здагадваемся.

— А што за кіно?! Ты глядзеў? У салуне вечна бандыты грошы акалачваюць, у карты рэжуцца, віскі жлукцяць. Зарульвае іншая хеўра: мардабой, страляніна. І мэбля — куча дроў.

— А піяніст працягвае адчайна лупцаваць па клавішах. Памятаеце: не страляйце ў яго, хлопцы, ён грае як умее, ха-ха?!

— І шалёна танчаць дзеўкі цыцкаста-задастыя. Канкан. У панталонах. І задніцамі публіцы проста ў твар бесцырымонна.

— Але ўсім падабаецца, пляскаюць.

— Пляскаюць, пакуль не прадзіравяць як тарку для моркаўкі.

— Вось адтуль і пайшла гэтая супер-культура іхняя: жуюць, адрыгваюць, чобаты на стол, у зубах тоўстыя цыгары як у дзядзечкі Сэма на карыкатурах: Кукрыніксы і гэтай далей.

— Я ж кажу: у нас толькі каровы сківіцамі безупынна варушылі, пакуль мода не дайшла: цяпер усе як жвачныя жывёлы. Брыдка глядзець!

— А што: мне падабалася, як запалкай такой велькай, як палец — аб азадак шорг! — і агонь з шыпеннем, або аб падэшву, ці аб капялюш нават. Крута! А тэкіла?

— Што тэкіла?

— Як што? Табе што — не хацелася хіба? Па-каўбойску?

— Па-каўбойску віскі, тэкіла — па-мексіканску. Такія ў самбрэра — паляна на галаве з вігвамам, вечны няголеныя, кожны другі вусаты, чорныя ад перапою.

— Крыжам кулямётныя стужкі для “максіма”. Грынга мачыць.

— Іх намочыш.

— А ў Бабілоніі?

— А што ў Бабілоніі? Нашыя сябры адны адным “гальштучак сталыпінскі” па чарзе завязваюць. Цэлымі пачкамі — хто болей! Выстаўка Бураціна на слупах. А з янкаў як з гусі вада.

— Дарэчы, пра тэкілу...

— А я пра “Саюз-Апалон” анекдот успомніў. Састыкаваліся, адчыняюць засаўку, Іван: “Джон, закурыць не знойдзецца, запалкі маеш?” А другі: “Хлопцы, можа на траіх? Мы бутэлечку маем. У цюбіках, ха-ха”. А янкі ад нечаканасці рукі ўгору: “Здаюся! Пралятары ўсіх краін, яднайцеся! Мір-дружба-жвачка!”

— Сам прыдумаў?

— Можа й сам, а мо па “Голасу” чуў.

— Пра тэкілу, дарэчы.

— Пачакай. Пра касманаўтку ўсе чулі?

— Пра месячныя?

— Дакладае на Зямлю: “Карабь ня слухаецца...” А сама боўтаецца ў скафандры ні рыба, ні мяса. І, прабачце, як паранены Чапай ва Урал-рацэ... Ну, давай, Збігнеў Сямёнавіч, — што ты пра тэкілу хацеў? Гнаць навучыўся? Падзелішся вопытам, ха-ха?

— Не, я аб тым, што за жыгулёўскае з соллю яны на нас: варвары, піва без нічога павінна смакаваць. Мы ж, я, я ж не кажу, што яны пячорныя людзі, калі тэкілу сваю ўжываюць толькі палізаўшы на руцэ соль.

— Лізаць лапу — як мядзведзь. Прыкольна!

— Дарэчы, мядзведзі ў заапарку не спяць. Немагчыма заснуць, зімы няма! Сон не бярэ Міхася.

— Раней мядзведзь-шатун, які выпадкова не заснуў, не здолеў, жудасная з’ява.

— Амерыкосы, ведаеце, сваіх мядзведзяў увогуле са страху назвалі “грызлі” — жахлівы: няважна, заснуў ці не.

— Рускага мядзведзя яшчэ больш баяцца. Як той генерал: рускія танкі у Вашынгтоне і — скок з хмарачоса. Цырк на дроце!

— А што: “Браня крапка і танкі нашы быстры!” Штампавалі як пыласосы.

— Ну, так: “ната” у паніцы — рыхтуюцца да трэцяй Сусветнай чэрці паласатыя! А дзядам што: пяцігодка паскарэння — кожны год трэба болей накляпаць — без розніцы — унітазаў ці бронетэхнікі. Канвеер павінен не спыняцца, рабочыя — перавыконваць норму, інакш — не дагонім іх, паразітаў, ха-ха-ха!

— А ў Белым доме ў штаны наклалі, быццам танкі лятаць умеюць! Яны ж не ведаюць, што такое пяцігодку — за тры гады! Чым больш танкаў, тым дзядам спакайней на маўзалеі ручкай памахваць працоўным масам. Карацей, трымае порах сухім роднае палітбюро.

— Парахню! Ха-ха-ха!

— А яны, яны, амерыкосы, — знаяце як порах наш называюць? Гарматнай пудрай — ха-ха-ха!

— Херня нейкая.

— Давайце не адхіляцца ад тэмы. Ты, Пятро Міндоўгавіч, што прапануеш?

— А што я?

— Твае прапановы: як будзем змагацца з гэнай жвачнай жывёлай? Нідзе сесці немагчыма — усё ў жаваных жуйках, увесь асфальт, нідзе не наступіць, за падэшвы чапляецца як каравякі. Падшыванцы, піянеры, саплякі — жуюць усе. Як суцэльная хвароба, эпідэмія, пошасць. Тут вам не Амерыка!

— Я прапаную забараніць бакс.

— Здурнеў? Куды ж мы без бакса?

— Сапраўды, як гэта? Што ты вярзеш? Бакс быў, ёсць і будзе! У чым твая старая бабкі свае трымае? У баксах?

— Што ты наязджаеш, не даслухаеш? Я кажу: не падлічваць усё ў баксах — колькі запланавалі, колькі вырабілі, колькі на складах.

— А ў чым?

— У чым хочаш — у тугрыках, у дырхемах, хоць у піястрах. Хай задушацца са сваім баксам. А то на жуйку лаемся, а баксы любім. Трэба паважаць сябе. Гэта як з тытунём: кінуў, як адцяў, або закадзіраваўся — і ні кроплі ў рот.

— Дарэчы, гэная пыса на баксе, партрэт — азызлы, два падбароддзі, бабскі твар. Ніколі не падабаўся мне. Казалі ў яго зубы драўляныя былі, сківіца.

— Плюнь. Апусціў ніжэй за калена, Джордж Дабл'ю. А нам як бясплатны падарунак, хоць грамату давай ганаровую.

— Што грамату! "Дружбу народаў" — на грудзі за знянацку цудоўнае ўратаванне нашай дзяньгі.

— Сапраўды "другі фронт" атрымаўся амаль што, лэнд-ліз, халера. Бакс абаўрэў, дзяньга тырчма, як гурок. Эканамічны цуд голымі рукамі. Вучыцеся, містэры-твістэры, пакуль мы жывыя.

— Я на магілкі пакуль не збіраюся.

— Дык я аб чым? "А паміраць нам ранавата, ёсць у нас яшчэ дома дзяла!"

— За жуйку штрафаваць ушчэнт, за паласаты сцяг — "суткі", за слова "бакс" — таксама па самыя памідоры! Як змагацца, дык змагацца. Забараніць Санта-Клаўса, што ў нас Дзеда Мароза няма свайго?! Гарачым жалезам!

— Слушна, як з шанхайскімі петардамі! То яна немаведама куды ляціць, то ў руках выбухае, то ўвогуле — ніякай рэакцыі, халера! Кітаёзы, хунвэйбіны! Бракаробы, караце й.

— Мышалоўку табе на язык, гэта ж нашы хаўруснікі! З глузду з'ехаў ці што? Яны таксама з імперыялізмам змагаюцца, з амерыканшчынай — з інтэрнэтам і гэтак далей. З нездаровымі ўплывамі. З жуйкай.

— І са славэтнымі правамі чалавека.

— Ну, гэта само сабой. Абстрактны гуманізм! Кампасціруюць мазгі, а самі чалавека павесіць як мае быць не могуць, каб усё палюдску.

— Лявон! Ты што гаворыш? Гэта ж не яны вешалі, самі "мусліны", чытаць газеты трэба.

— А ты верыш іхнім газетам? У мяне часу няма.

— Не, мужыкі, там у іх сапраўды херня нейкая: рэжуць адны адных, ніякія янкі не дакажуць. Гэта ўсё роўна, каб у нас узяліся б ваяваць хто ў касцёл ходзіць, а хто ў царкву.

— Ты ведаеш: сапраўды — хоць і сябры нашы, але ж надта ж нейкія неўтаймаваныя — “зарэжу!” — і хоць ты яго страляй. Гэта ж скандал: так павесілі, што башка адскочыла. Ганьба джунглям!

— Так, пакацілася быццам качан. Усё ў іх так: рукі не тым бокам устаўленыя, не так прышытыя.

— А я чытаў: адзін заходні вешальнік быў выключны педант, прафесіянал сваёй справы, проста сноб. У яго ўсё было прадумана і разлічана: індывідуальны падыход. Спачатку вывучаў дадзеныя прыгаворанага: рост, вага і гэтак далей, біяграфічныя звесткі, шкодныя звычкі. Каб разлічыць даўжыню вяроўкі: закароткая, будзе мучацца, задоўгая — галава адарвецца — як у гэтых “муслінаў”, нашых сяброў.

— Але ж тэма ў нас!

— Пачакай, цікава паслухаць.

— Ён перад працэдурай назіраў праз вочка за кліентам, нават часам заходзіў пад выглядам ахоўніка, каб агледзець, амаль што меркі здымаў — на вока. У іх там працоўная дынастыя была: баця вешаў, потым сынок — да самай пенсіі.

— А цікава: на пенсію раней пайшоў?

— Чаму раней?

— Работа ж нервовая, цяжкая.

— Ён асабліва не грузіўся, казаў, што зайшоў — і трэба за дзесяць секунд выканаць работу, як гадзіннік працаваў. А некаторыя пачыналі антымоніі разводзіць, лаяцца. Карацей, нервы не вытрымлівалі.

— Вось бачыш.

— Слухайце, давайце не расслабляцца. Рабіць трэба, рабіць! Змагацца! З інтэрнэтам у першую чаргу, напрыклад. Цябе павесяць, а потым у інтэрнэце паказваць будуць. Ды яшчэ галава раптам, не дай бог, адскочыць. Хіба гэта прыемна? Трэба пакласці гэтаму канец! Раз і назаўсёды.

— Ну, дык у чым праблема? Пішы загад і кропка! Можна лічыць, што справа ў шапцы.

— Яны, канечне, плявузгаць будуць, ім усё не так. Кітайскія таварышы ракетай спадарожнік збілі непатрэбны, у Белым доме — істэрыка, рвуць і мечуць. Грымоты ды маланкі пасылаюць. Ім не дагадзіць.

— А ты не зважай, ты ж памятаеш: кепскаму танцору вечна перашкаджае нешта.

— Ясна, але “ната” усё распаўзаецца, упёрлася ў нас рогам, спакойна не паспіш, не расслабішся па-сапраўднаму, як некалі — у добрыя старыя часы. Не гульнёш на ўсю Іванаўскую.

— Не бойся: вунь што пляснулі пра нашых праваслаўна-балканскіх братоў, калі прышпілілі да іхняга еўрапеоіднага саюза, — што яны выканаюць ролю Траянскага каня — “у добрым сэнсе слова”. Кеміш? Чытаў пра каня? Не чытаў? Такое сказаць — глупота, кепскі жарт, разумееш?

— Штосьці не зусім.

— Траянскі конь гэта па тыпу пятай калоны.

— Думаеш?

— Ну, можа, не да рэшты. Але накшталт як фрыцы нам эшалон прыслалі апламбаваны. Ён стаіць сабе каля Крэпасці-героя ціхенька, а ноччу як пачалася вайна, яны расчыніліся — цэлы дэсант у цягніку — навялі шораху. Вось табе й Траянскі конь — класіка жанру, можна сказаць.

— Так, сапраўды, гучыць прыкольна.

— Знаеш, я прыдумаў выйсце: пачнуць абурацца, ноты з пагрозамі страчыць, мы ім у адказ — аддавайце назад Аляску! Правільна?

— І думаеш — аддадуць?

— Няважна. У дыпламатыі галоўнае — пашумець, палаяцца высокім штылем, не пераходзячы на асобы. Каб без прозвішчаў. Чорт з ёй, з Аляскай: усе па-амерыканску даўно базараць. Што нам там рабіць? Мы ж ні бум-бум!

— Яны нам тут: правы чалавека-правы чалавека! А ў саміх ку-клукс-клан, туалет для белых, туалет для чорных.

— Толькі для белых!

— Вось-вось. Чыя б карова мыкала. Увогуле не падабаецца мне гэнае каўбойства: жуюць як малпы, цыгары смярдзючыя ў зубах, чобаты — абавязкова на стол. А гэны галівудскі паяц Рэйган, а ножкі Буша? І Джона свайго ўзялі грохнулі. Сімпатычны быў хлопец. У нас бы такі нумар не прайшоў.

## ВЯЧЭРУ АДДАЙ ВОРАГУ

### Пасяджэнне трынаццатае, пра дзяржаўную бяспеку

— Спадары міністры! Усё, баста! Так не можа больш быць! Калі так далей, зубы на паліцу пакладзем.

— Чые?

— Што чые?

— Ну, зубы. Ты ж сам казаў.

— Ясна чые — твае, Пятровіч, твае пратэзы жалезныя, раз ты такі смяшлівы, адзіны наш гумарыст, цырк на дроце любіш, хлебам не кармі, дай зубы пашчэрыць. Ты што — вокны рэкламуеш, як той народны арціст, дырыжор скрыпак і кантрабасаў?

— І балалаек!..

— І балалаек няхай. Не збівайце мяне з думкі, Аркадзі Райкіны, Жванецкія недапечаныя. Эканомія — гэта пытанне нашай дзяржаўнай бяспекі. Так што падумайце, перш як другую шклянку перакуліць, як другім гурком закусіць. Сёння ты вып'еш, не эканомячы, а заўтра не хопіць, будзеш скуголіць як сабака на Месяц, толькі не дапаможа. А некаторым ужо сягоння не хапае, у Афрыцы зусім дзеці галадаюць. А табе, Пятровіч, смешна, не баішся за зубы, не?!

— Спадар прэм'ер-міністр, па целіку дактары барадатыя рэкламуюць кадзіроўку ад гарэлкі, ад абжорства таксама, можна ўсім добраахвотна закадзіравацца, паказаць прыклад насельніцтву…

— Насельніцтву?

— Народу! І па целіку ўсіх пагалоўна закадзіраваць, як Кашпіроўскі калісьці.

— Тут жа справа не толькі ў закусцы, у хлебе надзённым, эканоміць трэба жалезна на ўсім, вобразна кажучы, на бензіне, на трусах, на туалетнай паперы, зразумеў?

— І на запалках?

— І на запалках!

— Карацей, зноўку карткі ўводзім?

— Куды ж ад іх дзецца, калі распанелі: гарэлку скрынкамі, хлеб боханамі, каўбасу палкамі! Куды табе цэлая палка?! Навошта, што ты з ёю рабіць будзеш? Усю адразу ў рот? Так і будзеш палку кусаць, як з галоднага краю?

— А я даўно са шклянак дома на чаркі перайшоў, здароўе не тое ўжо.

— Ты як той яўрэй: дома адзін кавалак цукру, у гасцях тры, а люблю два. Ха-ха-ха!

— Ты ж сам: эканоміць — кроў з носу, прамаруджанне пахне калапсам або дэфолтам. Ці я не так зразумеў?

— Так, так, але ж чаркамі хутчэй зап'янееш, даўно даказана.

— Але ж я такім чынам эканомлю для іншых, ты ж сам заклікаеш.

— Ты знаеш, Казік, трэба ўсё прадумаць яшчэ, з гарэлкай — гэта як з двума канцамі палкі: менш гарэлкі прадаеш, менш у касе. Закон Бойля-Марыёта: злучаныя судзіны. Калі ў глонаўку не заліць, застанецца кіснуць — ні сабе, ні людзям. Тавар-грошы-тавар, чытаць трэба "Капітал".

— Яго прачытаеш, цаглíну, працаваць тады калі?

— Класікаў трэба ведаць, першакрыніцы, фундамент, на чым стаяць тады — на сланах, на чарапахах?

— На трох кітах.

— Ты, Міндоўгавіч, сёння папросту вылузваешся, языком мянціш. Што ён у цябе, свярбіць? Не? Дык слухай: я ў такім музеі быў, цэлыя скрынкі зубоў выдзертых, такіх як у цябе жоўтых.

— У мяне залатыя.

— Вось-вось, у іх таксама былі такія. Так што лепей вокны не рэкламуй, не блішчы фіксамі. А то як раней, калі галадоўля, чэка — канфіскат — і на хлеб золата мяняла. Што, заварушыліся, гаворыш, іклы? Ладна, сядзі ціха, не лезь са сваімі дурацкімі жартамі на ражон.

— Гэта яшчэ Леанід Ільіч сказаў: эканоміка павінна быць эканомнай. Не трэба вынаходзіць ровар, зноўку адкрываць Амерыку. Геніяльная фраза.

— Так, залатыя словы. Але ж тады нічога не атрымалася, жлукцілі з рыльца, а закуска ад такіх тэмпаў, ад імпэту даўно скончылася, у Канадзе куплялі, і ўсё роўна — пустыя вітрыны, хоць шары ганяй.

— Ха-ха-ха, вой…

— Пятровіч! Ты ў адстаўку захацеў! Міністрам без партфеля?

— Выбачайце, анекдот успомніўся.

— Ну што ты з ім зробіш, давай — расказвай, толькі не расцягвай, без лішніх слоў.

— Карацей: галодны інтэлігент сумуе каля пустой вітрыны, прадавец строга на яго глядзіць, інтэлігент запытальна выціскае з сябе — "Дык значыцца, мяса ў вас няма?" Надзея памірае апошняй! Прадавец як нейкаму ідыёту: "У нас рыбны аддзел, у нас рыбы няма, а мяса няма — у мясным аддзеле!" Праўда, смешна, хоць і столькі часу прайшло?!

— Знайшоў чаму радавацца, сапраўды як той ідыёт не раўнуючы. Запанелі, спадары міністры, запанелі. Дальбог, як у тым анекдоце, калі народ піў каньяк вуснамі сваіх найлепшых прадстаўнікоў і закусваў ікрой лыжкамі. А на ўсіх ужо не хапае зноўку, паглядзіце статыстыку. Вы як той мужык: не перажагнаецца, пакуль у небе не грымне.

— Так са статыстыкай усё у ажуры, сам яшчэ ўчора казаў: чаравікаў нашылі — надоўга хопіць, карданных валаў, склады перапоўнены!

— Пакуль ты іх не прадаў, гэта ўсё друхло, утыль, карданы твае — металазлом, толькі дарагушчы, макулатура, другасная сыравіна, хламʼё!

— Дык, атрымліваецца, з чаравікамі, наадварот, не эканоміць трэба, а купляць часцей? Ты сам сабе супярэчыш.

— Але тая ж Афрыка, што басанож вечна, а мы — чаравікі мяняй як пальчаткі... Штосці я не магу разруліць так адразу, сходу. Патлумач дурному.

— Тут думаць трэба, варушыць мазгамі, алею дадаць, калі не шурупіш. Чаравікі — кроў з носу — прадаць трэба, хоць жонцы, хоць суседзям, і больш не шыць, каб шкуры эканоміць.

— Шкуры? А куды іх нам?

— Як куды? Прадаць!

— Але ж чаравікі даражэй каштуюць!

— А ты паспрабуй іх збагрыць, спрабаваў?

— Можа ўцаніць?

— Ага, столькі працы ўкласці, каб потым за бесцань? Гэтак без штаноў застанемся, не будзе пахмяліцца на што.

— Штосьці я не разумею, ты ж казаў і з гарэлкай трэба эканомна, сціпла, па чарцы... Без апантанасці.

— Мужыкі, я ж кажу: вучыце "Капітал"! Каб не было наіўных пытанняў. Гарэлкі менш, значыцца збожжа больш, уцяміў? Хлеба больш, боханаў, батонаў. Але зноў: адзін сабе, другі — кабану, гэта — не эканомія, мы ўжо гэта праходзілі, навучаныя.

— Гэта не эканомія, а марнатраўства, хаця салка з мяскам ды са шкуркай хто ж не любіць, а калі кабана толькі конскімі яблыкамі ды бульбёшкай, не наясіся.

— Правільна, марнатраўства. Мы за такое пад суд здаваць будзем, як пры Сталіне, чым мы горш? Я падрыхтаваў загад першы сёлетні — аб паўсямеснай эканоміі, загад другі — аб стварэнні кантролю за эканоміяй. Жорсткай эканоміі, галовы сцінаць як качаны, калі што! Эканоміка без эканоміі гаўно! Ільіч правільна лічыў! А мы ягоныя нашчадкі, вучні, ніхто двойку не хоча, ніхто? А кол адразу?!

— Добра, усё ясна: калі я дзве газеты выпісваў, зараз буду адну. І калі рэдакцыя друкавала такі тыраж, хай друкуе ўдвая меней, слушна?

— Калі за абедам дзве катлеты з’ядаў, цяпер другую няхай іншы з’ясі.

— А я нават тры любіў і чатыры, паболей.

— Кабана нездарма нагадваеш.

— Скажаш яшчэ, жартуеш.

— Якія могуць быць жарты? Эканоміка павінна быць эканомнай, трасца!

— Правільна, канечне. Але знаеш, як гэныя рабілі сухі закон, дык як дарвуцца што той голы да мыла, як свінні потым нажыраліся. А зрабі ты абмежаванне з катлетамі, ноччу пад коўдрай даганяцца будуць. Эканомія-эканоміяй, а заробкі выдаваць карданамі ці чаравікамі таксама херня. Эканоміка — складаная навука: як той казаў — узяўся за яйкі, малако знікла, а кінуўся да рагуль, шампанскае зноў дэфіцыт, а гарэлка як далікатэс — па талонах.

— Без плюсаў і мінусаў не бывае, галоўнае замацуйце ў мазгах: гэта пытанне дзяржаўнай бяспекі, калі не эканоміць, яны нас голымі рукамі возьмуць, як у лазні намыленых, хапайся не хапайся за яйцы — не дапаможа! Карацей: харчовая бяспека — справа ўсенародная!

## БОГ ДАЖДЖУ І ПАРАСОНАЎ
### Пасяджэнне чатырнаццатае, пра класавы падыход да надвор’я

— Ты ў мяне дождж прасіў? Я табе яго даў. А цяпер парасон просіш? І ўсё на халяву?! Прывыклі пры савецкай уладзе, што ўсё з Масквы прышлюць, на сподку з сінім паскам. З рога ўсяго многа. А ты ведаеш, дзе сыр бясплатны? Толькі ў мышалоўцы! Запомні назаўжды, запішы сабе, калі памяць дзіравая… І яшчэ, даражэнькія спадары міністры, запомніце: пры Сталіне ніякіх парасонаў не існавала. Не прадаваліся, а дождж быў, і нейк выкручваліся, не нылі…

— Ну што ты гаворыш — не было?! Я сам у кіне бачыў, у чорна-белым. Народная арцістка, лаўрэатка Сталінскай прэміі якраз мела сапраўдны парасон, і некаторыя іншыя ад дажджу хаваліся.

— А ты й паверыў? Я ж кажу: у прыродзе існавалі, але большасць насельніцтва не карысталася.

— Чаму?

— Чаму-чаму! Не задавай наіўных пытанняў — што, першы раз нарадзіўся сёння? Ці з Месяца ўпаў раптам?!

— Ну дык гаварылі ж, што пры Сталіне, наадварот, лепей было: карткі адмянілі потым, цэны знізілі.

— Ага, а пры Хрушчове хлеб бясплатны ў сталоўцы зрабілі — бяры колькі хочаш! Толькі яго адразу не стала, скончыўся!

— Цішэй! Развялі дыскусію аб прафсаюзах. Знаяце, што Троцкаму за гэта было, знаяце?

— Затое прымаўка засталася напамяць: брахаць як Троцкі (у народзе, праўда, як заўжды мацней казалі). Ну, усе мяне зразумелі.

— Не дурныя.

— Нічога вы не зразумелі. Ледзь што — пад парасон: і ад сонца, і ад снегу, ад імжакі і нават ад ветру, як цукровыя. Парасон лічыўся прадметам раскошы, буржуйскім перажыткам, як усякія манoклі таксама, капелюшыкі з вуалькамі, футраныя манто, вензелі ўсякія-шмэнзелі, карацей розныя мамзэльскія штучкі-дручкі.

— Так, і яшчэ канарэйкі ў клетках, абажуры.

— Не, а гэта — мяшчанскія, паэт яшчэ напісаў паэму, забыўся назву.

— А прычым тут дождж? Дождж і пры першабытных людзях быў, і пры дыназаўрах. Нават Рабінзон Круза сшыў сабе са шкур, у сэнсе казлiных, парасон карацей.

— Ты не разумееш, што ён класава стаў падазроным, чалавек пад парасонам стаў выглядаць недабранадзейна, з чарвяточынкай, па-стараржымнаму, зразумеў? Ты ж сам у кіно хадзіў: калі парасон, абавязкова кацялок на галаве, пенснэ, пальчаткі, матыль на шыі, кішэнны гадзіннік на ланцужку, гамашы…

— Пачакай, але ж дождж — гэта з’ява прыроды, прычым тут барацьба класаў?

— Барацьба-не барацьба, але пільным трэба быць заўсёды, напагатове быць, захоўваць порах сухім.

— Яго захаваеш — калі залева, а парасон — перажытак буржуазны.

— Заўсёды некаторыя выключэнні ёсць, каму парасон дазваляўся. Проста сканфіскаваць, арыштаваць — гэтага не рабілася. Нават пісьмовыя машынкі ў прафесуры заставаліся, у рабоча-сялянскіх паэтаў, усе крамолу й так баяліся друкаваць, “Беламор-канал” нікому не хацелася прыкурыць па месцы знаходжання, ха-ха. Выбачайце за каламбур.

Ну й потым: дзе можна было такі архаічны тавар набыць? У старызніка, у ламбардзе, ці новы — імпартны — у краме накшталт “Бярозкі”, “Таргсін” называлася тады. Карацей, вельмі абмежаванае распаўсюджанне мелі яны, даношвалі старыя.

— Але ж, можа ўсё гэта занадта было? Можа не вартая аўчынка вырабу? Хай бы хадзілі пад парасонамі, хаваліся ад дажджу, каму гэта перашкаджала?

— Каму-каму, хрэну маяму. Трэба быць палітычна падкаваным, трэба разумець соль эпохі, сутнасць рэвалюцыйных пераўтварэнняў, нараджэнне новага чалавека, пераўвасабленне мужыка з сахой у чалавека з адбойным малатком!

— Каму ты тлумачыш!

— Пачакай. Нам тут не патрэбны ідэйна няспелыя, якія на адзіным дні палітграматы ў крыжыкі-нулікі гуляюць.

— Ды не гуляю я, што мяне ўжо за школьніка лічыш? Я проста да таго, што 21-е стагоддзе цяпер, колькі можна рэвалюцыйнай пільнасці, забароны парасонаў, колькі можна ўсё з 1913-м параўноўваць? Гэта ж сто гадоў было назад і нават болей!

— Але ідэйны стрыжань усё роўна патрэбны, як графіт у атамным рэактары.

— Што толку, калі ланцуговая рэакцыя раптам, калі ўзляціць усё к чортавай мацяры.

— Але ж ты ўспомніў, чорны чацвер.

— Чорная субота.

— Пачакайце, мы не закончылі.

— Ды што там яшчэ гаварыць?

— Што-што — пра парасоны, пра класавую несумяшчальнасць.

— Не сумяшчаюцца сам знаеш што, калі памеры розныя.

— Спадары міністры! Заклікаю да парадку, прашу не адхіляцца і не траціць увагі, яшчэ не абед. Даслухайце спачатку, а то без другой стравы застанецеся...

Тут сам выгляд, сам вобраз важны быў. Памяняць усё кардынальна. Пенснэ, парасон, бародка — гэта ўсё ненадзейна, хістка. Новы чалавек — адкрытае чало, непрымірымы погляд! Вочы гараць, голеная галава, біцэпсы, кулакі. У руках рыдлёўка, адбойны малаток, кельня. Ну вы самі павінны памятаць плакаты. Такія на грошах таксама былі, на рублёўках, на траячках. Тут месца няма ніякім парасонам, скрыпкам, няўзнак зламае! Молат, вясло, бервяно — іншая рэч. Народ-грабар, народ-будаўнік, вясляр, каваль свайго шчасця, зразумеў?

— Але ж, Людвіг Францавіч, без акуляраў, прабач, без мікраскопа і цыркуля таксама далёка не зойдзеш, не дакапаешся.

— Я ж вам не кажу, што зусім без парасона, без акуляраў. Усяму свой час і месца. І людзей у космас пасылалі, і Белку-Стрэлку, і атам прыручылі мірны.

— Ага, а мы цяпер расхлёбваем. Так усё й рабілі: з рыдлёўкай, ды з адбойным малатком. Як у тым анекдоце: на Марсе з ломам і з (...) мацер'ю.

— Але ж ты нігіліст, Фама няверуючы. Верыць трэба, верыць! “Таварыш, вер, узыйдзе яна, звязда пляніцельнага шчасця...”

— Усё гэта добра, але ведаеш: я часам думаю, што ты позна нарадзіўся.

— Позна?

— Ну, я пра дождж. Ты ж сам казаў: ты прасіў у мяне дождж, я табе яго даў. Гаварыў?

— Гаварыў, не адмаўляюся, таму што я ўсё магу: магу дождж, магу снег, як па заказу, для мяне няма нічога немагчымага.

— Ну вось я гэта й меў на ўвазе.

— Ты, Францавіч, наш Бог. Не, ты для нас нават вышэй за Бога.

— Ну, дзякуй.

— Вось-вось, дык я й хацеў сказаць: калі выбухнула гэтая праклятая аэс, яны самалётамі хмару радыеактыўную на нас накіравалі, а то яна ў іхні бок рушыла — на Маскву. А вось каб ты тады кіраваў намі, зрабіў бы вецер у іншы бок.

— У які — іншы?

— Адкуль я ведаю. Ну ты вецер-то ўмееш?

— Вецер?

— Ну, град можаш, снег тым больш, дождж — увогуле як два пальцы, прабач... А шквал-ураган, норд-вест, зюйд-вест, штармавое папярэджанне?

— Вецер? Смерч, ураган? А што — трэба паспрабаваць, чым чорт не шуткуе, спадары міністры!

## КРЫЛЫ БОГА

### Пасяджэнне пятнаццатае, пра пасады з вялікай літары

— Богу — богава, кесару — кесарава, а ўраду — урадава. Давайце, таварышы ўрадоўцы, расшпільвайце свае міністэрскія партфелі, будзьма працаваць. Што ў нас там? На парадку дня адна херня, — як раней жартавалі, ха-ха.

— Так, былі часы.

— “Раньшэ былі ўрэмена, а цяпер мамэнты”...

— “Раньшэ елі рэпу з квасам, а патом, выбачайце, пярдзелі басам”.

— Можа хто й пярдзеў, але не трэба пра ўсіх казаць.

— Гэта ж прыпеўкі, народная творчасць, vox populi, можна сказаць.

— А я таксама памятаю: “Нынчэ бабы воўкам выюць”, іх у нядзелю, словам, усяго толькі раз...

— У нядзелю, ці за тыдзень?

— Табе абы пажартаваць, але жарт пратэрмінаваны даўно твой.

— Якія могуць быць жарты, гэта прынцыповае пытанне.

— Ды кінь, гэта анекдот, усім ведама.

— Добра-добра, у нас сёння важнае пытанне — каго і што пісаць з вялікай літары. Прашу выказваць меркаванні.

— Цябе з вялікай.

— Ну, мяне. Каго яшчэ? Або — што?

— Можа, бога?

— Бога?

— Навошта бога?

— Ну, раней жа пісалі з вялікай, а потым пераcталі, дэкрэт быў, здаецца, нават.

— Бога? Але ж ты задаў пытанне!

— Перасталі чаму? Таму што бой далі рэлігіі, рэлігія — дурман для народнай масы! — крылаты выраз.

— Ну правільна, тады ж усё пад лозунгам “Бога — няма!” А цяпер быццам, што ёсць, што зноўку паявіўся.

— Нават калі так, навошта афішаваць?

— Як навошта? Цэрквы паадчынялі, уладыка Філафей з намі засядацельствуе. Трэба ж яму таксама пашану, з вялікай літары.

— З вялі-кай лі-та-ры! У нас царква асобна ад дзяржавы, яны там самі як хочуць — так пішуць! Калі мы за імі паўтараць будзем — язык зламаем! Там такія славяса — толькі бабкам старажытным гаварыць, толькі яны разумеюць. Закончым дыскусію.

— Так што — бога не будзем пісаць з вялікай? Не прайшла прапанова?

— Разумееш, бог — гэта абстракцыя, няма канкрэтнага імя, пасады.

— Дык гэта ж і ёсць пасада — бог.

— Ведаеш, не заблытвай нас, не дуры нам галавы са сваім богам.

— Але ж яшчэ філосаф сказаў: каб бога не было, яго варта было б прыдумаць.

— Вось яго й прыдумалі, ці задаволены?

— Не, пачакайце. Вось жа — паскідалі купалы з крыжамі, званы. Узарвалі, у іншых склад зрабілі з угнаеннямі ці бульбай, ці там яшчэ якую трасцу, выгналі, карацей, бога, разламалі алтары — пайшоў прэч, знікні з вачэй!

— І што?

— А ён жа вярнуўся.

— Ну й што?

— Значыцца, існуе, значыцца з вялікай літары варта.

— Ты што адвакатам яго зрабіўся, ці што?

— Знаеш, богу-богава, а ўраду-урадава. Хай яны там самі з ім разбіраюцца. Гэта не наша справа, не ў нашай кампетэнцыі. У нас іншае жыццё, цывільнае, іншыя клопаты — як накарміць народ, як абуць, апрануць. А бог што —апрануў каго, ураджай пасеяў, сабраў, засыпаў у засекі радзімы? Не? Не ведаеш? Ну дык ведай: мы самі з вусамі. Нам чужога не трэба, але й свайго не аддамо! Як у песні!

— Дык што: не будзем бога пісаць з вялікай літары?

— Табе хоць кол на галаве чашы.

— Крыўдна за бога, усё ж рэабілітавалі, можна сказаць.

— Яго ніхто не судзіў.

— Нікога тады толкам не судзілі: тройкі, двойкі і калы, прафанацыя — толькі прозвішча ўпісвалі — той атруціць вадаправод хацеў, той — тунэль капаў чамусьці абавязкова ў Стакгольм, а іншы ўвогуле замахваўся на ўвесь марксізм-ленінізм…

— Усе самі прызнаваліся, падпісваліся.

— Прызнаешся, калі голкі пад пазногці, ці цвікамі прыб’юць.

— Цвікамі? Развялі тут шуры-муры, мітынгоўшчыну! Я не супраць з вялікай літары, але хай там Філафей сам вырашае, мы павінны іншым займацца —старшыня ўрада — з вялікай пісаць, а міністр гандлю, міністр харчовай бяспекі? — вось у чым сэнс пытання.

— Правільна, ад парадку дня адхіляцца не варта, часу няма.

— Ты вось: бог-бог, а ці ведаеш, што раней іх многа існавала. Нават шмат? Хто сказаў, што ён адзін павінен быць? Нашыя продкі што — дурныя былі?

— Але цяпер ва ўсіх даўно адзін бог: у тых Магамет, у тых — Яхвэ, у трэціх — яшчэ свой.

— Вось бачыш: ніяк дагаварыцца не могуць, значыцца няма аднаго насамрэч, бо Яхвэ і Буда — гэта розныя рэчы, згадзіся!

— Ну, раней паміж людзьмі існавалі непераадольныя перашкоды — горы, пустэльні, акіяны.

— А цяпер чаго не дамовяцца? Цяпер жа праблем няма.

— А дарэчы: археолагі розных багоў адкапалі, раней іх некалькі сапраўды было — як сёння наш урад — кожны за сваю галіну адказваў галавой, за свой участак работы. За хлебаробства і за жывёлагадоўлю — асобна. За надвор'е, за ўрадлівасць — іншыя адказныя былі, далей — за балоты, за лес, за ваду —усе розныя багі. Як у нас міністэрствы або ведамствы — у кожным свой галава.

— І кожнага — з вялікай літары таму?

— Знаеце — што я вам скажу? Гэта ўсё хітрыкі з адзіным богам. Яны потым усё прыстасавалі: богу, як старшыні ўрада цяпер, — асноўная роля, астатнія функцыі замест багоў святым раздалі — святы Панцеляймон, святы Хрыстафор, святы Губерт, напрыклад.

— І святы Ілья: калі пасцыць у ваду, купацца нельга.

— Але ж ты ўсіх пераплюнуў...

— Так бабка мая казала, гэта ў жніўні.

— Знайшоў каго слухаць.

— Гэта ўсё прымхі, забабоны. Калі ж тады купацца, калі не ўлетку? На мора сёння не паездзіш.

— У басейн хадзі, калі Ілья пасцыць, не праблема.

— Што вы са сваім Ільёй, ён бог чаго — вады, дажджу, надвор'я?

— Вады — Вадзянік ці ўвогуле Нептун, потым Даждзьбог быў калісьці, маланкі — гэта Зеўс або Пярун.

— Штосьці ты ўсё пераблытаў.

— Дык Ілья ж быў святы ўсяго толькі, не бог нават.

— Але ж таксама як міністр. І мы можам паміж сабой называць адзін аднаго: святы Пятрусь — бог балотаў і меліярацыі, напрыклад. Ты, Іван Дамінікавіч, будзеш святым Янам — богам пажаратушэння — гэта я зусім прыблізна, каб галаву не ламаць.

— А што, гэта думка!

— Ды не, хлопцы, святыя не богі, значыцца, не міністры зусім, намеснікі хутчэй. Нам несалідна. Сапраўды лепей: старшыня ўрада, ён — Пярун, напрыклад, усе паважаюць і баяцца. Вялес — хай бог жывёлагадоўлі. Міністр, прабачце. Бог будоўляў, бог нафты і газу і гэтак далей — і ўсе з вялікай літары.

— Слова бог несучаснае, але міністр — занадта строга, бюракратычна, па-канцылярску.

— Наркам, камісар — яшчэ горш.

— А якія там пасады былі ў Панятоўскага? Ключнік, падчашы, трымальнік начнога гаршка, скарбнік, таксама міністры, можна сказаць.

— Знайшоў з кім параўнаць, каму гаршок выносіць спадабаецца?

— А што міністр каналізацыі — гэта ж нармальна, па-сучаснаму, не абы-якая пасада.

— І туалетаў.

— І туалетаў таксама, клазетаў нават.

— А мне больш падабаецца па-старажытнаму: бог засавак на трубаправодах, бог крылатых машын, бог агнядышачых…

— Артылерыя — бог вайны.

— Я ў пяхоце служыў, яна — багіня вайны.

— А што: багіні таксама існавалі?

— Паслухайце, хлопцы: вы нас завядзеце ў нетру як Сусанін. Увогуле гэтае паганства — даволі слізкая тэма. Археолагі што адкапалі? Схадзі ў музей паглядзі — "дзецям да шаснаццаці".

— Заінтрыгаваў.

— Вось бачыш! Яйцы каменныя і ўсё такое. Таксама пакланяліся як багам.

— Херня нейкая.

— Дурныя былі, непісьменныя.

— Яны ж не ведалі, што мы яйцы іхнія першабытныя адкапаем і пад шкло —дзівіцеся людзі добрыя! Хто яшчэ больш дурань — трэба падумаць.

— Рацыя: усё ж сапраўды непісьменныя, толкам бога зрабіць не маглі, вазьмі шклоўскага ёлупня з энцыклапедыі — балван балванам!

— Гэта ж стод!

— І што? Ён жа бог, перш за ўсё, яму пакланяліся, ахвяры давалі! Паглянь на грэчаскія скульптуры, бюсты — богі як богі, як сапраўдныя людзі, богачалавекі!

— Так, сапраўды — творы мастацтва, а гэны ёлупень — якісь пацурбалак, недаробак каменны, дэгенерат, гермафрадыт, даўн! Не ўмееш с.., не мучай с… — залатое правіла!

— Як жа ты, Казік, продкаў нашых тварам у гразь. Нішто сабе — удзячны нашчадак. Хаця, канечне, ёлупня шклоўскага не параўнаць з Апалонам Бельведэрскім, тым больш з Венерай Мілоскай — спрэчкі няма.

— Знаеце, ксёндз у касцёле ўсё агітуе, і так упарта: не пі, не пі, толькі чай, а то бог любіць не будзе. Я колькі бацюшак ведаю — любы не супраць чаркі. У іх сухога закону няма.

— Маеш рацыю, богі павінны быць вясёлыя, жыццялюбныя. Калі ён увесь час не ў гуморы, на мазгі капае — навошта ён мне такі? Я й сам часта: як у гаўнішчы настрой, горш не бывае, а тут яшчэ не выпіць.

— Херня нейкая!

— А вось раней богі якраз весялейшыя былі, можа таму што ў сябрыне, у кампаніі — жыццярадасныя, успомніце Тараса, "што палясоўшчыкам служыў"!

— Ха, сапраўды!

— "А на дварэ тым свінні ходзяць, каровы, козы, бараны... Знаць і багі хазяйства водзяць, калі свіней дзяржаць яны".

— "Як у казарме тым салдатаў — багоў — няможна сашчытаць!"

— Але ж трапна, халера, сапраўды!

— "Тады праворна дзеўка Геба гарэлкі ў чаркі наліла..."

— "Багі гарэлку піць пачалі, з насадкі ў чаркі так і льюць!" "Аж слінкі пацяклі ў Тараса і забурчэла ў жываце"...

— Так, так! Во гэта былі людзі — танчылі, спявалі, народа не цураліся.

— Сапраўды, балявадь былі мастакі.

— "Дык вось што бачыў наш Тарас, к багам узлезшы на Парнас. Ён гэта мне апавядаў, а я ў паперку запісаў". Памятаем, не забыліся са школы.

— А гэныя, "жыў-быў Эней, дзяцюк хупавы", яны ўвогуле сівуху жлукцілі, таксама Зеўс з імі, ды іншая кампанія.

— У нас тут не літаратурныя чытанні, годзе з вершамі, Мацеі Бурачкі з Сымонамі Рэўкамі.

— А ў мяне думка стрэліла: гэны Тарас жа з Парнаса зваліўся, а богі, яны ж, мабыць, з крыламі былі, калі там жылі высока, га?

— І што?

— Як што? І нам бы не перашкодзілі, калі на тое пайшло, калі нам як багам — з вялікай літары.

— Здурнеў?

— З крыламі гэныя. Анёлы.

— А яны па-твойму хто — людзі звычайныя?

— Ну, не ведаю.

— Гусары крылатыя існавалі калісьці.

— Нават коні з крыламі бываюць.

— І свінні таксама. У песні чуў.

— І нават чэляс, я аднойчы бачыў такі намаляваны, эмблема нейкага фэсту. Такі з шулятамі і з крылцамі — тырчма, як гурок. Дальбог, хлопцы. Накшталт эмблемы нашага аўтамабільнага палка, толькі там колы замест яец. Таксама з крыламі, ці памятаеце?

— Я ў авіяцыі служыў, у нас прапелеры скрыжаваныя.

— Так, прыкольна было б — залатвіць усе справы, падбіць бабкі, навесіць замок на дзверы: "Райкам, самі ведаеце, — дзе..." Паляцім чарадой на курорт, у Крым, у субтропікі, ці ў Сочы. Па тыпу як буслы у вырай, часова, канечне, на выхадныя.

— Альбо на перамовы ў Катманду — усе разам, паліва сэканомім. "Ляціць, ляціць па небе клін стамлёны,.. быць можа гэта месца для мяне".

— Кінъце дурное, калі ўжо ляцець, дык у Дудуткі — па самагонку партызанскую.

— Партызанская ў Жажэлцы.

— У Жажэлцы настойка, прычым гаркавая.

— А табе б хацелася, каб салодкай?

— Э не, спадары міністры, гайда лепей на Купалле! Вогнішчы, вянкі ў рацэ. Любошчы! Можа нават папараць-кветка знойдзецца. З крыламі ўсё можна.

## СЦЫЛА ХАРЫБДАЎНА

### Пасяджэнне шаснаццатае, пра кухарак, якія здольныя кіраваць дзяржавай

— Спадары міністры, слухаць сюды! Што там за размовы? Нас крытыкуюць, што няма дэмакратыі, што кухаркі не кіруюць! Самі, кажуць, ушчувалі нас калісьці, а цяпер палічыце — у каго колькі жанчынак у дзяржаўным апараце? Сорамна! І паспрабуй плюнь у вочы! Трэба развіваць усямерна крытыку і самакрытыку, як завяшчаў Іосіф Вісарыёнавіч, трэба навучыцца заўважаць бервяно ў сваім воку.

— І што ты прапануеш?

— Трэба навесці парадак. Кожная кухарка можа кіраваць дзяржавай...

— Можа ці павінна?

— Даслухай спачатку! Кожная кухарка можа кіраваць дзяржавай. Гэта —аксіёма, альфа і амега. Гэта — адзін са стаўпоў, на якіх трымаецца нашая ўлада! За што кроў нашыя дзяды пралівалі?

— Чыю?

— Ах ты дасціпнік, выйдзі за дзверы! Наступным разам без партфеля застанешся! Кухаркі кіруюць, хто не робіць, той не жуе! Затым: фабрыкі — рабочым, уладу — саўдзепам, зямлю — сялянам! Ад кожнага па здольнасцях, кожнаму — па патрэбах! Што яшчэ?

— Перакуем мячы на арала!

— Правільна!

— Лепш менш, ды лепш!

— Яшчэ!

— Два крокі наперад, тры назад!

— Усё лепшае — дзецям!

— Дзеці — наша будучыня!

— Камунізм не за гарамі!

— Як нам рэарганізаваць “рабкрын”?

— Досыць!

— Так-так, сапраўды, хапіла, ведаеце, не забыліся, мазгі яшчэ не адсохлі, гэта цешыць.

— Дык я пра кухарак. Што языкі праглынулі? А яшчэ міністры! Калі вам не патрэбны, папросім у сталоўцы — хай заліўных нагатуюць — пальчыкі абліжаш! Ха-ха! Заліўныя языкі. Ох люблю, цымус! Мая жонка, ох умее! А ты што любіш, Пятро Міндоўгавіч?

— Чым закусваць? Я — шчакавінкай.

— Ха-ха-ха! А языкі ніхто не любіць, ніхто?

— Калі толькі не свае…

— А ў цябе іх многа хіба?

— Я ж не цешча, у мяне ў адным экземпляры, гэта ў яе раздвоены.

— Што ж мы — да цешчы на язык? З часнычком, з моркаўкай. Ладна, жартую, вяртаемся да тэмы, да яе вялікасці кухаркі.

— Ведаеш, калі па шчырасці, каб мая жонка — кіраваць, яна ж таксама кухарка — дома, на кухні калі, тым больш каб цешча, не дай божа, я б не хацеў, вельмі не хацеў бы. Хоць вешайся тады…

— А чыя жонка, спадары міністры, вартая, каб кіраваць дзяржавай?

— Якой, нашай?

— Не абавязкова, абстрактнай, якой не шкада, ха-ха.

— Якой не шкада? Ну, тады гэта зусім іншы каленкор! Такіх хапае: Нігер, да прыкладу, ці Судан, Джамахерыя якая-небудзь, словам.

— Але ж ты замахнуўся — у Джамахерыю цешчу! А калі даведаецца? Што будзе? Гамон?!

— І каго ж куды пасылаць будзьма канкрэтна? Як размяркуем? Ці паперкі цягнуць, па тыпу лато?

— Пачакайце! Цікавая думка! Хай мая жонка іх там навучыць баршчы варыць, наліўку рабіць-вішнёўку. Я згодны добраахвотна.

— Мая цешча і самагон навучыць.

— Спажываць ці гнаць?

— Не бойся, усё патрапіць.

— У іх там рэлігія забараняе, муэдзін.

— Не трэба па ваду за мяжу хадзіць, пагляньце — колькі ў нашых суседзяў іх: радысткі, танкісткі, міністры абароны, адна Ангеліка іхняя чаго варта!

— А я чуў, малака не будзе, калі на такой пасадзе, цяжар адказнасці, нервы. Мужыку ж, яму — хоць ты што, у яго ж малака так і так няма.

— З яго, як з казла малака, ха-ха.

— Жанчына — маці кормячая. А то цяпер усё — жуйце “рыглі-спірмінт” замест малака. Замест пялюшак — цэлыя трусы выкідаюць ураз. Гэта колькі за дзень атрымліваецца? Ніякая эканоміка не вытрымае!

— Баба на караблі — кепская прыкмета, “Тытанік” чаму патануў? Усё праз гэта. Хто б мог падумаць!

— А ў арміі генералы-бабы ёсць хіба, у спадніцы з лампасамі? Не было Аляксандры Македонскай ці якойсьці Суворавай, не было! Хоць мяне страляй, не ведаю! Прапаршчыц толькі знаю. Уявіць: баба з наганам, з аксельбантамі?!

— У вайны не жаночае аблічча, мужыкі.

— Як жа: у яе твар смерці, а смерць — яна, хлопцы.

— У смерці не твар, а пыса, у лепшым разе грымаса проста.

— Але калі маўчаць гарматы, усе хочуць есці і жанчыну. Медыцынскі факт!

— Давайце мужчыны вернемся да тэмы дня: ці можа кухарка, еці-ё маць, кіраваць дзяржавай? Як завяшчаў Ільіч?

— Сам-то трымаў жонку для баршчоў, Інэсу Арманд — для натхнення, а да стырна дзяржаўнага не падпускаў, там мужыкі як

павукі ў слоіку таўкліся. Гаварыць можна ўсякае пра кухарак, калі абстрактна!

— Правільна, ты спачатку сам паспрабуй, пакажы прыклад іншым. А так —пустыя словы, херня поўная.

— Ха, зноў успомнілася: касманаўтка там “уверх тармашкамі”, як у бляшанцы, а ў самой месячныя, прабачце. Баба бабай застаецца. Як прызямлілася, дайце малака ёй тэрмінова з-пад каровы. Балда! Сапсавала ўвесь эксперымент, мільёны ўгробіла! Пастаў кіраваць дзяржавай, шкоды наробіць!

— “Зялёныя” у іхняй Швейцарыі замянілі цяпер усе мужчынскія словы жаночым родам, сталі пісаць, што ў Швейцарыі жывуць “швейцаркі”. “Мілкі-вэю” абжэрліся, з глузду з’ехалі, мужыкоў скасавалі, хай на словах!

— У Шатландыі даўно спадніцы любяць, але там галоўнае — што пад ёй…

— А што ў Ільіча наконт кухарак у артыкуле?

— Ар-ты-куле!.. Гэта фундаментальная праца! Ільіч абгрунтоўвае ў ёй неабвержную магчымасць, прыроднае права кіраваць царствам божым на зямлі, так сказаць.

— Але ж ты нацямніў. Пры чым тут царства божае?

— Уся ўлада ад бога. Ты не ведаў? Спытай уладыку Філафея.

— Ты пра Ільіча больш давай, не пра царства. Што мы тут — цары хіба?

— А хіба не? Мы ж кіруем!

— А павінны кухаркі. Ці кухарка, самая геніяльная.

— Ды што там у Ільіча было, прасвяці!

— Ільіч піша: кожны просты чалавек не дурнейшы за пана, не дурнейшы за цара нават.

— Хто б сумняваўся!

— А тады гэта была навіна, гэта было адкрыццё, рэвалюцыйны погляд на класавае грамадства.

— Зноў марксізм-ленінізм?

— Самі ж прасілі, дык слухайце, гэта ж на пальцах не пакажаш, гэта ж філасофія.

— Давай-давай, працягвай, мы слухаем, а хто не хоча — хай за дзверы. Трэба ж разабрацца з кухаркамі фундаментальна, а то ўсё па вярхох, па вярхох, а як там яна на кухні будзе кіраваць дзяржавай — няясна.

— Ільіч быў геніяльны мысліцель, светлая галава, карыфей!

— Так-так, хораша сказана.

— Ён быў Калумбам у плаванні да невядомых берагоў, да неадкрытых мацерыкоў, дзе пануе класавая справядлівасць, дзе хто працуе — той ясі.

— І наадварот!

— І наадварот. Дзе паразітам не даюць здзеквацца з простага люду, не пушчаюць кіраваць, дзе ўладараць кухаркі.

— Пачакай: дык што, там матрыярхат быў, еці іх маць?

— Не перабівай, саб'еш з тропу чалавека. Гэта ж філасофія! Чыстая навука, а ты са сваімі рандэлкамі, з падгарэлымі катлетамі.

— Так-так, з хлебнымі! Знаю я гэтых кухарак!

— Пачакай, дык што там Ільіч? Працягвай, цікава! А то няма калі кніжку пачытаць, так і стаіць збор твораў, пыліцца.

— Што, чытаць развучыўся? Сам вазьмі ды пачытай, а нам тут антымоніі разводзіць — часу няма!

— Але ж у нас тэма сёння — пра кухарак, Ільіч абгрунтаваў тэарэтычна, з яго й пачалося, ён усё прыдумаў.

— Ён прыдумаў, а нам цяпер расхлёбвай.

— Не дурыце, спадары міністры, уся Еўропа бабам уладу перадае, а мы што — Азія?

— А яны ўсе кухаркі, дакладна?

— Кухаркі-кухаркі, а ты як думаў?

— Я таксама мыслю: любая кабеціна хоць аднойчы яешню сасмажыла, боршч зварыла, значыцца кухарка, а па-твойму — што?

— Па-мойму, па-твойму! Гэта як са спортам калісьці. Там у іх —прафесіяналы, а ў нас усё ама-та-ры, вось. Надурыць усіх хацелі? Гэны, што геній хакейнай брамы — які ён аматар? Ён маёр быў, дык маёрам ён быў якраз аматарскім, ён пагоны толькі на святы адзяваў, а з клюшкай — кожны дзень ад зары да зары, як у песні.

— А прычым тут кухаркі?

— Так, сапраўды?

— Дык пра Ільіча будзеце слухаць, ці не? Добра, на чым я спыніўся? Я спыніўся на тым, што народ эксплуатавалі як маніну карову, смакталі з яго кровушку, выціскалі сокі, прадавалі разам з быдлам на кірмашах, у Ільіча сэрца крывёй сачыцца, калі ён піша пра гэта. І вось ён з кіпучым гневам абгрунтоўвае прыроднае права гэтай сацыяльнай жывёліны, у якую ператварылі народ, людзьмі звацца! Людзьмі з вялікай літары — як цары і памешчыкі.

— Ну добра. А кухаркі? Чым кухаркі лепшыя ад іншых?

— Кухаркі ўсіх кормяць. Значыцца, дай у рукі краіну, галодных не будзе конча, усе будуць накормленыя, усе сытыя.

— Але ж ты аляґорык, Кузьміч. Яны ў сваёй пячоры чаму маглі накарміць усіх? Таму, што паляўнічы прынёс здабычу.

— Правільна, засмажыць кожны дурны здолее, а ты паспрабуй упалюй.

— Дык хто тады важнейшы: кухарка ці паляўнічы?

— Курка ці яйка? Ха-ха-ха! Але ж мы, спадары міністры, у такія джунглі заблукалі са сваім Сусаніным — “я сам заблудзіўся, не відна ні зґі”!

— Херня нейкая.

— Сябры мае, спадары міністры, што такое жанчына з пункту гледжання нашай філасофіі, з гледзішча марксізму? Вось адзін паэт напісаў абы-што: у побыце, кажа, выкарыстоўваецца для кахання, нараджэння дзяцей, для хатняй гаспадаркі, танцаў. Хаця так і ёсць, супраць праўды не папрэш.

— Я не згодны. Кухарка, яна сапраўды здольная, на ўсе рукі.

— Гэта чаму ж?

— Тут жа гаварылі: яна ведае, як накарміць. Накарміць краіну цэлую. І ўмее гэта зрабіць. А гэта сёння самае важнае.

— І як яна гэта ўмее?

— А ты не знаеш? Ведае — дзе, што й калі даюць — дзе мяса, дзе сасіскі, дзе памідоры. І па колькі ў адныя рукі. Як паспець чэргі заняць, каб адначасова здолець усё купіць, не прапусціць. І каб грошай хапіла, і каб рук — прыцягнуць дахаты ды зварыць, каб усім спадабалася, каб дасыта, каб усе задаволеныя. Каб не бурда, як парсюкам.

— Во адкрыў Амерыку.

— І краіну гэтак жа накарміць трэба, народ, каб хапіла, каб не было перабояў. Каб пазбегчы перакосаў звычайных: у адным месцы толькі капуста марская, у другім —ількі, у трэцім — цяфцелі з груцай.

— Ды любы мужык боршч зварыць без праблем, яешню.

— Зварыць, што есці немагчыма. Ведаеш, як піца атрымалася?

— Усыпала ўсё да купы, ну й што? Што тут геніяльнага?

— А тое, што праславіла ўсю Італію. Раней толькі спаґеці былі, а цяпер спаґеці і піца. І масліны.

— І к’янці.

— Мне лепей падабаецца грапа, іхняя “беленькая”.

— Якія загалоўкі ў часопісах — паслухайце: “Жаночыя попкі выпрацоўваюць у арганізме мужчыны наркотыкі”. Беліберда, канечне, бязглуздзіца. Але наконт попак — гэта дакладна, прыцягвае.

— Паважней трэба, паважней, мы — урад! Мяне вось абурыла: у адной кампаніі кіруе бабёшка, дарвалася як голы да ражкі. І што вы думаеце? Жаночай кантора стала. Мужыка пакінула адзінага толькі — швейцарам на дзвярах. Ганьбішча! А свае фотапартрэты паразвешвала ў калідорах: уладная, каменны твар, ледзяны позірк, палец у рот не кладзі. Бізнес-лэдзі, бізнес-вумэн! Забыліся пра анекдот ужо? “Лэдзі і джэнтэльмены! — Пераклад: бабы і мужыкі!” Джэнтэльмена — дзверы расчыняць, тфу!

— Мужык-швейцар? У лампасах, у ліўрэі? Перад бабамі выгінацца? Ручкі цалаваць, шапку здымаць перад імі? Пачварства!

— Раней мадона з цыцкамі распатроненымі, з усмешкай бледнатварай, корміць сабе дзіцёнка і нікуды не лезе. А цяпер як сялёдкі, усё на сумесях.

— А табе хочацца жанчыну-ударніцу, кроў з малаком, бой-бабу?!

— Сэкс-бомбу, як у песні!

— Бабе трэба бізун і пернік, толькі расслабішся, на шыю павесіцца, на карак узлезе, на галаву сядзе, звяжа па руках і нагах, як камень прывешаны.

— Па целіку — “самыя сэксуальныя аўтамабілі для прыгажунь” — што гэта такое?! Дзікунства, абракадабра.

— А ці вядома табе, даражэньні Пал Палыч, што ў іх там завядзёнка — у машыну і за горад, каб на сядушках тудой-сюдой, тудой-сюдой.

— У нас машына сродак руху, а не раскошы — на дачу, па грыбы, а не бардэль, прабачце, на колах!

— Не, я не магу гэтага чытаць: апроч дыяментаў і сукенак ад вядомых дызайнераў, у прыгажунь у вялікім гонары самыя модныя, самыя крутыя аўто! Гламурная машына — ах! Імі-джы-вая машынка ўсяго за сто дваццаць штук! Еўра-штук!

— А я тут сяджу чытаю: паказы споднняй бялізны будуць цяпер у самалётах, каб весялей ляцець. Можа і на падводных лодках ці ў космасе зрабіць?

— Херня нейкая.

— А хай у космасе іншапланецяне падзівяцца на гэны цуд у пер’ях.

— А конкурс “А ну-ка, дзевушкі!” памятаеце? Усе да экрана прыліпалі ўвечары. Вось хай яны і далей займаюцца — апарат даільны разбіраюць, як мы “калаха”, харчо гатуюць! Што, не маю рацыі?

— А ўзяць гэных — Клару Цэткін ці сяброўку — Люксембургскую Ружу. Яны — што — кухаркі былі, ці не?

— Яны былі партыйнымі правадыркамі, маглі, значыцца, кіраваць дзяржавай рабочых і сялян.

— Але ж тут патрэбны менавіта кухаркі, старшыня саўміна ясна сказаў.

— Знаеш што? Марксізм не догма, а кіраўніцтва да дзеяння. Дый увогуле: калі яна хоць некалі боршч зварыла, значыцца можа лічыцца кухаркай, толькі для якой гэта хобі — катлеты смажыць.

— А ты ведаеш, якія ў дылетантаў, у аматарак тваіх катлеты атрымліваюцца?

— Што, з мухамі бываюць? Ха-ха.

— Знайшоў з чаго жартаваць. Мух трэба ўмець адасабляць ад катлет.

— Кухарчыны дзеці — вось хто шкодніча е, катлеты мухамі псуе…

— Ставіць бабу на п'едэстал, на пастамент? Пакланяцца? Што яна — помнік, статуя, божышча якоесьці? Хаця проста прымітызаваць — прыбіральшчыца ў хаце, кухарка, для ложка яна — таксама не варта, бадай. Пакрыўдзіцца яшчэ.

— Хто здабытчык ежы, хто паляўнічы? Дзе лягчэй — на маманта з кулакамі, з палкай, з каменем, ці ў пячоры грэцца ля вогнішча, на шкурах, падкідаць голле, чакаць пакуль мужчына не прыцягне на карку таго самага маманта?

— Нявеста-палюбоўніца-жонка-маці. Гэ-эх. А наконт “правіла вялікага фаласа” чулі? Якім ніхто не валодае? Яд дубінай народнай вайны, што гуляецца сама па сабе, ха-ха. Адным махам семярых убівахам, па тыпу.

— Падумаць толькі: жанчынка-прэм'ер… У жахлівым сне не сасніцца. А як жа крытычныя дні? Тут жа трэба габляваць і габляваць, не разгінаючыся. Няма часу на сантыменты і антымоніі. Таварышка старшыня ўрада або спадарка… Сцы, Сцы, Сцыла Харыбдаўна! Жах.

— Старшыня — слова жаночага роду! Гэта вам не дырэктар, не брыгадзір.

— Дык што там Ільіч меў на ўвазе? Ён гэта сур'ёзна цалкам, ці ў пераносным сэнсе нейкім? Наконт кухарак?

— Ды ў канцы жонка пісала за яго збор твораў, адукаваная была, інстытут высакародных дзявіц скончыла. Яна магла што заўгодна напісаць, пра кухарак тых жа, каб супраць мужыкоў.

— Ты што: здурэў? Не можа быць!

— Можа, Федзя, можа. Ільыч з глузду з’ехаўшы быў, ікрой пляваўся. Медыцынскі факт. А за цябе даклады піша хто, сам хіба?

— І што: яна пра кухарак, хочаш сказаць, без Ільыча нашрайбавала? Каб далі раўнапраўе? Нішто сабе яйцы!

— Суцэльная правакацыя. Як ім можна тады ўвогуле давяраць?

— Маці-гераіня, ардэнаноска, ударніца, перадавіца, даярка-пяцітысячніца, увесь бюст ва ўзнагародах, абедзве цыцкі. Гонар і пашана! А палітыканстваваць — не бабскі занятак. Партыю жаночую прыдумалі. Навошта? Каб разбэшчваць шэрагі, разбураць палітычную сістэму? Што яшчэ за дыскрымінацыя паводле палавой прыкметы? У нас усе роўныя!

— Ды плюнь, хто ў такую партыю пойдзе?

— Не! Гэта ж уявіць сабе, каб нашая працавітая, лагодная, згодлівая, памяркоўная жанчынка сама вырашыла на прэм’ера вылучацца. Абсурд! Хто яе падвучыў? Хіба што ворагі нашыя, самыя заклятыя.

— Палітыка — гэта бруд, згадзіцеся, спадары міністры. Бруд, дзе корпаюцца кабаны, дзікі. Непераборлівыя звяры. А жанчына, яна прачка, яна ўвесь час нешта мые: бялізну, посуд, яна не можа без чысціні, ёй палітычная кухня нашая супрацьпаказана. Чысцёха яна. Майдадыр!

— Хай яны, спадары міністры, кіруюць дзе заўгодна, дзе сапраўды не шкада. А нам не трэба паддавацца на правакацыі розных еўрапеоідных устаноў.

— Так-так, у нас жанчына мае аднолькавыя правы з намі, але гэта не значыць, што большыя. Гэта розныя арганізмы, мужык цяжарным не можа, дзяцей нараджаць таксама. Гэта й не трэба, кожнаму сваё.

— Так, грудзьмі карміць не можа, месячных не мае.

— Але ж ты трапна!

— Дзякуй. У іх затое няма таго, што ў нас. Хай тады не лезуць кіраваць, паразіткі.

— Дай бабе пакамандаваць і ўсё, капцы, горш за старшыну, хавайся ў бульбу, хлопцы!

— Рацыя, калі не дагадзіў — усё, гамон!

— Я таксама пакаштаваў калісьці, гэта ж Мегера, Сцыла і Харыбда разам!

— Так, калі падначалены, сем шкураў злупіць, ты для яе ніжэйшага гатунку!

-У нас калісьці была нават не галоўны бухгалтар, касірка ўсяго, дык, быццам свае асабістыя ад сэрца адрывала, чаргу па заробак школіла, быццам сама грошы гэтыя малявала. Як каго не залюбіць, дык апошнім атрымаеш і настрой сапсуе. Мы былі гатовыя, не ведаю, знішчыць сцерву.

— А знішчала яна вас, ха-ха, у бараноў рог скручвала — гэх вы, мужыкі! “Мы не рабы, рабы не мы”, забыліся?

— Пайшоў ты, прабач.

— Такая баба “маладзец сярод авец”, а калі пастух ёсць, калі пастыр, ды з пугай і не дасць крыўдзіць статак, яна ўраз як шаўковая робіцца. Дальбог.

## УЦЕЧКА МАЗГОЎ

### Пасяджэнне сямнаццатае, пра сіліконавую даліну

— Шаноўны ўрад, любыя сябры мае, спадары міністры! Падаб’ем бабкі нашай пяцігодкі якасці мазгоў, сіліконавай пяцігодкі. “Дагнаць і перагнаць Амерыку!” — застаецца вечна надзённай справай. Нашыя бацькі пра гэта дбалі, высільваліся, нашыя дзяды марылі! Нам іхняга лэнд-лізу не трэба: жуйкі, кока-колы, Мікі-Маўса і Санты-Клаўса. Баста!

— Баста, Кастусь Сымонавіч, баста! Прыма-вера.

— Коза-ностра!

— Вэры гуд, спадары міністры, ол райт!

— Хэпі энд, ці не зусім хэпі?

— Хэпі, хэпі, не бойся, Лягір Іванавіч. Усё о’кей.

— А што о’кей, Сымонавіч?

— О’кей наш пачатак усіх пачаткаў, карацей, першы блін зусім не камяком.

— Есці можна, ха-ха? Не атруцімся? Бягункі не будзе, кажаш? А гарантыі якія?

— У цябе можа й будзе, як дамо штрафной рыцыны, разумнік знайшоўся! Абы языком мянціць. А ты молатам памахай, ці шуфляй, адразу жартаваць забудзешся.

— Дык тут жа мазгамі трэба.

— Мазгамі. А калі ў некаторых няма?

— Хай тады партфель здае і пячатку.

— Жартаваць, знаеш, гэта лепей, чым закупорку мазгоў мець…

— Цішэй, забіякі! Зараз усім мазгі прачысцім, пачакайце. Кожны атрымае магчымасць, рыхтуйцеся!

— А гэта будзе накшталт баракамеры, ці што?

— Якая табе розніца, прачысціць адтуліны сабраўся сапраўды?

— Дык жа Францавіч кажа.

— Паслухай, Мультан Лукіч, не прымай усё за чыстую манету, я табе кажу. Не так хутка справа робіцца, як той казаў. Гэта яны яе толькі прыдумалі яшчэ, абмазгавалі, дацэнты з кандыдатамі. Чарцяжы-муляжы намалявалі. Трэнажор зараз змайструюць. Можаш спаць спакойна пакуль, я табе кажу.

— А можа не трэба?

— Што не трэба?

— Ну, гэтую храновіну рабіць. Ёсць жа гэты, хапае дэтэктара іхняга: брэшаш ці не, адразу зразумела. Там прылепяць да галавы, да грудзей, плячэй прысмочкі і рэзкія пытанні, каб вызначыць, што ў цябе ў галаве. Не абдурыш. Можа купіць пару штук у іх і не мучацца, не дурыць сабе галавы болей?

— Але ж ты алягорык! Няўжо не разумееш? Гэта ж пад рубрыкай "купляй нашае, купляй сваё"! Ты што — супраць? Не падтрымліваеш хіба?

— Я? Я? Чаму супраць? Здурнеў? Я таксама патрыёт. Я піва толькі наша, гарэлкі чужой — ні кроплі.

— Дзе твой алей, Пракоп Спартакавіч?! Гарэлку мы табе не забараняем, у нас канстытуцыя! Маеш права. Гэта ж нашы продкі марылі дагнаць і перагнаць Амерыку! Паважаць трэба! А ты — давай да іх на паклон, у ножкі кінемся, пару іхніх храновін выкупім на народныя грошыкі. Зрабіце ласку!

— А пайшоў ты! Знайшоў ворага. Ды мне галавы не шкада для радзімы, каб ты ведаў. А гарэлку сапраўды толькі наскую, не раўнуючы з некаторымі, не будзем паказваць пальцам.

— Знайшоў злачынства! Гарэлка ўся аднолькавая, колер не адрозніваецца і градусы, у нас канстытуцыя, права на выбар. Гарэлкі не маюць нацыянальнасці, ха-ха.

— Годзе спрачацца! З хаты выганю! Трэба канструктыўна, ад тэмы не адхіляцца ў нетры немаведама якія. Запомніце: гэта прарыў на фронце навуковым! Прычым не проста навука дзеля навукі — якія, маўляў, мы разумныя, а-я-яй! Не! У нас і рукі ўстаўлены патрэбным канцом, у нашых дацэнтаў з кандыдатамі. А мы ім палкі ў колы! Мы іх па руках! Амерыка толькі дзякуй скажа. Адразу ім "грын

кард”. Каб не было ўцечкі мазгоў, трэба ім занятак даць. Каб не кусаць локці потым. З Амерыкі ніхто не вяртаўся яшчэ.

— Ніхто. Не паспрачаешся.

— Амерыка ёсць Амерыка. Санта-Клаўс і Мікі-Маўс.

— У іх паліграф, а ў нас мазгачыст будзе. Ад дурных думак, ад смецця прапердоліць, прафунгуе, прапрэ, як ад рыцыны. Прасвішча да вантробаў. Толькі каўтун захістаецца на галаве.

— Лепей мазгачыстка тады хай называецца — як зубачыстка ці вуха...

— Як скразняком, як магнітам — пілавінне жалезнае — магутна будзе!

— Прачысціць адтуліны як мае быць. Прапыласосіць, правентылюе.

— На працу прымаць, у армію, у інстытут, на дзяржаўную службу, у міліцыю асабліва, у надзвычайку! Толькі пасля праверкі. У галаве папросту ўсплывае раптам уся рэклама мыйных сродкаў, ачысных усякіх там. А “білабан”?! Ні халеры не памятаю, кажа. А мы яму замест пігулак — мазгачыст! Айчыннай вытворчасці, і ніякай табе хіміі!

— Рацыя, да мазгачыста галава як чарвівая, у шлаках, сажы, пазадках разумовай, так бы казаць, дзейнасці. Карацей, запыленая. А тут анучку не возьмеш, не атрымаецца, не той выпадак. У мыйку не здасі, як каўтун свой. Тут трэба тэхнічна, навуковы падыход.

— А сіліконавыя цыцкі будзем таксама рабіць, выпускаць?

— Табе цыцкі навошта Мультан Лукіч? Асабіста, ці жонцы?

— Навошта жонцы? Няма чаго скардзіцца. Я кажу: прыгажуням нашым, міс, на экспарт. Хай праслаўляюць радзіму.

— Так, гэта не жартачкі: прачыстка страўніка, кішэчніка — сёння сапраўды вельмі папулярна, а з галавой нічога зрабіць не могуць, не прыдумалі сродкаў адпаведных. А тут табе — свежая башка, пах на выбар: сасновы бор, горнае паветра, марская хваля, водар чабаровы...

— Мазгі трэба берагчы, ясна, ашчаджаць, эканоміць. Шэрае рэчыва не купіш у магазіне, не скажаш: узважце мне дзвесце грамаў. Шэрае рэчыва на вагу золата. Гэта не грошы, не надрукуеш колькі трэба, колькі душы заўгодна.

— Каб не ўцякалі мазгі, трэба падпіску аб нявыездзе браць. Штамп у пашпарце і — арывэдэрчы.

— Гэта сэнсоўна, бо інакш як утрымаеш? Як скрозь пальцы пясок прасочацца. Як пацукі з карабля нашага цікаюць...

— Лепей ліміт зрабіць: больш за дзвесце грамаў каб не бралі, хай круцяцца тады, або — хай пераплочваюць як за лішнюю жылплошчу.

— Мазгі і жылплошча — гэта ты па-хвацку, па тыпу: трэба дома бываць часцей, ці накшталт таго.

— Халера, вось праблемы: уцечка, памер мазгоў, аб'ём, змесціва галавы. А, дапусцім, змест шэрага рэчыва, паставіць задачу вучоным, — праглядаць навучыцца, правяраць думкі, фатаграфаваць — што ў іх там узнікае. А галава перагрэлася — як у прасе — дзірачкі з парай — і каб усё фатаграфаваць, напрыклад.

— Ну, гэта ўжо задача будучыні, перспектывы нашай сіліконавай даліны.

— Ты вось сказаў наконт праса, Цішка Гартавіч, а мне мазгі бачацца як цеста, рошчына, з-пад накрыўкі расцякаецца, як шумавінне якое, не паспяваеш рукамі назад заладоўваць і, галоўнае, сэнсу мала.

— Так, пільнаваць трэба, ледзь што — ногі робяць, паразіты. Колькі воўка не кармі…

— А ты добра кармі, Пятро Міндоўгавіч, як каню: не сенца, аўса не шкадуй. А як ты думаў? Ды ў іх залатыя рукі, у нашых з вамі дацэнтаў-кандыдатаў. Яны такі самагонны апарат змайструюць, калі захочаш — фабрычны, храміраваны, з наваротамі. З прычындаламі! Не сорамна перад заграніцай будзе!

— Але ж навошта нам самагонны? Нам трэба дагнаць і перагнаць Амерыку! Па магчымасці. Вось машынку прыдумалі для мазгоў, ноў-хаў. Гэта ўжо штосьці.

— Каб на лес не глядзелі, трэба хоць чым рукі заняць ім: хай хоць ровар паўторна прыдумляюць. Мы, атрымліваецца, мазгі гэтыя гадавалі, рыхтавалі, даглядалі, а гэная Амерыка карыстацца будзе на халяву.

— Трэба мараторый абвясціць, нацыянальным здабыткам, народнай каштоўнасцю, дзяржаўным скарбам.

— Нерухомай маёмасцю! Як залаты запас. Энзэ, на чорны толькі дзень. Не важна, што ты гаспадар, уласнік. Вывозіць не ўсё можна. Карыстайся ўнутры, дома, па месцы жыхарства. Куй сваё жалеза, не адыходзячы ад касы… Цяпер на даму працаваць модна, у родным куце, які так мілы.

— Лямантаваць пачнуць: рукі прэч ад нашых мазгоў!

— А мы канфіскуем, ха-ха, накладзем лапу, арышт зробім, замок павесім, а ключ выкінем ці схаваем, няхай сабе.

— Раней мы іх на бульбу, у калгас, каб думак дурных не было, каб на хлеб сабе зараблялі, каб не заставаліся ў баку ад бітвы за ўраджай. А сёння на бульбу не кінеш, сёння іншыя часы. Сёння ўцечка мазгоў, калі што, такая пошасць, што ніякай бульбы не захочаш.

— Карацей, хай менш у хаце кіснуць, марынуюцца, чым на Амерыку працаваць.

— Дык у нас жа канстытуцыя, а мазгі, яны, кожны мае права на іх, на свае.

— Гэта ж чаму?

— Як чаму? Гэта прыватная ўласнасць, можна сказаць.

— Як гэта прыватная? У нас няма прыватнай, у нас грамадская, аграмаджаная. А калі вучоны з імем, то дзяржаўная ўвогуле! Колькі ў яго грошай уклалі, у мазгаўню ягоную. Хтосьці ў калгасе пад дажджом, у гразі, хтосьці ў шахце, у шкодных умовах, а ён у чысціні і святле, на ўсім гатовым. Гэта што: жартачкі? Прэміі, званні, лаўры, пайкі! Трэба адрабляць, інакш хай плацяць, пералічваюць амерыканскі заробак у казну. Мы ім такі рахунак намалюем!

— Ды што рахунак, галаву ламаць лічбамі. Можна прасцей. Запішам у канстытуцыі: мазгі здаюцца грамадзянам у арэнду. У бестэрміновую!

— Ты не гарачыся, Мультан Лукіч. Можна хітрэй рабіць, чысціць мазгі і адсылаць ім у Амерыку, сціраць, размагнічваць памяць. Наце вам на лапаце, карыстайцеся на здароўе! Tabula rasa, як казалі старажытныя грэкі ці рымляне. “Чыстая дошка” па-нашаму. Хай тады самі пішуць любыя надпісы, хоць “факі” свае, ха-ха.

2000, 2005-2007